30 мая 2014 | № 21 (390)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ЛАПІКАВАЯ КОЎДРА САВЕЦКАЙ ІМПЕРЫІ

Артыкул Алега Панфілава

ISSN 2218-2144

6 ЦІ АТРЫМАЕЦЦА РАСПРОДАЖ?

Беларускія ўлады ў чарговы раз спрабуюць выканаць план па прыватызацыі. На распродаж выстаўленыя акцыі 83 беларускіх прадпрыемстваў




27 СПІРЫТУАЛЬНАЯ АТАМНАЯ БОМБА



50 гадоў таму, у маі 1964-га, пабачыў свет цытатнік Маа Дзэдуна (Малая чырвоная кніжка Маа), які па накладу дасюль утрымлівае тытул другой пасля Бібліі кнігі ў гісторыі

9–24 Літаратурная Беларусь

30 ТАЯМНІЦА АДНАГО ЗАБОЙСТВА

70 гадоў таму пад Валожынам быў забіты кіраўнік Дзяржаўнай дырэкцыі лясоў ІІ Рэчы Паспалітай Адам Ларэт. Да сённяшняга дня мала хто ведае абставіны гэтага злачынства

# Рэфармавацца ці зікнуць

## Еўропа ніколі не будзе такой, як раней



Алег НОВІКАЎ

Пасля выбараў у Еўрапарламент перад ЕС паўстала альтэрнатыва: альбо імклівая рэфармавацца, альбо паўтарыць трагедыю Веймарскай рэспублікі, якую знішчыла хваля правага радыкалізму.

На першы погляд, нічога жудаснага 25 мая не адбылося. Еўрапарламент дасюль хутчэй кансультатыўны орган. Еўракамісія — выканаўчы орган ЕС — аўтаномная структура, і нават можа не звяртаць увагу на парламенцкія рэзалюцыі.

Акрамя таго, цэнтрысцкія праеўрапейскія партыі атрымалі ўстойлівую большасць, хаця колькасць іх мандатаў і скарацілася. У трох вядучых аб'яднанняў — кансерватараў, сацыял-дэмакратаў і лібералаў — каля 65 працэнтаў месцаў. Разам з зялёнымі, якія крытыкуюць ЕС з праеўрапескіх пазіцый, у еўрафілаў атрымліваецца ўвогуле большасць — 523 мандаты з 751-го.

Гэта азначае, што надвор'е еўраскептыкі рабіць не здольныя. Да таго ж, яны не маналітныя як арганізацыйна, так і ідэалагічна. Напрыклад, «Альянс еўрапейскіх кансерватараў і рэформістаў» (ECR), у якога 44 месцы, прынцыпова не супраць ідэі Еўрапейскага саюза. Задача аб'яднання, скрэпай якога з'яўляюцца брытанскія кансерватары, тармозіць працэс федэралізацыі еўраструктур. Самая радыкальная ў Еўрапарламенце фракцыя еўраскептыкаў «Еўропа за свабоду і дэмакратыю» (EFD), якая мае 43 месцы, крытыкуе эміграцыйную палітыку ЕС. Тым жа будзе займацца і фракцыя Альянсу еўрапейскіх нацыянальных рухаў — кааліцыя правых папулісцкіх палітычных сіл, якія ўпершыню змогуць сфармаваць свой дэпутацкі клуб.

Калі прытрымлівацца палітапагічных крытэраў, «правых радыкалаў» у Еўрапарламенце не больш за сем асобаў: тры дэпутаты ад венгерскай партыі «Jobbik», тры — ад грэчаскай партыі «Залаты світанак» і прадстаўнік нямецкай неафашысцкай Нацыянал-дэмакратычнай партыі Германіі (NDP).

Можна пагадзіцца з аналітыкам, які так ахарактарызаваў вынікі выбараў: «Еўраскептыкі атрымаюць магчымасць пашумець». Як адзначыла адна з газет: «Устойлівы палітычны трэнд супраць Еўрапейскага саюза ўсё яшчэ не выпрацаваны. Еўраскептыкі ў Еўрапарламенце не маюць адзінага падыходу. Еўраскептыцызм цікавы для масаў, але не здольны нічога зрабіць у сэнсе сістэмнага паслаблення Еўропы».

Аднак пры гэтым існуе шмат нюансаў, якія прымушаюць разглядаць вынікі выбараў як сур'ёзны выклік не толькі праекту еўрапейскай інтэграцыі, аднак і ўсёй дэмакратыі на нашым кантыненце.

Яўка на выбарчых участках склала каля 44 працэнтаў, як і пяць гадоў таму. Антырэкорд пабіла Славакія, дзе галасаваць прыйшло толькі 13 працэнтаў электарату. Калі б у некаторых краінах Бенілюкса не было адміністратыўнай адказнасці за непрыход на выбары, колькасць грамадзян ЕС, што прагаласавалі 25 мая, склала б не больш за 33–35 працэнтаў. Не дапамаглі ўзняць інтарэс да выбараў і першыя ў гісторыі прамыя выбары кіраўніка Еўракамісіі.

Вынікі выбараў могуць стаць пралогам палітычных землятрусаў на нацыянальным узроўні. У шматлікіх краінах яны змянілі палітычныя расклады, што панавалі на працягу стагоддзяў. Пры гэтым цалкам відавочна антыдэмакратычны трэнд сімпатый выбаршчыкаў.




**Еўропе патрэбныя канцэптуальныя рэформы**

У чатырох з 28 краін Еўрасаюза партыі, якія адкрыта выступаюць супраць ЕС з правых пазіцый, занялі першае месца па выніках галасавання. Нельга не звярнуць увагу на прарыў партыі «Альтэрнатыва для Германіі», якая выступае за вяртанне нямецкай маркі, — 7% галасоў і 7 месцаў у Еўрапарламенце. Трывожны сімптом з улікам таго, што якраз ФРГ з'яўляецца рухавіком еўрапейскай інтэграцыі.

У Грэцыі перамогу атрымалі таксама еўраскептыкі, але не правыя, а левыя. Ультралевая кааліцыя СІРІЗА, якая выступае супраць эканамічных рэформаў, акрэсленых Еўрасаюзам, набрала 26,5% (8 месцаў).

Галоўнай сенсацыяй выбараў стаў трыумф правых папулістаў з Партыі незалежнасці Вялікабрытаніі і Нацыянальнага фронту ў Францыі. Абедзве партыі атрымалі больш за чвэрць галасоў выбаршчыкаў.

Выбары паказалі, што Еўропе патрэбныя канцэптуальныя рэформы. Пра гэта, дарэчы, казалі яшчэ да 25 мая. Так, прэм'ер Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран заявіў, што вынікі цяперашніх выбараў у Еўрапарламент «даюць адназначнае разуменне таго, што аб'яднаная Еўропа больш не будзе такой, як раней».

З іншага боку, большасць у Еўрапарламенце належыць прыхільнікам развіцця еўрапейскай інтэграцыі. Ёсць падставы казаць, што бліжэйшым часам яны выступяць з нейкімі канцэптуальнымі прапановамі. Прынамсі, сацыялісты патрабавалі прыняць адзіныя стандарты сацыяльнай палітыкі краін ЕС, што магло б пакласці канец спекуляцыям правых наконт пагрозы працоўнай міграцыі з іншых краін Еўрасаюзу.

Дэбаты наконт будучыні ЕС не спрыяюць росту інтарэсу да стану дэмакратыі ва Усходняй Еўропе. Намаганне спыніць хвалю папулізму, якая руйнуе нацыянальныя партыйныя сістэмы і дэмакратычныя традыцыі, можа прымусіць еўрапейскіх палітыкаў забыцца пра наш рэгіён.

Выхадам з крызісу ЕС можа стаць выключна яго далейшая федэралізацыя, што запатрабуе і выпрацоўкі адзінай замежнай стратэгіі ў тым ліку на ўсходніх межах. Напэўна, гэтаму будзе спрыяць і эскалацыя супрацьстаяння ва Украіне, што міжволі прымушае Еўропу дзейнічаць разам, а значыць, шукаць шляхі да кансалідацыі, да блакіроўкі веймарскага сцэнару.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ. Аднавіць трансляцыю ўкраінскіх тэлеканалаў



**Актывісты брэсцкай арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі патрабуюць аднавіць у горадзе трансляцыю ўкраінскіх тэлеканалаў.**

Адпаведная заява была прынята падчас правядзення Брэсцкай абласной справаздачна-выбарчай канферэнцыі АГП. Нагодай стала тое, што аператары тэлевізійных кабельных сетак Брэста прыпынілі вяшчанне ўкраінскіх тэлеканалаў «1+1» і «Інтэр», спаслаўшыся на пастанову Савета Міністраў.

На думку актывістаў АГП, названыя тэлеканалы ў сваіх праграмах навін былі адзінымі, хто адлюстроўваў пазіцыю Украіны «ў гэты цяжкі і трагічны для краіны перыяд». Такім чынам, гаворыцца ў заяве, для тысяч берасцейцаў — ураджэнцаў Украіны, «адключэнне каналаў абарвала тэлевізійную сувязь з гістарычнай радзімай», а ў грамадзян РБ, у тым ліку якія пражываюць у Брэсце, значна знізіўся аб'ём атрыманай інфармацыі пра падзеі ў суседняй краіне.

«На фоне татальнага інфармацыйнага засілля расійскіх тэлеканалаў гэты крок брэсцкіх тэлеаператараў, якімі б матывамі яны ні кіраваліся, не можа не выклікаць абгрунтаваных падазрэнняў у палітычнай падаплёцы гэтага рашэння», — лічаць аўтары заявы.

**spring96.org**

### МАГІЛЁЎ. Пікетаваць гарвыканкам не дазволілі



**Праз пікет у цэнтры горада Ірына Ільінская хацела прыцягнуць увагу да яе высялення з інтэрната з двума непаўнагадовымі дзецьмі.**

Пікет жанчына планавала выставіць 1 чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны дзяцей.

Падставай для адмовы ў правядзенні мерапрыемства стала тое, што жанчына выбрала нявызначанае для пікета мясцовымі ўладамі месца.

«Я не ведаю, як мне яшчэ бараніць свае права на пражыванне ў інтэрнаце, — кажа Ірына Ільінская, — іншыя спосабы ўжо амаль вычарпаныя. Я ў дэкрэтным адпачынку, і мяне з двума дзецьмі без прадастаўлення іншага жылля хочуць выкінуць на вуліцу. Спрабавала працаўладкавацца, аднак усе патэнцыйныя працадаўцы не прадастаўляюць пакой у інтэрнаце. Дзе мне жыць, калі мяне высяляць, я не ведаю».

Нагадаем, што Ірына Ільінская 14 гадоў пражыла ў інтэрнаце будаўнічага трэста №12. У яе была бестэрміновая дамова на пражыванне па хадайніцтву трэцяй арганізацыі. Год таму з ёй падманным шляхам адміністрацыя трэста заключыла тэрміновую дамову на пражыванне тэрмінам на 1 год, пасля сканчэння якой пачала працэдуру высялення жанчыны.

Ільінская спрабавала адстаяць свае права на пражыванне з дзецьмі праз суд, аднак суддзя Ленінскага раённага суда Юлія Трапыніна стала на бок адміністрацыі трэста. Магілёўскі абласны суд адмяніў рашэнне раённага суда ў сувязі са шматлікімі парушэннямі працэсу і накіраваў справу на новы разгляд. Аднак спадзяванняў на тое, што жанчына застанецца далей жыць з дзецьмі ў інтэрнаце, мала — новая рэдакцыя Жыллёвага кодэкса дазваляе высяляць з інтэрната ўсіх, хто не працуе ў арганізацыі, якой належыць інтэрнат, у тым ліку і маці-адзіночак.

**spring96.org**

### ГОМЕЛЬ. Каму перашкаджае ўкраінскі сцяг?



**На прыватны падворак гомельскага грамадскага актывіста Канстанціна Жукоўскага 27 мая спрабаваў зайсці супрацоўнік міліцыі.**

Над домам Жукоўскага, які размешчаны ў цэнтры горада, пастаянна ўзняты бел-чырвона-белы сцяг. Акрамя таго, на працягу апошніх некалькіх месяцаў грамадскі актывіст вывешваў над сваім домам дзяржаўны сцяг Украіны ў знак салідарнасці з народам гэтай краіны.

«Міліцыянер не назваўся, сказаў, што прыйшоў па просьбе грамадзян, якія паскардзіліся, што над маім домам вывешана «штосьці бандэраўскае», — расказаў Канстанцін Жукоўскі. — Я спытаў, колькі класаў у школе скончыў міліцыянер, ці ведае ён, хто такі Бандэра і які дзяржаўны сцяг у нашай братняй краіны Украіны. Але міліцыянер крыкнуў мне: «Выйдзі, пагаворым». Я абурыўся, адказаўшы, што мы не ў Луганску ці Данецку, каб «выходзіць-размаўляць», пасля чаго ён пайшоў».

Паводле слоў Жукоўскага, такое стаўленне да дзяржаўнага сцяга Украіны абражае братні народ і яго асабіста. «Я сам напалову ўкраінец, і мне сорамна чуць, наколькі недасведчаныя могуць быць людзі», — сказаў гомельскі актывіст.

**БелаПАН**

# Супраць смяротнага пакарання

**Вядомыя людзі ў Чэхіі пратэстуюць супраць смяротнага пакарання ў Беларусі.**

Старшыня Камітэта па замежных справах Палаты дэпутатаў Чэшскай рэспублікі Карэл Шварцэнберг, сцэнарыст і акцёр, лаўрэат прэміі «Оскар» Здэнек Сверак і гімнастка, сяміразовая алімпійская чэмпіёнка Вера Часлаўска падпісалі петыцыю кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».

Кожны з падпісантаў прывёў свае аргументы супраць смяротнага пакарання — як у Беларусі, так і ва ўсім свеце.

Карэл Шварцэнберг адзначае, што «ўсё сваё свядомае палітычнае жыццё змагаўся супраць смяротнага пакарання», да гэтага змагання прывяло разуменне таго, што вялікую колькасць людзей пакаралі смерцю памылкова. Ён выказвае шкадаванне, што тысячы людзей у XX і XXI стагоддзях «былі пакараныя з палітычных прычынаў, а не таму што яны здзейснілі злачынства».

У свой час спадар Шварцэнберг быў старшынёй Хельсінкскай федэрацыі па правах чалавека і пратэставаў супраць смяротнага пакарання як у Злучаных Штатах, так і ва ўсіх тых нешматлікіх еўрапейскіх краінах, дзе яно яшчэ захоўвалася. «Я лічу гэта варварскім метадам, які сёння не мае абгрунтавання. Як вядома, некалькі дзесяцігоддзяў таму былі падпісаныя Хельсінкскія пагадненні, або дэкларацыя, згодна з якой мы маем права размаўляць пра развіццё пытання правоў чалавека ў іншых краінах. Гэта быў вялікі поспех свайго часу, і на гэтым у свой час былі заснаваныя Хельсінкскія камітэты па ўсёй Еўропе. Усе, хто яе тады падпісаў (за сённяшнюю Беларусь яе падпісаў Савецкі Саюз, але Беларусь і Украіна таксама былі асобнымі краінамі, таму і яны падпісалі), звязаныя гэтым. Гэта значыць, што пра пытанне правоў чалавека мы маем права размаўляць усюды — Партугалія гэта, Іспанія, Швецыя або Беларусь», — падкрэсліў ён.

Здэнек Сверак, таксама адзначаючы вялікую верагоднасць судовай памылкі, праз што жыццяў пазбаўляюцца нявінныя людзі, выказвае меркаванне, што «прастрэліць каму-небудзь галаву выйдзе танней, чым утрымліваць яго пажыццёва», але пры гэтым падкрэслівае, што, падтрымліваючы смяротнае пакаранне, мы таксама становімся забойцамі.

Вядомы сцэнарыст і рэжысёр лічыць, што ён як чэх мае абавязак выказацца пра смяротнае пакаранне ў Беларусі: «Мяркую, што людзям, якія жывуць пры дыктатуры, сказаць гэта цяжка, яны не могуць, але мы можам выказвацца свабодна, і нам нельга змоўчаць. Я павінен сказаць: глядзіце, калі вы хочаце арганізоўваць чэмпіянат па хакеі, дзе ёсць пэўныя строгія правілы, як, напрыклад, афсайды і розныя жорсткасці, вам таксама было б варта прытрымлівацца правілаў, а якіх прыйшла Еўропа, і не быць адзінай яе краінай, у якой яшчэ існуе сярэднявечнае смяротнае пакаранне».

Знакамітая гімнастка Вера Часлаўска кажа, што не падтрымлівае смяротнае пакаранне нідзе: ні ў Амерыцы, ні дзе-небудзь яшчэ ў свеце, «таму што жыццё — гэта, уласна кажучы, цалкам справа неба і зямлі, гэта не нешта, пра што вырашае чалавек». Спадарыня Часлаўска ўзгадвае, як яе шакаваў смяротны прысуд Міладзе Гаракавай у часы Чэхаславаччыны, «таму што тое яе пакаранне яшчэ больш узмацняла камуністычны рэжым».

**spring96.org**

# Штраф за журналісцкую дзейнасць

**Аўтара і вядоўцу праграм «Людскія справы» ды «Рэпартаж Залеўскага» на тэлеканале «Белсат» пакаралі штрафам у 30 базавых велічыняў за нібыта незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ.**

У Карэліцкім раённым судзе адбыўся суд у справе штатнага працаўніка Польскага грамадскага тэлебачання TVP, часткаю якога з'яўляецца тэлеканал «Белсат». Улады абвінавацілі Алеся Залеўскага ў працы без акрэдытацыі паводле адміністратыўнага артыкулу 22.9 і прысудзілі штраф у 30 базавых велічыняў.

Журналіст з прысудам нязгодны і мае намер абскарджваць вырак.

Адметна, што гэта ўжо трэцяя падобная справа на Гродзеншчыне. Так, 4 красавіка «за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ» на 30 базавых велічынь быў аштрафаваны сябра ГА «БАЖ» Алесь Дзянісаў. 15 мая падобны пратакол быў складзены яшчэ на аднаго незалежнага журналіста — Андрэя Мялешку.

На думку юрыстаў, улады Гродзеншчыны такім чынам вырашылі выпрабаваць на незалежных журналістах нядаўна ўведзены ў Адміністратыўны кодэкс рэпрэсіўны артыкул 22.9, які фактычна скасоўвае для многіх карэспандэнтаў гарантаванае Канстытуцыяй Беларусі права на свабодны збор і распаўсюд інфармацыі. Паводле міліцыянтаў, палажэнні гэтага артыкула прадугледжваюць адказнасць за працу журналістаў без акрэдытацыі.

Адметна, што супрацоўнікі тэлеканала «Белсат», а таксама «Беларускага Радыё Рацыя» ўжо некалькі гадоў дамагаюцца ад МЗС Беларусі адпаведнай акрэдытацыі, але ўвесь гэты час атрымліваюць адмовы па надуманых, на іх погляд, прычынах.

**Прэс-служба БАЖ**

# Паштоўка ў гонар Бітвы пад Оршай

**Абвешчаны конкурс на распрацоўку дызайну паштоўкі да Дня Беларускай Вайсковай Славы — 8 верасня.**

Сёлета спаўняецца 500 гадоў слаўнай перамозе войска Вялікага Княства Літоўскага над войскамі Маскоўскага княства пад Воршай, якая адбылася 8 верасня 1514 года. Партыя БНФ абвясціла конкурс на распрацоўку паштоўкі, прысвечанай Дню Беларускай Вайсковай Славы. Галоўны прыз — графічны планшэт Wacom Intuos Pen Small (CTL-480S).

«Бітва пад Воршай — гэта гонар для кожнага беларуса. Бітва пад Воршай — гэта шэраг слаўтуых імёнаў: Канстанцін Астрожскі, Юрый Радзівіл, слуцкі князь Юрый Алелькавіч, Іван Сапега. Аршанская бітва — гэта бел-чырвона-белыя сцягі конніцы Вялікага княства. У бітве пад Воршай Вялікае княства Літоўскае адстаяла сваю незалежнасць — 30-тысячнае войска ВКЛ пад камандаваннем гетмана Канстанціна Астрожскага атрымала перамогу над 80-тысячным маскоўскім войскам», — гаворыцца ў прэс-рэлізе ПБНФ.

Да ўдзелу ў конкурсе віншавальных паштовак запрашаюцца аматары і прафесіяналы дызайну. Працы прымаюцца да 23 чэрвеня 2014 года. Ацэньваць паштоўкі будуць вядомыя мастакі Мікола Купава і Аляксей Марачкін (мастацкая суполка «Пагоня»), дызайнер і паэт Міхал Анемпадыстаў, грамадскі дзеяч, адзін з арганізатараў акадэмічнага Музея старажытнабеларускага мастацтва Юры Хадыка, мастачка, аніматарка, стваральніца сайта generation.by Вольга Кузьміч.

Усе працы неабходна дасылаць на электронны адрас: konkurs@narodny.org. Першапачаткова файлы неабходна дасылаць у фармаце jpeg.

Тэхнічныя патрабаванні для канчатковых файлаў:

фармат А5 — (148*210 мм), А6 — (105*148 мм) з пашырэннем eps, tiff, cdr, psd, ai;

каляровая мадэль CMYK; 300 dpi; шрыфты, пераведзеныя ў крывыя;

эфекты ў растры; дазаліўкі па 3 мм на кожным баку; тэкст і важныя элементы на адлегласці не менш за 5 мм ад краю.

Вынікі будуць абвешчаны 7 ліпеня, а цырымонія ўзнагароджання пройдзе 15 ліпеня.

**Прэс-служба ПБНФ**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Свята скончылася

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Ахопленыя святам хакею беларусы, адарваўшыся ад тэлеэкранаў, скончыўшы назіраць за радаснымі і не вельмі заўзятарамі, прыбраўшы смецце з «зонаў гасціннасці», вярнуліся ў рэчаіснасць. Рэчаіснасць іх не ўзрадавала.**



Адразу ж пасля «свята піва» ў розных «фан-зонах» Мінгарвыканкам агаломшыў мінчанаў. Традыцыйна ў Мінску 31 мая і 12 чэрвеня будзе абмежаваны продаж алкагольных напояў, піва і слабаалкагольных напояў, за выключэннем рознічнага гандлю ў аб'ектах грамадскага харчавання ў разліў. «Дні цвярозасці» ўводзяцца «ў мэтах забеспячэння грамадскага парадку, стварэння бяспечных умоў знаходжання навучэнцаў у месцах правядзення апошніх званкоў і выпускных вечароў ва ўстановах адукацыі Мінска, а таксама, каб выключыць ўжыванне алкагольных напояў, піва і слабаалкагольных напояў падчас правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў», — гаворыцца ў паведамленні гарвыканкама.

Захопленыя хакеем беларусы пасля скančэння «лядовых пабоішчаў» раптам заўважылі, што, пакуль яны захапляліся спаборніцтвамі, рэзка падаражэла мяса. Калі шыю або сцягно на мінскай Камароўцы раней можна было набыць за 90–120 тысяч рублёў (што і так было не танна), то цяпер — за 140–160 тысяч у сярэднім. Прычым, прапановы свініны няшмат.

У рэзкім падаражанні свініны і яе недахопе прадаўцы і чыноўнікі абвінавачваюць афрыканскую чуму свіней, якая прапнеслася па краіне ў 2013 годзе. Маўляў, чума выкасіла пагалоўе. «Свініны ў краіне не хапае катастрафічна. Але, думаем, сітуацыя выправіцца, трэба крыху пачакаць — свінні жа хутка вагу набіраюць», — паведамілі «Еўрарадыё» на Бабруйскім мясакамбінаце.

Падаецца, што мясакамбінат — не тая структура, у якой трэба было пытацца пра свінняў: яны ж іх забіваюць, а не вырошчваюць. Але ў агульным сітуацыя, кажуць нам, і не такая кепская. Згодна Белстату, пагалоўе свіней у студзені гэтага года было ўсяго на 600 тысяч менш у параўнанні са студзенем 2013 года. А за чатыры месяцы бягучага года пагалоўе свіней скарацілася на 100 тысяч.

Так што свінняў у нас, паводле Белстату, хапае. А вось свініны ў крамах чамусьці няма. Сапраўды, ёсць хлусня, а ёсць статыстыка...

Яшчэ адна папулярная версія прычын недахопу мяса і рэзкага падаражання — вываз мяса, як свініны, так і курацiны, на расійскія рынкі. Пра гэта, напрыклад, кажа міністр эканомікі Мікалай Снапкоў: «Цяпер падняліся закупныя кошты на курацiну ў Расіі. Вытворцам стала больш выгадна пастаўляць сваю прадукцыю на экспарт, таму, каб сельгаспрадпрыемствы накіроўвалі мяса на ўнутраны рынак, Мінэканомікі вырашыла павысіць максімальную адпускную цану на 10%».

> **Методыка абароны свайго рынку даволі дзіўная: замест таго, каб больш вырошчваць птушак і гадаваць свінняў, мы павышаем кошты на прадукцыю. Прычым павышаем гэтыя кошты не для замежнага, а для свайго пакупніка**

Методыка абароны свайго рынку даволі дзіўная: замест таго, каб больш вырошчваць птушак і гадаваць свінняў, мы павышаем кошты на прадукцыю. Прычым павышаем гэтыя кошты не для замежнага, а для свайго пакупніка.

Але ці праўду сказаў Снапкоў? Як высветлілася, у расійскіх рэгіёнах «курыны кошт» не ўзрастаў, і там тушкі птушкі каштуюць, як раней у нас, — каля 25 тысяч рублёў за кіло на нашы грошы. Філе — каля 50 тысячаў. Свініна — па 65 000. Карыстальнікі сацсетак нават даслалі цэны з Масквы, і толькі яны апынуліся супастаўныя з мінскімі. Праўда, у Маскве сярэдні заробак не 500–700 долараў, а ў разы вышэй.

Яшчэ адна версія падаражання мяса — яго з'елі замежныя заўзятары. Сапраўды, за час чэмпіянату хакейныя заўзятары выпілі больш за 420 тысяч літраў піва, з'елі 27 тон шашлыка, больш за 53 тон каўбасак і курыных крылцаў грыль. Падчас правядзення паўфіналаў і фіналу чэмпіяната у гасцей турніру карысталіся стравы з грыль-меню, шашлык і беларускае марозіва. У зонах гасціннасці каля Палаца спорту і ў Студэнцкай вёсцы штодня з'ядалі больш за 600 кілаграмаў дранікаў са смятанай, якія сталі хітом продажаў.

Але што такое 27 тонаў шашлыку за 15 дзён для двухмільённага Мінска? Гэта дзве тоны ў дзень, альбо чатыры-пяць нармальных свінняў. Няўжо дадатковыя пяць жывёлікак настолькі крытычныя для сталіцы? А калі крытычныя, дык пра якую «харчовую бяспеку» можна казаць?

Справа ў іншым. А менавіта ў тым, што пад выглядам афрыканскай чумы ўлада працягвае знішчаць прыватную гаспадарку. Яшчэ ў мінулым годзе нам казалі, што свінячая хвароба пераможаная. Тым не менш, напрыклад, у Бярозаўскім раёне ўлады дагэтуль забараняюць людзям трымаць свінняў на сваім падворку. У вёсцы Малеч адбыўся сход, на які чыноўнікаў з Бярозы прыехала каля дзясятка — старшыня савета дэпутатаў, кіраўнікі ветэрынарнай, санітарнай службаў, камунальнай гаспадаркі, дырэктар камбікормавага камбіната. Чыноўнікі не змаглі даць канкрэтных адказаў на пытанні грамадзянаў пра забарону на жыццё для мясцовых хрушак, але толькі і рабілі, што спасылаліся на пагрозу афрыканскай чумы свіней. Якую мы афіцыйна ўжо перамаглі.

У той жа час Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ўводзіць на вёсцы «ваенная становішча». Па яго словах, у мінулым годзе сельская гаспадарка недаатрымала 7 трыльёнаў рублёў толькі ад працы малочнай галіны, а ўвогуле — усё 20 трыльёнаў. І дадаў, што «ў гэтым годзе — пераходны перыяд. А ў будучым годзе — жалезабетонна мы павінны дзейнічаць па зададзенай структуры кармоў. І хопіць практыкавацца! Калі гэтага не будзе, ніякага руху сельскай гаспадаркі насустрач быць не можа. Мы не можам больш, укладваючы велізарныя грошы, дараваць безгаспадарчасць», — дадаў ён.

Атрымліваецца дзіўная сітуацыя. Кіраўнік дзяржавы ледзьве не вымушае людзей працаваць. Але яны і самі проста ірвуцца на працу па вырошчванні мяса, і, адпаведна, на загатоўку харчу для свайго мяса. Але нейкія чыноўнікі не дазваляюць вырошчваць свінняў з нагоды свінячай хваробы. І, адпаведна, навошта рыхтаваць корм для таго, каго няма?

Ці не лепш даць людзям магчымасць рабіць тое, што яны хочуць? Тады яны і працаваць будуць, і краіна мясам будзе забяспечаная. Без усялякіх загадаў «зверху».

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Аляксандр Косінец



**Лукашэнка папярэдзіў старшыню Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца аб адказнасці за невыкананне ўзятых на сябе абавязацельстваў.**

У прыватнасці, Косінец недакасіў траву, за што і атрымаў вымову.

Кіраўнік Мінсельгасхарча Леанід Заяц адзначыў нізкія тэмпы ўборкі кармавых культур у Віцебскай вобласці, дзе, паводле звестак Мінсельгасхарча, прыбрана ўсяго каля 2%. «Дык калі вы прыбіраць будзеце?» — Лукашэнка адрасаваў пытанне губернатару Віцебскай вобласці Аляксандру Косінцу.

«Калі ён да 15 чэрвеня ў Віцебскай вобласці не прыбярэ травы, значыць, гэта яго апошнія дні, — падкрэсліў Лукашэнка. — Не будзе зроблена — праект указа на стол. За словы трэба адказваць. Адказваць трэба за ўсё, і перш за ўсё за кадры».

Між тым, у мінулым годзе Лукашэнка мінімум два разы пагражаў Косінцу адстаўкай і завядзеннем на яго крымінальнай справы за зрыў мадэрнізацыі «Віцебскдрэва». І нават авязысцiў яму афіцыйную вымову 16 красавіка мінулага года. Аднак губернатар Віцебскай вобласці да гэтага часу на сваім месцы.

### Генадзь Бураўкін



**Група «Piotr Klujeu band» рыхтуе новую праграму на невядомыя вершы Генадзя Бураўкіна. Меладычныя тэксты загучаць пад адрывісты фанк-джаз.**

Саліст групы Пётр Клюеў пазнаёміўся, а затым і пасябраваў з паэтам год таму. Праз некаторы час Генадзь Бураўкін прапанаваў напісаць песні на яго вершы. «З лёгкай рукі Генадзя Бураўкіна з'явілася ідэя стварыць такую праграму. Ён абраў вершы, большасць з якіх амаль не вядомая, бо ніколі не публікаваліся і знаходзяцца ў прыватнай калекцыі паэта. Я вельмі гэтым натхніўся і вырашыў, што гэтыя вершы рэвалюцыйна загучаць, калі пакласці на фанк-джаз музыку. Практычна гэта будзе першая беларускамоўная музычная праграма ў такім стылі», — кажа музыка.

Большасць вершаў, якія ўвайшлі ў праграму, былі напісаныя Генадзем Бураўкіным у 70-я гады мінулага стагоддзя.

Гурт плануе запісаць дыск з кампазіцыямі на словы Бураўкіна прыкладна праз паўгады. Але ўжо неўзабаве пачынаецца гастрольны тур, які ахопіць не толькі гарады Беларусі, але і Швецыю, Эстонію, Літву, Польшчу.

### Глен Хэнлан



**Канадзец Глен Хэнлан стаў галоўным трэнерам зборнай Швейцарыі па хакеі. Памочнікам спецыяліста стане Джон Фуст.**

Глен Хэнлан раней займаў пасаду галоўнага трэнера зборнай Беларусі. Ён упершыню стаў настаўнікам беларускай зборнай у 2005 годзе, пад яго кіраўніцтвам беларусы тройчы выходзілі ў чвэрцьфінал сусветных першынстваў — у 2006, 2009 і 2014 гадах. Гэта лепшыя вынікі за ўвесь час удзелу ў чэмпіянатах свету.

Хэнлан растлумачыў, што пакідае Мінск не з-за грошай: «Проста сын расце без мяне, і, калі я працую ў Беларусі, мы не можам быць разам. Так, ён наведваў мяне ў Мінску, але гэта не тое. Спадзяюся, вы разумееце, пра што гаворка. А пераехаць сюды мая сям'я не можа». «Я пакідаю беларускі хакей. Гэта быў выдатны год і выдатны чэмпіянат свету, які мы прайшлі разам. І ўсё ж абставіны прымушаюць мяняць месца працы», — дадаў Хэнлан.

Пра свае намеры сысці пасля чэмпіянату Хэнлан паставіў у вядомасць федэрацыю хакею яшчэ ў красавіку, так што ўсе былі да гэтага гатовыя.

Хто зойме пасаду галоўнага трэнера беларускай зборнай, вырашыцца пазней, пасля падвядзення вынікаў цяперашняга сезону.

# Лапікавая коўдра савецкай імперыі



Алег ПАНФІЛАЎ

**Праз некалькі месяцаў ад пачатку ўкраінскага крызісу больш-менш выразна праступаюць дэталі, якія дазваляюць рэканструяваць планы Пуціна па аднаўленні постсавецкай імперыі. Такія крокі здзяйсняліся ім і раней.**

Дастаткова ўзгадаць першую ж заяву тады яшчэ прэм'ер-міністра Пуціна ў ноч на 1 студзеня 2000 года. Ён некалькі хвілін таму стаў в.а. прэзідэнта і адразу заявіў, што яго прыярытэт — аднаўленне адносін з краінамі СНД.

Такая фраза насцярожыла — яна мела на ўвазе нейкія змены гэтай мёртванароджанай арганізацыі. У канцы 1999 года, з пачаткам другой вайны ў Чачні, публічныя ацэнкі Пуціна таго, што адбывалася ў СНД, станавіліся ўсё больш жорсткімі. Ён стаў актыўна падтрымліваць стварэнне Мытнага саюза, збіраючы пад яго рэшткі былой імперыі. Адгукнулася толькі частка краін — Беларусь, Казахстан, Арменія, Таджыкістан і Кыргызстан.

Першай спробай на гэтым шляху было стварэнне постсавецкага NATO. У 2002 годзе адбылося падпісанне Дамовы пра стварэнне АДКБ (Арганізацыя Дамовы пра калектыўную бяспеку). АДКБ правяла некалькі вучэнняў у Цэнтральнай Азіі, у якіх асноўнай ваеннай сілай была тэхніка і асабовы склад расійскага войска. Структура АДКБ хоць і існуе, але рэальна не працуе.

## Пачатак ваенных авантур

Пасля другой чачэнскай вайны Пуцін натхніўся. Па-першае, ён паказаў, што расійскае войска можа наносіць дывановыя бамбаванні і прасаваць танкамі невялікія тэрыторыі. Па-другое, у Чачні быў сфармаваны новы «баявы дух» расійскіх вайскоўцаў, здольных выконваць загады — захопліваць і знішчаць, выконваць дыверсійныя заданні. У Пуціна пераймала дух ад перспектыў аднаўлення імперыі, але ўжо не з дапамогай дамоваў, а наўпрост сілай. У расійскім дыпламатычным лексіконе з'явіўся тэрмін «прымус».

Зараз Пуцін не хавае, што ён не дапусціць, каб некаторыя краіны, нягледзячы на сваю незалежнасць, апынуліся ў лагеры «ворагаў» — NATO і ЕС. Гэта відавочная прыкмета імкнення аднавіць калі не тэрыторыю наўпроставага падначалення, то хоць бы ўскоснага — з паслухмянымі прэзідэнтамі і ўрадамі. На той момант такіх краін было некалькі — Грузія, Украіна і Азербайджан. Чамусьці Малдову ніхто сур'ёзна не ўспрымаў, што дазволіла ёй хутчэй інтэгравацца ў Еўропу.

З некаторымі цэнтральнаазіяцкімі краінамі ў Пуціна не складваліся адносіны. Ташкент імкнуўся быць лідарам рэгіёна і ні прамога, ні ўскоснага падначалення Маскве не жадаў. Туркменістан абвясціў нейтралітэт яшчэ ў 1995 годзе. Лапікавая савецкая коўдра захоўвалася роўна напалову.

Вайна ў Грузіі ў 2008 годзе была нечаканасцю для многіх, хоць прычыны яе зразумелыя — Грузія не хавала імкненні інтэгравацца ў Еўропу і NATO. За некалькі гадоў Грузія правяла паспяховыя і зайздросныя для іншых постсавецкіх краін рэформы, стала незалежнай ад расійскага газу і электраэнергіі. Яна ўсё больш аддалялася ад імперскага цэнтра.

Бліцкрыг Пуціна ў Грузіі павінен быў напалохаць постсавецкія краіны, як другая вайна ў Чачні — народы Паўночнага Каўказа і іншых расійскіх рэгіёнаў.

Забівалася адразу некалькі зайцаў. Па-першае, аднаўлялася кантроль над свавольнай краінай, па-другое, пад уплыў падпадалі сумесныя з Азербайджанам энергетычныя праекты, па-трэцяе, NATO і ЕС павінны былі атрымаць урок за свае спробы пракрасціся, як думае Пуцін, на тэрыторыю геапалітычных інтарэсаў Крамля.

Вайна не атрымалася. Супраціўлялася і насельніцтва Грузіі, і заходнія партнёры, якія нарэшце зразумелі інтрыгу Пуціна, не паверыўшы, што на Расію напала краіна ў 144 разы меншая.

## «Украінскія капканы»

Украінскі сцэнар захопу (як і грузінскі) складаўся з двух кірункаў: вайсковага — удар з двух франтоў і палітычнага — фарбаванне ўнутры краіны сіл калабарацыянізму. Але калі Грузія ўяўляецца этнічна аднастайнай дзяржавай з невялікай колькасцю меншасцяў, то ўкраінскі сцэнар меў на ўвазе выкарыстанне даўняй пуцінскай напрацоўкі — «рускага пытання».

Расійскія паліттэхнолагі ўсе апошнія гады пісалі пра незадаволенасць рускамоўных на ўсходзе і поўдні Украіны, пра іх імкненне далучыцца да Расіі. А калі верыць Дугіну, Затуліну і Праханаву, то палова Украіны ўжо даўно павінна была сысці пад далонь Пуціна.

На справе аказалася, што яны, па-першае, перабольшылі маштаб імкнення ўкраінскіх рускамоўных разам з тэрыторыямі сысці ў Расію. Па-другое, не ўлічылі іншы фактар — у такіх крытычных сітуацыях насельніцтва гуртуецца і пачынае падтрымліваць дзейсную ўладу. Пуцін незнарок абудзіў ва ўкраінцах пачуццё патрыятызму.

Расійскія паліттэхнолагі загадзя да цяперашніх падзей публікавалі карты і аналітычныя артыкулы, пераконваючы ў непазбежнасці ўплыву Расіі на вялікую частку тэрыторыі Украіны. Больш радыкальныя з іх пісалі пра «адраджэнне рускага свету». Гэта зусім смешныя даследаванні, больш падобныя на фантазіі пэўнай медыцынскай уласцівасці. Яны падтаквалі Пуціну, улагоджвалі яго амбіцыі, і ў выніку бліцкрыг па захопу Украіны быў прыняты як адзіна магчымы. Януковіч, хутчэй за ўсё, павінен быў стаць выканаўцам гэтага плану, пачаткам якога, меркавалася, павінна была стаць адмова ад падпісання дакументаў пра Асацыяцыю з ЕС у Вільнюсе.

Крэмль не чакаў рэакцыі ўкраінцаў. У Маскве запатрабавалі разагнаць Майдан, мяркуючы, што ўкраінцы, як расейцы, разбягуцца і пахаваюцца па хатах.

Але ўсё адбылося з дакладнасцю да наадварот — Кіеў пачаў доўгае супрацьстаянне. Крэмль быў змушаны сутаргава шукаць выйсце з сітуацыі. З бяскрыўднай і бяскроўнай задумы з дапамогай Януковіча падпарадкаваць Украіну нічога не выйшла, і тады пачалася аперацыя па захопу Крыму.

Мяркую, што ўкраінская гісторыя планавалася як класічная ваенная аперацыя з двума франтамі. Украінскае войска павінна было ўступіць у бой, сцягнуўшы ўсе свае сілы ў Крым, а тым часам, разгарачаныя пасля ваенных вучэнняў расійскія войскі ўступаюць ва ўсходнія вобласці. І далей пры падтрымцы насельніцтва пераможным маршам займаюць увесь усход і поўдзень Украіны. Затым — уз'яднанне з Прыднястроўем, а праз Днестр — ужо Малдова. Заходняя Украіна магла апынуцца ў кольцы, якое з поўначы замыкае Беларусь з паслухмяным Лукашэнкам.

Цяжка сказаць, ці быў гэта тактычны выкрут, але Крым пакінулі без чаканага Крамлём супраціву. Украінскія войскі, замест таго, каб уступіць у бой, занялі абарону на ўсходзе і поўдні. А паўвостраў Крым, ізаляваны ад мацерыка, застаўся без вады, электрычнасці і газу. Апошнім акордам стала спешнае правядзенне рэферэндуму, непрызнанага нікім, акрамя Расіі. І, нарэшце, Пуцін, не задумваючыся пра наступствы, падпісвае ўказ пра анексію Крыму.

З гэтага моманту для Пуціна пачаўся кашмар. З-за акупацыі Крыму ад яго адвярнуўся ўвесь свет. Захад пачаў душыць санкцыямі. А ззаду на Пуціна напіралі паплечнікі — паліттэхнолагі, вайскоўцы, спецслужбы, яны прыспешвалі працягнуць анексію Усходняй і Паўднёвай Украіны. Каб не быць абвінавачанымі ў прамой ваеннай агрэсіі, у Расіі тэрмінова збіраюць «спяцоў», адстаўнікоў, якія прайшлі войны ў Чачні, Сербіі, Грузіі. Да іх далучаюцца мясцовыя рамантыкі, балазе, што ў Данбасе шмат беспрацоўных мужчын. Пад лозунгамі «рускага свету» пачынаецца дыверсійная аперацыя.



**Данецкія баявікі**





**Другая чачэнская вайна.** Фота www.chitalnya.ru



**Расійска-грузінская вайна.** Фота mg4.sibnovosti.ru

Спачатку для Крамля ўсё было выдатна, а для Кіева — раптоўна і нечакана. Але затым украінскае войска пачало блакаваць мяжу, і струмень «шэрых гусакоў» стаў змяншацца, як і іншая дапамога, у тым ліку фінансавая. Захад выпрацаваў сваю тактыку і з дапамогай санкцый, што балюча б'юць па найбліжэйшым асяроддзі Пуціна і фінансавай сістэме Расіі, зменшыў небяспеку распаўзання канфлікту на іншыя вобласці. Зонай супрацьстаяння застаюцца толькі Данецкая і Луганская вобласці.

Бліжэйшай мэтай Пуціна было сарваць прэзідэнцкія выбары хоць бы ў гэтых дзвюх абласцях. Але і тут у яго здарылася прамашка.

### Цягнік сышоў...

Пуцін спазніўся гадоў на дзесяць. У 2000 годзе ахвотнікаў жыць у адноўленым СССР, настальгуючых па савецкай імперыі, было больш. Але Пуцін быў чалавекам зусім недасведчаным ні ў палітыцы, ні ў эканоміцы. Лёс выпадкова закінуў яго ў Крэмль. Пуцінскі жарт на юбілеі ФСБ-КДБ-ЧК пра тое, што ён паспяхова ўкараніўся ва ўладу, быў прыняты чэкістамі, якія сядзелі ў зале, але большага зрабіць ён не мог.

Кожны кіраўнік пра нешта марыць. Адны — пра геапалітычнае прызнанне, іншыя — пра развіццё прамысловасці і высокіх тэхналогій. І толькі дыктатары мараць пра імперыі, пра магчымасць захавацца ў гісторыі значнай постаццю.

Пуцін вельмі ўдала ўпісаўся ў калектыўны партрэт постсавецкага дзеяча, які іншай краіны не ведае, акрамя СССР. На былой працы ў КДБ яго навучылі не любіць Захад. Усходам, з-за былой працы і ментальных цяжкасцяў, ён пагарджае. Адзінай магчымасцю стаць непаўторным і, як яму здаецца, любімым усімі, гэта — нацыяналізм, замешаны на выключнасці рускіх, іх незаменнасці і місіянерстве. Ці сам ён да гэтага дайшоў, ці яму падказалі, не важна, цяпер ён — галоўны рускі.

Вакол яго, калі не наўпрост, то праз розныя ваенныя, ваенна-патрыятычныя, філасофска-нацыяналістычныя і іншыя структуры, згуртаваліся адкрытыя фашысты з РНЕ, левакі з «Іншай Расіі» і нацыянал-бальшавіцкай партыі Лімонава, правыя радыкалы, скінхэды, праваслаўныя актывісты і публіцысты, якія прапаведуюць выключнасць рускіх. Цяжка прадставіць усю гэту феерычную набрыдзь у адным месцы, але гэтым месцам апынуўся ўсход Украіны. Вялікая частка з гэтых людзей выдавала сябе за апазіцыянераў Пуціну і яго ўладзе: лімонаўцы кожны месяц праводзяць акцыі «31», правыя радыкалы штогод ладзяць «Рускія маршы», дыскрэдытуючы Расію. Але раптам яны ўсе разам апынуліся аб'яднаныя адной і той жа з Пуціным ідэяй.

Да гэтай разнамаснай кампаніі дадаліся блогеры, публіцысты. Журналісты па большай частцы выконваюць ролю наводчыкаў і адкрыта спагадаюць сепаратыстам, а часта і дапамагаюць. І, нарэшце, баявой часткай сепаратыстаў стаў крымінал — мясцовы і засланы. Па поглядах і ідэалагічных перавагах уся гэта зграя нагадвае пірацкі карабель, дзе капітан Сільвер — Пуцін, на плячы якога ўладкаваўся папугай па мянушцы Дзмітрый Кісялёў. Дзіўна, але Пуцін чамусьці не пралічыў, наколькі ўся гэта гісторыя падарве яго і так небездакорную рэпутацыю.

### Імглістая будучыня

Наўрад ці знойдзецца чалавек, які зможа зрабіць прагноз пра будучыню Пуціна. Магчымы розныя варыянты. Ён можа яшчэ нейкі час падтрымліваць сепаратыстаў, толькі для таго, каб затрымаць працэс збліжэння Украіны з Еўропай. Але гэта бесперспектыўны варыянт.

Іншы шлях — поўная адмова ад амбіцый скарыць Украіну, але ў гэтым выпадку Пуцін страціць давер свайго бліжэйшага асяроддзя, а палітычныя арганізацыі, якія цяпер яго падтрымліваюць, могуць пачаць барацьбу ўжо супраць яго самога. Да іх могуць далучыцца вайскоўцы, якія прагнуць рэваншу за згубу СССР.

Нават калі Пуціну пашанцуе ўтрымацца, і ён працягне ўжо без Украіны ўзнаўляць нейкую прастору, то без пытанняў ужо не абысціся.

Што можа Пуцін прапанаваць у рамках зноў ствараемага Еўразійскага эканамічнага саюза пасля таго, як расійская эканоміка будзе моцна патрапаная заходнімі санкцыямі? І наколькі высокі ўзровень даверу да Крамля двух партнёраў — Беларусі і Казахстана?

Практычна ўсе міждзяржаўныя структуры, створаныя пасля распаду СССР — СНД, ШОС, АДКБ і ТС, — напаўжывыя арганізацыі. Ці зможа стварэнне яшчэ адной структуры ажывіць постсавецкую інтэграцыю, якая навязваецца Крамлём? Ужо цяпер існуе вялікая колькасць супярэчнасцяў: Казахстан не жадае палітызацыі саюза; Беларусь не жадае адзінай валюты і наогул супраць спробы стварэння новага СССР. Расія, наадварот, прапануе стварэнне еўразійскага парламента.

У выкладзе Пуціна гэта ідэя наогул выглядае злавесна: «Мы прапануем мадэль магутнага наднацыянальнага аб'яднання, здольнага стаць адной з канцавосяў сучаснага свету».

Наднацыянальнае аб'яднанне мае на ўвазе цэнтр. А хто жадае стаць цэнтрам? Правільна — Пуцін. Вядома, можна шмат іранізаваць з нагоды «канцавосі сучаснага свету». Але менавіта да гэтага імкнуўся Пуцін яшчэ ў канцы мінулага года, калі ўгаварыў Януковіча не падпісваць дакументы пра асацыяцыю з ЕС у Вільнюсе. Займеўшы Украіну, Пуцін без сумневаў і без адмысловых высілкаў змог бы пераадолець супраціў большай, калі не ўсёй, часткі постсавецкіх краін. У тым ліку і такіх свавольных, як Грузія, Азербайджан, Узбекістан і Туркменістан.

Няўдача ва Украіне — гэта не толькі асабістая параза Пуціна, гэта крах ствараемай ім імперскай тэрыторыі. Калі ў партнёраў, Назарбаева і Лукашэнкі, яшчэ заставалося пачуццё самазахавання, яны знойдуць спосаб адмовіцца ці адкласці на нявызначаны час падпісанне дамовы пра стварэнне ЕАЭС. У іншым выпадку, наступствы ад санкцый Захаду супраць Расіі будуць аўтаматычна адбівацца і на яе партнёрах.



Уладзімір Пуцін, Нурсултан Назарбаеў і Аляксандр Лукашэнка ў Астане

# Напалову ў саюзе

Сяргей ПУЛЬША

**Аляксандр Лукашэнка, падпісаўшы дамову пра ЕАЭС, усё ж «недадавіў» свайго партнёра па інтэграцыі Уладзіміра Пуціна. Трэба было б яшчэ крышачку націснуць, але на гэта не хапіла часу.**

Кіраўнік Беларусі літаральна ў дзень падпісання дамовы казаў пра незадаволенасць праектам ЕАЭС. «Не сказаць пра тое, што некаторая незадаволенасць маецца, я не магу», — сказаў ён у чацвер на пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета.

Відавочна, што гэтая незадаволенасць выкліканая вынясеннем «за межы» дамовы пытання аб зняцці мытных пошлінаў на рээкспарт расійскіх нафтапрадуктаў. Гэта б дазволіла Беларусі не пералічваць у расійскі бюджэт каля 4 мільёнаў долараў экспартнай пошліны.

> **У 2014 годзе Беларусь будзе пералічваць экспартныя пошліны ў бюджэт Расіі ў поўным аб'ёме. У 2015 годзе ў бюджэт Беларусі будзе залічана 1,5 мільярда долараў вывазных мытных пошлін ад экспарту нафтапрадуктаў, выпрацаваных з расійскай нафты**

Галоўным у пасяджэнні ў Астане для Беларусі было не падпісанне ЕАЭС, а менавіта «нафтава-пошліннае пытанне». І гэтае пытанне беларускаму боку ўдалося вырашыць толькі напалову. Былі падпісаныя два пратаколы: аб унясенні зменаў у пагадненне аб мерах па ўрэгуляванні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва ў галіне экспарту нафты і нафтапрадуктаў, а таксама аб унясенні зменаў у пагадненне аб парадку выплаты і залічэння вывазных мытных пошлін пры вывазе з Беларусі за межы тэрыторыі Мытнага саюза сырой нафты і нафтапрадуктаў.

Як растлумачыў журналістам намеснік міністра фінансаў Беларусі Дзмітрый Кійко, у 2014 годзе Беларусь будзе пералічваць экспартныя пошліны ў бюджэт Расіі ў поўным аб'ёме. У 2015 годзе ў бюджэт Беларусі будзе залічана 1,5 мільярда долараў вывазных мытных пошлін ад экспарту нафтапрадуктаў, выпрацаваных з расійскай нафты.

Па словах Дзмітрыя Кійко, дамоўленасць разлічана на доўгатэрміновы перыяд практычна да выхаду на адзіны рынак нафты і нафтапрадуктаў. «Пры гэтым маецца досыць гнуткі механізм перагляду гэтых гранічных сум. Беларускі бок такі механізм разумее як магчымасць паэтапнай поўнай адмовы ад пералічэння вывазных мытных пошлін у расійскі бюджэт», — заявіў намеснік міністра.

Разам з тым Дзмітрый Кійко адзначыў, што задача-максімум складалася ў поўнай адмове ад пералічэння вывазных мытных пошлін на адпаведную прадукцыю ў бюджэт Расійскай Федэрацыі ўжо з 2015 года, што ў прынцыпе і мае на ўвазе эканамічны саюз. «Але, паколькі гэтае пытанне досыць адчувальнае і для Беларусі, і для Расіі, фарміраванне агульнага рынку адкладзена на досыць працяглы тэрмін. Суму ў 1,5 мільярда долараў мы разглядаем як першы этап выхаду на ўзаемаадносіны без гэтых абмежаванняў», — сказаў намеснік міністра.

Такім чынам, Аляксандр Лукашэнка дамогся ад Пуціна толькі частковага зняцця мытных пошлінаў з нафты. Улічваючы, што агульны адзіны рынак нафты і нафтапрадуктаў мае стварыцца толькі ў 2020 годзе, усе гэтыя гады Расія ўсё ж будзе атрымліваць беларускую нафтавую пошліну, хоць і ў скарочаным памеры. Але і паўтара мільярда долараў у год за падпісанне ЕАЭС — таксама няблага.

Канешне, Беларусь можа разглядаць дасягнутыя дамоўленасці як «гнуткі механізм перагляду» гэтай сумы ў бок змяншэння выплатаў Расіі. Але ці будзе гэтаксама разглядаць іх Расія — гэта вялікае пытанне. У той перыяд, калі з-за анексіі Крыму нашая «старэйшая сястра» губляе вялікія грошы, далібог, каб гэтыя «гнуткія механізмы» не ператварыліся ў адваротнае — адмову Расіі ад дасягнутых пагадненняў. Падаецца, што лепш бы такіх механізмаў не было б увогуле.

А калі Расія «ўзбрыкне»? Аляксандр Лукашэнка і тут пакінуў сабе поле для манеўра. Напярэдадні падпісання дамовы пра ЕАЭС, праводзячы нараду напярэдадні візіту ў Казахстан, ён прызнаў, што ў выпадку нейкіх «выбрыкаў» ягоны подпіс пад ЕАЭС можа лічыцца нядзейсным.

«Трэба выразна даць зразумець нашым партнёрам: калі нас задавальняюць нашы дамоўленасці на двухбаковай аснове, а гэта як дадатак да гэтай дамовы, задавальняюць яны нас у 2014 і 2015-м — дзякуй, добра, мы працуем як партнёры. Калі мы не дасягаем пагадненняў у будучыя гады (...) калі мы не дасягаем двухбаковых дамоўленасцяў — тады які эканамічны саюз? І гэта павінна быць дакладна і адназначна прапісана, каб нас потым не папракалі, што вы разумееце гэта так, а мы вось разумеем гэтак», — заявіў ён.

Так што мы зараз, як напалову знялі мытныя пошліны, так і «напалову ў ЕАЭС».

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

## Балотная эканоміка

**За савецкім часам, яшчэ ў далёкую дакамутарную эпоху, таксама былі праграмісты. Гэта тыя, што спецыялізаваліся на напісанні «праграмных дакументаў». Праграм было шмат, эпахальных і лёсавызначальных: пабудовы камунізму, харчовая, асушэння балот, антыалкагольная…**



Калі да ўлады трапіў Лукашэнка, ён загадаў распрацаваць праграму па вываду эканомікі Беларусі з крызісу. Праграму хуценька прынялі, прызначылі адказных за асобныя яе раздзелы — і дружна не выканалі. За выключэннем Станіслава Багданкевіча, якому было загадана збіць інфляцыю з тысяч да нейкіх 20–30 працэнтаў за год. Тагачасны галоўны банкір краіны гэта зрабіў, і быў пакараны адстаўкай.

Чаму? Бо Багданкевіч для выратавання грашова-фінансавай сістэмы забараніў друкаваць пустыя грошы, распачаў «зачыстку» грашовых каналаў, каб у іх траплялі толькі зароблены рублі.

А яшчэ ёсць прагнозы. Не ў сэнсе прагнозу надвор'я, а прагноз-дырэктыва, абавязковая для выкананне ўсімі падначаленымі. Але прагнозныя ўстаноўкі таксама не выконваліся. З цягам часу выканаўцы перасталі рэагаваць і на прагнозы, і на заданні. Не так даўно Лукашэнка адчуў, што эканоміка (а гэта перш-наперш яго чыноўнікі, адміністратары, спецыялісты) пачала працаваць не так, як гэта належыць, а так, як атрымліваецца. Нешта зробяць, нешта прададуць, нейкую капейчыну атрымаюць і не спяшаюцца выконваць грашовыя абавязкі перад вярхоўнай уладай.

А чым займалася ўлада? Ёсць свежы адказ Міхаіла Мясніковіча. «Вынікі мінулага года і чатырох месяцаў бягучага, — сказаў ён, — сведчаць, што традыцыйная мадэль развіцця грашовага комплексу выкарыстала сябе». Інакш кажучы, эканоміка загразла, як танк у балоце. Ці не свядома яго туды загналі?

Падаецца, што ні адмыслоўцы, ні міністэрскае начальства, ні дырэктары не ведаюць, што рабіць, і не спяшаюцца з прапановамі. Бо да гэтага часу большасць прапаноў нікога не цікавіла. Перш-наперш Лукашэнку, які ўзяў на сябе адказнасць за эканоміку, узяў пад кантроль кожны інвестыцыйны праект, прысвоіў сабе права распараджацца ўсімі дзяржаўнымі грашыма, якія рознымі спосабамі траплялі да яго.



За 20 гадоў розныя людзі і інстытуты па-рознаму называлі «беларускую мадэль». Прыкладам, цешыліся «рынкавым сацыялізмам». Маўляў, пры такіх падыходах калгаснікі пачнуць працаваць болей і лепей, чым заходнія фермеры, але з гэтага атрымаўся пшык. І вельмі дарагі. Заканамерны вынік. Бо мадэль так званага «рынкавага сацыялізму» патрабуе звесці дзяржаўны ўдзел у эканоміцы амаль да нуля, а ўсе вытворчыя сродкі, у крайнім выпадку нават працоўныя месцы, абʼяўляюцца маёмасцю работніка, які мае права нават перадаваць яго сваім нашчадкам.

Зразумела, што на такіх умовах кіраваць эканомікай Лукашэнка не ўмеў і не хацеў. Яму без розніцы «ізмы»: што сацыялізм, што капіталізм, на практыцы яму патрэбна адно — зліць усе прадпрыемствы ў адзіны трэст, з мноства дробных калгасаў і саўгасаў зрабіць адзін, як лічылася, асабліва буйнатаварны саўгас, з ім на чале. Выключна яму аднаму падпарадкаваны.

Пасля «рынкавага сацыялізму» перайшлі да «сацыяльнай дзяржавы», а далей яшчэ горай — да «ручнога кіравання». Гэта сталася заяўкай на абсалютную ўладу кіраўніка краіны, паўнамоцтвы якога выходзяць далёка за рамкі прэзідэнцкай пасады.

Канцэнтрацыя ўлады ў эканоміцы стала магчымай, калі Лукашэнка прысвоіў сабе абсалютную палітычную ўладу над беларусамі. І яны яму падпарадкоўваюцца. Але яму не падпарадкоўваюцца працэсы, вытворчыя адносіны паміж людзьмі, якія не дазваляюць ім працаваць так, як яны маглі б.

Калі кажуць, што такая мадэль перажыла сябе, то маюць на ўвазе, што наступіў час выцягнуць гэту стрэмку, якая тармозіць рух эканомікі. Якраз тое, пра што і казаў Мясніковіч, калі перакласці сэнс яго слоў з бюракратычнай мовы на чалавечую.

# Ці атрымаецца распродаж?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Беларускія ўлады ў чарговы раз спрабуюць выканаць план па прыватызацыі. Як паведаміла прэс-служба Дзяржкамітэта па маёмасці, на распродаж выстаўленыя акцыі 83 беларускіх прадпрыемстваў, у якіх дзяржава мае сваю долю.**




Раней таксама выстаўляліся на распродаж розныя абʼекты. Але амаль заўсёды гэта нічым не заканчвалася, бо гэтыя абʼекты былі непрывабныя для інвестараў. Зараз для продажу на аўкцыёнах прапануюцца пакеты акцый 10 акцыянерных таварыстваў, па конкурсе — 73 таварыстваў. Умовы конкурсаў, як правіла, утрымліваюць абавязацельствы пакупніка па ўкладанні інвестыцый і мадэрнізацыі вытворчасцей, выкананні пэўных сацыяльных гарантый. Асобна адзначаецца, што ўлады не развіталіся з думкаю прадаць такі буйны актыў, як доля ў статутным фондзе апаратара сотавай сувязі СТАА «МТС» (51%) і пакет акцый (25% + 1 акцыя) у статутным фондзе ААТ «Гродна-Азот» (не менш за 414 мільёнаў долараў).

Пра кошт МТСу не паведамляецца. Але варта адзначыць, што раней яго спрабавалі прадаць і за 1 мільярд долараў, і за 900 мільёнаў. Не атрымалася. Таму што патэнцыйныя пакупнікі лічаць гэты кошт завышаным.

Ці атрымаецца ў беларускіх уладаў аўкцыён зараз? Эксперт аналітычнай суполкі «Ліберальны клуб» Антон Болтачка кажа, што ў нашых уладаў пытанне прыватызацыі — вельмі раўнівае. «Колькі разоў такі ж распродаж ужо абвяшчаўся, і ўсе гэтыя разы ён заканчваўся нічым. Нельга чакаць зараз, што і гэтыя аўкцыёны па продажу ўласнасці чым-небудзь скончацца», — лічыць ён.

Па меркаванні эканаміста, да сапраўднай прыватызацыі ўлады можа падштурхнуць толькі хранічная нястача грошай у бюджэце. «Калі сітуацыя стане крытычнай, то тады можна спадзявацца на продаж такіх «смачных» для расійскіх інвестараў прадпрыемстваў, як «Гродна-Азот», альбо «МТС». Ёсць яшчэ два прадпрыемствы ў гэтым шэрагу, продаж якіх магчымы: «Пеленг» і Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод», — кажа Болтачка.

Тым не менш, па яговых словах, маскоўскі офіс «МТС» не вельмі жадае купляць долю ў беларускай «дачцэ», бо лічыць яе кошт значна завышаным, а з «Пеленгам» узнікнуць складанасці, бо гэта прадпрыемства ваенна-прамысловага комплексу. Што ж тычыцца «Гродна-Азота» і МНПЗ, то яны цалкам могуць быць прададзеныя. «У прыватнасці, на МНПЗ даўно «точыць зуб» расійскі нафтавы магнат Міхаіл Гуцырыеў, а рынак азотных угнаенняў пасля крызісу зараз пачаў уздымацца», — адзначае Болтачка.

**Але самае галоўнае ў тым, што Беларусь зараз не адчувае крызісу. Дакладней, крызіс стаў нармальным становішчам нашай эканомікі**

Вядома, у першую чаргу «наш распродаж» тычыцца рускіх патэнцыйных пакупнікоў. Як правіла, заходніх інвестараў у краіну і пернікам не заманіш. Але зараз расійска-ўкраінскі канфлікт абрынуў расійскі рынак, з якога пачаўся імклівы адток капіталу. Ці будуць у рускіх грошы на нашыя нятанныя прадпрыемствы?

«Нягледзячы на тое, што зараз на расійскім рынку ідуць негатыўныя тэндэнцыі, у беларускіх прадпрыемствах зацікаўленыя структуры, у якіх грошы, нягледзячы на крызу расійскага рынка, ёсць, — упэўнены Болтачка. — Адзначу, што такія здзелкі, як правіла, здзяйсняюцца з тым, каб разлічыцца з будучага прыбытку. Напрыклад, калі МНПЗ набудзе Гуцырыеў, які ў добрых адносінах з Лукашэнкам і мае нейкую вагу ў пуцінскіх кабінетах, то ён можа стаць адзінай «пракладкай», праз якога нафта будзе з Расіі ісці на Захад. А гэта вельмі дорага каштуе».

Варта зазначыць, што, пакуль беларускі бок выстаўляе непрымальныя ўмовы, кошт актываў беларускіх прадпрыемстваў, зразумела, зніжаецца праз іх эксплуатацыю і амартызацыю. Мы ўжо казалі, што МТС нават пры спробах продажу патаннеў на 100 мільёнаў долараў. Тое ж самае адбываецца і з «Гродна-Азотам». Яшчэ 21 мая віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Сямашка казаў, што ў пакупцы акцый прадпрыемства зацікаўленыя такія волаты, як «Раснафта», «ЕўраХім» і «Газпрам». Тады Беларусь была гатовая прадаць інвестару, які валодае неабходным абʼёмам прыроднага газу, кантрольны пакет (50% +1 акцыя) «Гродна-Азота» за стартавы кошт 850 мільёнаў долараў плюс не менш за 1,2 мільярда інвестыцый у развіццё вытворчасці з шэрагам часовых абмежаванняў, у тым ліку і на распараджэнне акцыямі.

Не прайшло і тыдня — «Гродна Азот» патаннеў на 22 мільёны долараў. Замест 850 мільёнаў за яго ўжо просяць 828 мільёнаў (2 пакеты акцый па 25% коштам 414 мільёнаў). Такім чынам, калі не вызначыцца з пакупнікамі зараз, актывы будуць таннець і таннець.

Але гэта, на думку Болтачкі, не вельмі істотна. «Па-першае, ёсць розныя метады ацэнкі прадпрыемстваў, зыходзячы не толькі з кошту іх асноўных сродкаў, але і, напрыклад, з абʼёмаў прыбытку, з абʼёмаў перапрацоўкі. Канешне, такая рэч, як знос магутнасцяў, пры ацэнцы будзе прысутнічаць, але збольшага ў прапанаваных прадпрыемствах, наадварот, праходзіла мадэрнізацыя. А па-другое, у Беларусі кошт прадпрыемстваў вызначаюць не ацэншчыкі і не рынак, а нашая наменклатура і вышэйшае кіраўніцтва», — лічыць Болтачка.

У гэтым з ім згодны і эканаміст, намеснік старшыні АГП Леў Марголін. «Вопыт продажу «Белтрансгаза», некаторых іншых актываў вучыць беларускі бок: калі добра патаргавацца, то за ўласнасць можна атрымаць грошай больш, чым яна каштуе рэальна. Маўляў, што там варта Расіі па дружбе перакінуць лішні мільярд? Вось мы ўпромся, яны будуць скакаць-скакаць і рана ці позна дадуць нам тое, што мы хочам», — адзначыў Марголін.

Але самае галоўнае ў тым, што Беларусь зараз не адчувае крызісу. Дакладней, крызіс стаў нармальным становішчам нашай эканомікі. Тым не менш, з дня на дзень краіна чакае абяцанага Расіяй крэдыту ў 2 мільярды долараў на падтрымку золатавалютных рэзерваў. Пакуль вядома, што хакейныя заўзятары выпілі ў Мінску амаль паўмільёна літраў піва і з'елі каля 30 тон шашлыку, і яшчэ не падлічана, колькі валюты яны тут пакінулі. У такіх умовах «адноснай стабільнасці» беларускай эканомікі наўрад ці магчымы сапраўдны распродаж прадпрыемстваў. Грошы ў краіне пакуль што ёсць, ці хутка будуць, і «прадаваць што-небудзь непатрэбнае» проста не мае сэнсу.

**Літаратурная Беларусь**

Выпуск №5 (93)
(травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

**Змест**



# Прайсці праз рыфы, або Жыццё працягваецца

Леанід ГАЛУБОВІЧ



***«Большасць вершаў і цяпер проста дрэнныя, гэтаксама як заўсёды былі дрэннымі большасць вершаў. Дрэнныя вершы маюць сваю пераемнасць, — калі хочаце, яны ўдасканальваюцца, імкнучыся за добрымі, своеасабліва пераапрацоўваючы і перакручваючы іх. Цяпер пішуць дрэнна па-новаму — вось і ўся розніца!»***

***Восіп Мандэльштам***

Калі я натрапіў на гэтую кніжку («Параходзік сучаснасці», зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога літаратара Саюза беларускіх пісьменнікаў, «Кнігазбор», 2013), то адразу прыгадаў калектыўныя зборнікі свайго часу, якія тады з трапнай падказкі класікаў (ці не Барадуліна?) называлі «братнімі магіламі».

Доля праўды ў такім суровым вердыкце была, але трэба прызнаць, што там зрэдку пракідалася і здаровае зерне, якое па часе давала добрыя творчыя ўсходы. Дарэчы, сам я не прыхільнік калектыўнага ў творчасці, асабліва ў літаратурнай. Аднак іншым разам сітуацыя вымагае задзейнічання і такіх праектаў, каб хоць такім чынам канструктыўна зберагаць здольнасці і таленты і без таго нешматлікіх ратаяў нацыянальнага краснага пісьменства. А тут заявіла пра сябе цэлая гулліва пісьменніцкая Школа!..

Зазначу, што і мне самому давялося па запрашэнні «правесці майстар-клас» сярод яе «вучняў». І хоць тое мне падалося патрэбным, аднак хаатычным і выпадковым. А ў такім разе патрэбна адладжаная праца. Зрэшты, у маладых творцаў сёння значна шырэйшы абсяг практычнага і тэарэтычнага доследу, які яны могуць набываць і пераймаць за межамі Айчыны, ці спажываць з інтэрнэту, чаго бракавала майму пакаленню. Затое ў нас былі немалыя ўнутраныя дзяржаўныя магчымасці, няхай і абнесеныя ідэалагізаванымі перашкодамі. Цяпер, калі я ўспамінаю сваё літаратурнае пачаткоўства (ад 1980-х гадоў), наноў патрапляю ў тую захмелена-мройную краіну няспраўджаных надзей.

Тады, за савецкі часам, літаратура, найперш паэзія, была своеасаблівай метафарычнай «шэнгенскай візай» — ты мог «лётаць» куды хочаш, і пры гэтым заставацца там, дзе змушаны... Незвычайны час, калі дух і цела павінны былі знаходзіць прыдатную форму гармоніі дзеля творчага і фізічнага выжывання. Я і сёння перакананы, што тады таленавітыя аўтары стваралі паэзію, а не пісалі вершы, як пераважна тое робяць цяпер. Можна прывесці досыць прыкладаў, пачынаючы ад Барадуліна, Вярцінскага, Бічэль, Някляева, Баравіковай, Янішчыц, Разанава, Мінкіна, Сыса... Але каб не займаць месца цытацыяй (пры цікавасці вы можаце зрабіць такія параўнанні самі, парыўшыся ў бібліятэках), проста выкажу напавер сваю суб'ектыўную думку: выбітныя вершы гэтых жа паэтаў, напісаныя ўжо ў суверэнны беларускі час, саступаць у мастацкім плане іх лепшым творам часу савецкага. Я таксама там варыўся, таму дэкларую гэта «з глыбокім веданнем прадмета». Было ўражанне неабходнасці і сапраўднасці літаратурнай творчасці. Не пакідала адчуванне, што і сам ты ёсць вартаснай адзінкай мастацкага працэсу. Што дзякуючы літаратуры і, мажліва, табе асабіста свет не абрынаецца ў прорву чыста матэрыяльнай заклапочанасці і вульгарнага бытавання... Выдаваліся кніжкі і ганарары, праводзіся з'езды, пленумы, пасяджэнні секцый, семінары для маладых, збіраліся літаб'яднанні пры газетах, быў свой Дом літаратараў з усім, што літаратару трэба, нават багемнаму, Літфонд са сваімі падачкамі, паліклініка, бюро прапаганды з платнымі выступленнямі і сустрэчамі з чытачамі ў вузкім ды шырокім маштабах, Дом творчасці, камандзіроўкі, кватэры, — словам быў наладжаны літаратурны працэс ад пачатку да канца...

Нават для тых, хто нейкім чынам дысідэнстваваў, была магчымасць працісквацца ў вузкія шчыліны і нішы таго камуністычнага «літаратурна-ідэалагічнага раю», і, здаецца, ніхто асабліва ў «пекла» і не патрапляў, калі не лічыць адкрыта заяўленай апазіцыйнасці (несавецкасці) Л. Генііюш, асобных прыяў упартай беларускасці А. Разанава ды лавіравання сярод ідэалагічных нормаў У. Караткевіча, В. Быкава і А. Адамовіча... Вартае ўвагі, найперш для правінцыйных аўтараў, ліставанне з літкансультантамі рэдакцый, якія абавязаны былі адказваць на дасланыя літаратурныя тэксты. Уласна я маю ў сваім архіве як кароткія, так і даволі аб'ёмныя лісты з рэдакцый ад У. Някляева, Я. Янішчыц, В. Тараса, Л. Філімонавай, М. Федзюковіча, Ю. Свіркі, К. Цвіркі, М. Аўрамчыка, П. Макаля, А. Вярцінскага...

Аднак Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве пры Літінстытуце імя Горкага сталіся для мяне, бадай, найярчэйшай літаратурна-асветніцкай школай (мова, літаратура: сучасная і старажытная, савецкая і сусветная, гісторыя, філасофія, эстэтыка-мастацтвазнаўства-культуралогія, семінары паэзіі, прозы і драматургіі). Вось каб у сучаснай Беларусі была магчымасць стварыць падобны творча-адукацыйны цэнтр навучання — было б проста цудоўна. Але для таго трэба воля грамадства, разуменне ўлады, фонды-гранты і г.д...

Калі да ўсяго вышэй мной згаданага дадаць прагу пастаяннай самаадукацыі, бязмернае чытанне і самакрытычнае стаўленне як да сваёй асобы, так і да сваёй літаратурнай працы, і ўсё гэта — заўважце! — у непарыўным звязку з хмельнай багемнасцю, у выніку прывяло да з'яўлення такой, як мне здаецца, даволі самадастатковай вольна-акадэмічнай творчай натуры, якой я і ёсць сёння.

Гэта я прывёў прыклад уласнай літаратурнай арганізацыі, каб цяперашнія маладыя творцы параўналі яе са сваёй...

Я даўно сачу за іх творчасцю... Ёсць таленавітыя аўтары. Аднак пераважна — гэта своеасаблівае літаратурнае караоке... На жаль, неўпрыкмет страчваецца школа (фундаментальная літаратурная пераемнасць). Зашмат знешняга самавыстаўлення і непрыкрытага перамання. Вобмаль душэўнай суперажывальнай працы і жыццёвага вопыту не спрыяе фармаванню яркіх выбітных асобаў (ні табе караткевічаў, ні быкавых, ні стральцовых, ні купрэевых, ні янішчыц, ні сысоў ці хоць бы адамовічаў). Пры гэтым згадваюцца радкі цудоўнага рускага лірыка У. Сакалова:

*Нет школ никаких. Только совесть,*
*Да кем-то завещанный дар,*
*Да жизнь, как любимая повесть,*
*В которой и холод и жар.*

Пачынаючы гаворку канкрэтна пра заяўлены зборнік, трэба, мабыць, патлумачыць яго правакацыйную назву. Напэўна, знаёмыя з літаратурным працэсам людзі памятаюць маніфест футурыстаў больш як стогадовай даўнасці, які меў назву «Аплявуха грамадскаму густу» і пачынаўся так: «Чытаючым наша Новае Першае Нечаканае. Толькі мы — твар нашага часу. Рог часу трубіць нам у славесным мастацтве. У мінулым цесна. Акадэмія і Пушкін незразумелыя іярогліфы. Кінуць Пушкіна, Дастаеўскага, Талстога і інш. і інш. з Парахода Сучаснасці. Хто не забудзе свайго першага кахання, не ўведае апошняга».

І г.д, і да т.п. Мабыць, адсюль і выцякае, няхай і прыхаваны за іроніяй, пасыл да назвы гэтай кніжкі. Мауляў, аўтары зборніка і ёсць патэнцыйнымі пасажырамі таго «парахода сучаснасці», з якога скінуты ўсе гэтыя купалы-коласы-мележы-танкі-куляшовы... І, трэба сказаць, у тэкстах некаторых аўтараў гэта адчуваецца — нястача нацыянальнай літаратурнай культуры.

Перад тым, як прыступіць да разгляду тэкстаў, хацелася б згадаць, што заняткі ў штудыях Школы праводзілі адметныя творцы. Адзначу, што і сярод «школьнікаў» фігуруюць аўтары, якія ўжо маюць уласныя кніжкі: Н. Манцэвіч, А. Казлова (Анка Упала), К. Дубоўскі, В. Чайкоўская... Агулам 18 паэтаў і празаікаў. Сярод іх ёсць і не такія ўжо маладыя, як па гадах, так і па творчай выяўленасці ў перыядычным друку.

**Працяг на стр. 22 (14)**

## «Межавыя знакі» Алеся Каско

**У Берасці прайшла прэзентацыя зборніка Алеся Каско «Межавыя знакі» (серыя «Кнігарня пісьменніка» Саюза беларускіх пісьменнікаў).**

Аўтар многіх вершаваных выданняў апублікаваў кнігу, якая змяшчае выбраныя творы з ранейшага перыяду, новыя паэтычныя тэксты і таксама невялікія празаічныя аповеды, якія сам паэт ахарактарызоўвае як навелы.




Імпрэза адбылася ў Берасцейскай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага, супрацоўнікі якой гасцінна падрыхтавалі тэматычную кніжную выставу земляка.

На прэзентацыі сабраліся прадстаўнікі Берасцейскага аддзялення СБП на чале са старшынём Іванам Мельнічуком, сябры паэта, госці з Мінска і іншых рэгіёнаў. Вёў вечарыну Генадзь Праневіч.

**Прэс-служба СБП**

## «Халоднае крыло Радзімы»

**«Халоднае крыло Радзімы» — так будзе называцца новая кніга зняволенага літаратара Алеся Бяляцкага, якая рыхтуецца да выдання. У кнігу ўвойдуць занатоўкі, эсэ, інтэрв'ю, успаміны.**

Назву сам аўтар тлумачыць у лісце так: «Яна шматзначная. Чаму крыло «халоднае» – зразумела. І Радзіма тут выглядае птушкай – зязюляй? чайкай? І зязюляй, бо не глядзіць сваіх дзяцей, і чайкай, бо ў іх, калі яны ляцяць, крылы срэбныя з-падысподу... і адліваюць на сонцы холадам. І такое крыло пакуль не грэе сваіх птушанятаў, пад якімі можна разумець усіх, хто ходзіць і жыве пад яе крылом».

«Халоднае крыло Радзімы» – чацвёртая кніга Алеся Бяляцкага, своесаблівы працяг «Асвечаных беларушчынай», выдання, якое выйшла таксама падчас зняволення аўтара.

**Паліна Сцепаненка**

# In memoriam

## Уладзімір Дамашэвіч

**30 красавіка на 87-м годзе жыцця не стала Уладзіміра Максімавіча Дамашэвіча — празаіка, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.**



Пайшоў з жыцця Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч. Вясною, калі самае жыццё, кветкі і лісце. Лёгкая смерць, у сне. Людзі кажуць — «пацалунак Бога». У часопісе «Дзеяслоў» неўзабаве павінна выйсці яго новае апавяданне...

Беларуская літаратура страціла яшчэ аднаго свайго адданага сына (ён, дарэчы, любіў «высокія» словы, не саромеўся іх — наадварот, лічыў, што мы задужа заціснутыя: «Напісаў жа Бачыла, казаў Уладзімір Максімавіч: «Радзіма, мая дарагая!» — амаль гімн»).

Упэўнены, У. М. Дамашэвіч не забудзецца. Пра яго як пісьменніка, палітыка, патрыёта, чалавека — яшчэ напішуць. Мне хацелася б хоць крышку здагадаць Дамашэвіча як рэдактара. Ён практычна ўсё жыццё прысвяціў гэтаму няўдзячнаму занятку.

Прыгадваецца выпадак у «Іслачы», калі Васіль Быкаў адказваў на пытанні маладых літаратараў. Тут прагучаў голас Дамашэвіча з дальняга кутка:

— Васіль Уладзіміравіч, калі Вам лягчэй пісалася: цяпер, калі Вы ўжо ў зеніце славы, ці ў пачатку творчай дарогі?

Адказ атрымаўся цікавы. Але не менш цікавымі былі і паводзіны Быкава. Ён хутка падняўся і зашпіліў пінжак.

— Уладзімір Максімавіч — рэдактар маёй першай кнігі, — патлумачыў ён. — Без яго я наўрад ці зрабіўся б пісьменнікам.

**Андрэй Федарэнка**

## Анатоль Кудравец

**8 мая спачыў у вечнасці празаік, сябра Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоль Паўлавіч Кудравец.**



Анатоль Кудравец нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Аколіца Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў Слуцкую педагагічную вучэльню (1955). Вучыўся на аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў рэдактарам на Беларускім радыё, літсупрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва», рэдактарам выдавецтва «Беларусь», доўгі час узначальваў часопіс «Нёман».

Анатоль Паўлавіч быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, з'яўляўся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа (за раман «Сачыненне на вольную тэму» (1986)) і прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» (2012).

Развітанне з Анатолем Кудраўцом адбылося 11 мая. Пахавалі творцу на могілках у Калодзішчах.

## Давід Сімановіч



**9 мая пасля цяжкай хваробы памёр Давід Рыгоравіч Сімановіч — беларускі паэт, празаік, перакладчык.**

Давід Сімановіч нарадзіўся ў 1932 годзе ў Нароўлі на Гомельшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Працаваў літсупрацоўнікам рэдакцыі абласной газеты «Віцебскі рабочы». З 1961-га — рэдактар, старэйшы рэдактар, загадчык аддзела камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта. З 1980 года знаходзіўся на творчай рабоце. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1960 года. Жыў у Віцебску.

Пісаў на расійскай мове. Асобныя яго творы пакладзеныя на музыку І. Лучанком, Б. Насоўскім, А. Гоманам.

## Незабыўны паэт Віталь Гарановіч

**Спонілася два гады, як не стала паэта Віталя Гарановіча. Ён быў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пра яго мала пісалі, толькі ў раённай газеце...**



Здаецца, ён кажа мне:  
Дажджы палеткі прамываюць  
І шыбы ў родным акне.  
Глядзі ў прастору, Марыя,  
Звіні на думнай струне.  
Звіні, паэтка, у неба —  
Пачуе, мабыць, хто-небудзь.  
На белым свеце няма мяне.  
Там ці сумуюць, ці не?  
Калі б я жыў — закружыў  
Вырай у небе веснім  
Песняй...  
Пра Саракі.

Сумуем, помнім. Памяць чуе голас брата. І таксама чуе голас Віталя Гарановіча. Я з ім гаварыла пра тугу, пра свой стан душы, пра што не магла пагаварыць з іншымі. Ён слухаў і разумеў. У віры рознага смутку, які выпаў на маю душу, не паспела забраць з рук Віталя кнігу «Нараджэнне вады» і сказаць яму, ад сябе, свайго зроку, усприманьня, захаплення, пра ягоны метафарычны талент. Чалавеку трэба гаварыць хвалу, прызнанне жывому. І ствараць удзячнасць Богу за нас на белым свеце. Бо белы свет — нам падарунак, і мы нешта значым для Творцы і з'яўляемся падарункам сваёй чалавечай грамадзе. Калі жывём зацікаўлена, удзячна, шчодра і светлазычліва.

Віталь Гарановіч меў захапляльную душу. Быў чалавекам працы, шанавання, узіральнасці, слова. Быў гаспадар свайго дому. Ён — працаўнік на ніве беларускай асветы, асветы родным словам. Паэт, які рос, дакранаючыся да ўсіх граняў працоўнага чалавечага жыцця. І душой рос, дакранаючыся да неба зямнога. Ён назіральны. Яго іскрынка, дадзеная звыш, заўсёды разгаралася ад старання душы, праз думку выяўлення. І праз разумны давер таксама.

З рукапісам «Саракі» Віталь звярнуўся да мяне як да стылёвага рэдактара. І што цікава? Прыняў усе мае праўкі, скарачэнні (у мяне верш, звычайна, кароткі). Не згадзіўся толькі з адной заўвагай, дзе, відаць, хацеў даць вобраз раздолля. У гэтым яго даверы хавалася відушчая згода. Бо заўсёды майстру трэба нехта другі. Каб пачытаў і заўважыў.

Працаўнік Гарановіч, знаходнік, закаханы ў Божыя цуды белага свету, ствараў такія простыя і нечаканыя вобразы. Ён быў каштоўным настаўнікам для вучняў. І для паэтычнага чытача скарбам для захаплення.

Сёння я чытаю «Нараджэнне вады». У гэтай апошняй кнізе паэт застаецца нашай любоўю ў пейзажнай лірыцы. Надзвычайны метафарыст, трапны параўнальнік, думнік, вынаходнік радкоў. Ягоныя субяседнікі — неба, зямля, вецер, трава-раса, туман, сонца, поўня, пчала, птушка, конь, радзіма, гарады і таварыш палкоўнік Тамара Пятроўна з «Незабыўнага»...

Ёсць вершы — суцэльныя, цудоўныя метафары, у якіх адлюстроўваецца здзіўленне светам прыроды. Ачалавечаныя вобразы лагодзяць чытача, які адчувае ягонае «сонца, як гаючы крэмень», хоць і «ступіць восень у прыроду з маладзіком на галаве». Паэт ведае, што конь «на расу ўпадзе світаннем, каб прызабыцца моцным сном», што пчала «да крыльцаў немачных... працуе без аглядкі», дуб, «самотны прыгажун, за лета восень прымае... Над ім запознена пярун маланкай неба расшывае». А «ручай, як яйка птушаня, праклюнуў шкарлупу-ільдзінку». І што «туманы, як слімакі, да ўзгорка шчыльна прыліпаюць». І пры ўсім лірызме паэт Гарановіч хвалебна, ганарова пяе славу Радзіме («Дзве Радзімы»). Размашысты ў радках, шчодры ў фарбах хвалы (услаўленне беларускіх гарадоў, роднага Маладзечна і Глыбокага). Пра Нясвіж кажа:

Ты на зямлі спусціўшымся анёлам  
Здаешся вечна вернікам, Нясвіж.

Замілавана гіпербалізуе, узвышае ўсё, што ў воку. Яно становіцца аб'ёмным, буйным ад захаплення душы.

Напоўнены думкай увесь лірычна-філасофскі верш «Па формуле вечнасці», дзе «крынічка, нібы сэрца, пад дажджом халодным б'ецца».

Віталь Гарановіч у вершах рамантычна-ўзнёслы, аб'ёмны, маляўнічы і жыццярадасны.

Душа ягоная, здаецца мне, у высі,  
Дзе прамянёў святла не затушыць.  
Падняў сыноў. І вершы засталіся  
Для новай захапляльніцы-душы.

**Марыя Баравік**

## ЧЭРВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Бабкоў Ігар Міхайлавіч (нар. 02.06.1964)  
Галаскок Аляксей Пятровіч (нар. 06.06.1949)  
Антонаў Андрэй (Андранік Антанян) (нар. 08.06.1974)  
Варонік Святлана Аркадзьеўна (нар. 12.06.1969)  
Яскевіч Аляксандр Сямёнавіч (нар. 12.06.1934)  
Чапега Уладзімір Пятровіч (нар. 18.06.1939)  
Марціновіч Павел Аркадзьевіч (нар. 27.06.1954)  
Карамазаў Віктар Філімонавіч (нар. 27.06.1934)



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# Фільм пра Конана і яго партрэт

## Да 80-годдзя з дня нараджэння

**На развітанні каля яго дамавіны 6 чэрвеня 2011 года я сказаў, што для мяне Уладзімір Міхайлавіч быццам і не адыйшоў у іншы свет.**



**Уладзімір Конан. Графічны партрэт Марыны Мароз**

Ён для мяне заўсёды жывы. Не толькі таму, што ў памяці духоўнай і зрокавай яго постаць, суседства па Серабранцы, нашыя сустрэчы, размовы, супраца над фільмам аб ім, але і ў найпрасцейшым значэнні, бо дастаткова толькі ўставіць дыск са стужкай «Згадкі страчанага раю» ў прайгравальнік – і на экране бачыш жывога героя.

Пазнаёміліся мы з Уладзімірам Конанам дваццаць гадоў таму, у красавіку 1994-га. Па друку ведаў слова літаратара, філосафа, культуролага. Яно грэла сунастроенасцю беларускую душу. Прыйшла думка зняць сюжэт для кіначасопіса «Беларусь», які тады мы яшчэ выпускалі на нашай студыі «Летапіс». Не выключаю, што падштурхнула і юбілейная дата: тады яму споўнілася 60 гадоў. Уводным дыктарскім сказам для сюжэта ў кіначасопісе стався такі: «У віры мітуслівага жыцця бракуе часу згадаць беларускі шлях. Між тым ён і ў нягучных канкрэтных справах, і ў ціхіх развагах філосафа. Руплівец беларушчыны, супрацоўнік Скарынаўскага цэнтра, доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан». Цяпер думаю, што словы «ў ціхіх развагах» узніклі мо і падсвядома, але невыпадкова. Нягучнасць — адна з рысаў Уладзіміра Міхайлавіча. Якая аніяк не выключае магутнай сілы яго слова і моцы ўнутранай перакананасці. Проста чалавек такі, з якім адразу было лёгка гаварыць, быццам былі знаёмыя здавён...

Пакрысе выспельвалася думка зняць дакументальны фільм пра Уладзіміра Конана. Мастацкі кіраўнік і галоўны рэдактар «Летапісу» паставіліся да ідэі скептычна: пра філосафа зняць фільм вельмі складана, практычна немагчыма. Але я быў настойлівы, і ў 1998 годзе нематэрыяльнае (думка) увасобілася ў рэальнасць. Фінансаванне прыйшлося на пачатак года, а зіма тады была студзёнай. Потым мы былі ўдзячныя лёсу за такі збег абставінаў, бо марозы і завеі прыўнеслі ў карціну сваю адметнасць, кантраснасць, паспрыялі стварэнню вобраза героя. Мы — гэта здымачная група: аўтар сцэнарыя Уладзімір Мароз, рэжысёр Мікалай Князеў, аператар Віктар Бандаровіч. Мае таварышы, з якімі здымалі не першы фільм, выклікалі давер у героя, атрымаўся кантакт, без якога шанцаў стварыць сапраўдную дакументальную стужку практычна не бывае. Бо фільм — гэта найперш лёс чалавека, гранічная адкрытасць і шчырасць героя. Аб сваім асабістым жыцці, драматычных выгінах лёсу Уладзімір Міхайлавіч нідзе не пісаў, а тут яму давялося, няхай і няшмат, але гаварыць аб гэтым. Быццам спавядацца.

З іншага боку, як чалавек высокай культуры і творчы, ён разумеў, што кіно таксама ёсць творчасцю. Таму адгукаўся на ўсе просьбы рэжысёра. Да прыкладу: Наваградчына, радзіма Конана, мяце завіруха. Мы спыняем машыну пасярод дарогі і прапануем герою прайсціся па полі. І вось пад сіберным ветрам праз завею ідзе па полі адзінокая постаць. Спецыяльна такі кадр не прыдумаеш. Адно хочацца дадаць — у паліто, падбітым ветрыкам, бо сапраўднай зімовай апраткі Уладзімір Міхайлавіч не меў...

Калегі-скептыкі, калі ўбачылі гатовы фільм, свае папярэднія словы аб складанасці стварыць вобраз філосафа ўзялі назад. Без падманнай сціпласці суставальніка скажу, што гэта атрымаўся маленькі (працяглаcць стужкі 20 хвілін) шэдэўр Мікалая Князева. Як цяпер бачыцца, непадуладны часу. Канчатковая назва — «Згадкі страчанага раю» — прыйшла ў канцы працы. Сутнасная і мне блізкая, бо мой дзедаўскі хутар у Мікалаеўшчыне, абгароджаны з усіх бакоў плотам, і ёсць тым кавалачкам раю, аб якім згадвае ў сваіх развагах Конан. Самому герою фільм таксама спадабаўся. Яго паказвалі раз ці два па тэлебачанні, потым ужо толькі на саракавіны Конана ў Коласаўскім музеі. А зусім нядаўна ў канцы красавіка я паказаў яго ў Маскве на вечарыне памяці Конана, арганізаванай Лолай Званаровай і прысвечанай 80-годдзю філосафа...

На той вечарыне стаяў і графічны партрэт Конана, які намалявала мая дачка мастачка Марына Мароз. Яна некалькі разоў прыязджала да Уладзіміра Міхайлавіча. Вясною 2011 года мы з Марынай трапілі да Конана ўжо з гатовым партрэтам (выкананы ён у тэхніцы літаграфіі). Герою твора праца спадабалася (адзначыў, што павесіць на сцяну).

У момант развітання думалася, як заўсёды: і тэлефанаваць мог бы часцей, і заязджаць... Але жыццё не пераробіш. Затое са мною фільм пра Уладзіміра Конана — і словы: літаратурны тэкст пісьменніка, філосафа і чалавека.

**Уладзімір Мароз**

# «Сімфонія культуры»

## Сінхронны тэкст з фільма «Згадкі страчанага раю»

Уладзімір КОНАН

**Маё дзяцінства звязанае з бамбёжкай Любчы і Наваградка.**

Я ў гэты час пасвіў кароў на высокай гары, адкуль відзён Наваградскі замак. І калі нямецкія самалёты бамбілі Любчу, то мне здавалася, што бомбы падаюць на мяне. Цяперашні мой страх больш абстрактны. Ён звязаны з маім страхам няўстойлівасці быцця. Мне здаецца, што Беларусь калі-небудзь можа выпасці ў Бярмудскі трохвугольнік. Вось гэтая няўстойлівасць быцця і ёсць мой экзістэнцыяльны страх...

Гэты калідор славуты ў тым сэнсе, што тут пачыналіся рэпрэсіі нашай беларускай Акадэміі навук. Магчыма, па ім прайшлі ў незваротны шлях беларускі выдатны пісьменнік Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі і яго калегі па былым Інбелкульце Акадэміі навук. Так што мы лічым сябе пераемнікамі Акадэміі 20-х гадоў...

Для таго, каб пабыць у сваім уласным доме, пабыць гаспадаром, а Гасподзь Бог паставіў чалавека быць гаспадаром прыроды і сваёй працы, усё-такі трэба пэўны час мець свой дом, сваё са ўсіх бакоў абгароджанае месца. Свой рай, уласна кажучы. Ён патрэбны для чалавека, для сям'і, для народа і для дзяржавы. Бо ў калідоры цяжка быць і некамфортна. Вось мы сёння з вамі тут у калідоры. Ён славуты, як я ўжо сказаў. Па ім хадзілі нашыя слаўныя папярэднікі. Тут хадзілі і Янка Купала, і Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі. Тым не менш, ёсць нязручнасць. Значыць, не хапае гэтага камфорта для сустрэчы блізкіх сяброў. Пагэтаму краіна не павінна быць калідорам, інакш яе гаспадару прыйдзецца хавацца пад лаўку, каб на яго не наступілі нагою...

Драму перажываюць бацькі. А дзіця жыве, адчуваючы рай. У яго няма пачуцця зла, а ёсць толькі пачуццё абсалютнага дабра. І калі дзіця крыўдзяць, даюць яму пазнаць супярэчнасці, ён пачынае плакаць. Усякі плач дзіцяці ёсць плач па згубленым раі. Пагэтаму для мяне вось гэты хутар ёсць у нейкім сэнсе архетып раю...

Само паняцце рая, як вы ведаеце, з персідскага слова азначае: «кругом, з усіх бакоў абгароджанае месца». У прынцыпе, манастыр — у пэўным сэнсе сімвал раю на зямлі. Як фрагмент, як і архетып такога жыцця...

У гэтай царкве хрысцілі мяне і маіх бацькоў. Так што мне ўсё гэта блізка. Я помню, скажам, калі я ўпаў з печы. Мне было паўгода. А паколькі гэта эфект моцны для дзіцяці і страх страшны, ён запамінаецца. Такое вось першае запамінанне: падзенне з печы. Можа быць, цяпер у мяне развілася адна такая асаблівасць псіхалагічная: у мяне такое ўражанне, што ўсё можа ўпасці, і свет праваліцца. І калі стаіць посуд, шклянка на краі стала — так і хочацца адсунуць іх на сярэдзіну...

Памятаецца такі выпадак... Мы ў час вайны вучыліся, а там разбілі самагонны апарат. Гналі самагоначку людзі. Дзе школа, насупраць яе, ставілі самагонны апарат. Там рэчанька працякала. Прыйшоў адзін немец, два паліцыянты, разбілі гэта ўсё. Але пасля мужыкі гаварылі: а ўсё-ткі пяршак мы захавалі! Яны былі гэтым задаволены...

Наколькі ўплываюць нейкія асабістыя абставіны жыцця на філасофію? Гэта ў залежнасці ад філосафа. Скажам, на Гегеля не ўплывала, і на Канта. Яны тварылі сваю філасофію ў традыцыі. На Шапенгаўэра моцна ўплывала, Шапенгаўэр, так сказаць, — гэта філосаф жыцця. Пагэтаму счапленне з фактарамі жыцця ў яго больш моцнае. Што датычыцца мяне, то думаю, што я ўсё-такі больш у гегелеўскай традыцыі. І, натуральна, я прытрымліваюся беларускай традыцыі ў культуры...

Для таго, каб сустрэцца з Богам, мы павінны сустрэцца з чалавекам. Таму што калі сабраліся ўдвох ці ўтрох у імя Бога, значыць, з імі Бог...

З Лолай я пазнаёміўся якраз праз навуку. Яна яшчэ была студэнткай вячэрняга факультэта Маскоўскага ўніверсітэта. Удзельнічала ў нашай навуковай канферэнцыі, прысвечанай Сімяону Полацкаму. Я быў тады адзінокі, можа быць, не толькі адчуваў богапакінутасць, але і пакінутасць людзьмі. Гэтага адзіноцтва цяпер няма ў мяне. У чалавека рэлігійнага адзіноцтва не бывае. Але тады яно было. Вось, я б сказаў, што яна мяне знайшла, альбо, нават, калі гаварыць больш грубавата, падабрала. І потым у нас такая любоў і, шырэй, сяброўства засталіся на ўвесь час. І мы звычайна праводзілі свае летнія канікулы або водпускі ў Доме творчасці пісьменнікаў «Перадзелкіна». Я, на жаль, заўсёды адчуваю некаторыя цяжкасці, калі нават іду да споведзі. Таму што на споведзі трэба якраз гэтыя негатывы свайго жыцця расказаць. Бо яны не даюцца чалавеку лёгка. Для споведзі трэба адпаведны настрой. Я думаю, што ўсе гэтыя негатывы былі вынікам, наступствамі богапакінутасці...

Ёсць прычына, калі чалавек усё-ткі ідзе да Бога. Гэта пакуты, якія ён перацерпае. Алегу Бембелю прыйшлося іх на сабе адчуць, калі пачаліся ганенні бальшавіцкія на яго ў сувязі з тым, што апублікаваў у Лондане ў 1985 годзе кніжку ў абарону беларускай мовы. І гэтыя ганенні, безумоўна, распаўсюдзіліся не толькі на яго, першым аб'екце ўдару, але і на мяне як яго навуковага кіраўніка, і нават на Бабосава як дырэктара інстытута філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі...

Мы жывём у хрысціянскай цывілізацыі, аднак, хрысціянізаваць дзяржавы, і нават у значнай ступені грамадства, не ўдалося. Хрысціянізацыя аднесіцца больш да асобнага чалавека. Пагэтаму я мяркую, што можна тыпалагічна падлічыць тры царствы, або тры імперыі. Першая — тэрытарыяльная імперыя, самая працяглая ў часе. Рэшткі яе засталіся і сёння. Тэрытарыяльная імперыя імкнецца разбурыць так званыя нацыянальныя перагародкі. Разбураючы іх, разбурае і культуру нацыянальную. Пры тым метраполія разбурае не толькі культуру калоніяў, але і сваю ўласную, паколькі адбываецца распыленне насельніцтва метраполіі па ўсёй неабдымнай імперыі. Цяпер мы ўваходзім у другую імперыю, яна даўно ўмацавалася — фінансавая. Цяпер будзе правіць бал той, хто створыць мацнейшую фінансавую сістэму, прамысловы комплекс. Гэта самы кароткі час, царства фінансаў, фінансавай імперыі. Яно, па-мойму, пачынае ўжо ўступаць у стадыю крызісу. Гэты крызіс можа працягнуцца яшчэ поўстагоддзя. Потым, з майго пункту погляду, наступіць імперыя духу, царства духу, калі правіць будзе духоўная эліта, свецкая і духоўная, і царкоўная. І тады якраз адпадуць некаторыя аргументы на карысць разбурэння нацыянальных культур. Наадварот, акцэнт будзе пастаўлены на гармонію нацыянальных культур ва ўсім свеце. І кожная культура кожнага народа, і нават таго народа, які ў значнай ступені адстаў ад ходу цывілізацыі і дзесьці апынуўся ў мінулым, будзе ўяўляць вялікую цікавасць для гэтай сімфоніі сусветных культур...

Як гаворыцца ў кнізе Іова: чалавек нараджаецца на пакуты, каб, як іскры, падымацца ўверх...

**Падрыхтоўка тэксту і публікацыя Уладзіміра Мароза**

# Нітка лёсу

Беларускаму празаіку, перакладчыку, кінасцэнарысту, сябру Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесю АСТАШОНКУ 1 чэрвеня споўнілася б 60 гадоў. А ўжо дзесяць гадоў яго няма на гэтым турботным свеце...

Творца нарадзіўся ў Мінску. Скончыў перакладчыцкі факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Працаваў перакладчыкам у Алжыры (на будоўлі мэталургічнага камбіната ў пасёлку Эль-Хаджар), інспектарам дэканата па працы з замежнымі навучэнцамі, выкладчыкам французскай мовы Беларускага політэхнічнага інстытута, рэдактарам рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Упраўлення тэатраў і музычных установаў Міністэрства культуры БССР, рэдактарам у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі імя П. Броўкі, старшым рэдактарам часопіса «Крыніца».

Перакладаў пераважна з французскай і ангельскай моваў: творы Ж. Сіменона, П'ера Буля, Веркора і інш.

Ён — аўтар кніг прозы «Фарбы душы» (1989) і «Жоўты колер белага снегу» (2005, пасмяротна), п'есаў «Іскры ўначы» (пастаўленая ў 1982, апублікаваная ў 1986), «Камедыянт, ці Узнёсласць сумнай надзеі» (пастаўленая ў 1984, апублікаваная ў 1985). Аўтар сцэнароў фільмаў «Камедыянт» (1987) і «Сон» (1989).

Пра яго «П'яную кнігу, або Жоўты колер белага снегу» ў другім томе Беларускай энцыклапедыі напісана, што яна выдадзеная ў 1996 годзе. Але насамрэч яе набор, тады яшчэ ручны, быў у выдавецтве «рассыпаны». У «Мастацкай літаратуры» змянілася начальства, і Алесь Асташонак трапіў у доўгі спіс непажаданых пісьменнікаў. Ягоныя сябры пачалі жартаваць, што ён не самотны, ён карэктуру кнігі мае. Вычытаная аўтарам карэктура (згубіўшы пры гэтым першую частку назвы) была выдадзеная толькі ў 2006-м — пасля таго, як з Кіева, дзе пісьменнік апошнія гады жыў, не маючы магчымасці вярнуцца ў Беларусь (праз «бізнэс-эксперыменты» сваёй жонкі), прыйшла жалобная вестка аб ягонай смерці 7 верасня 2004 года...

У юбілейны вянок памяці «Літаратурная Беларусь» сабрала сяброўскія згадкі пра Алеся Асташонка. Сярод іх — віншавальная паштоўка да 50-годдзя пісьменніка (якая была напісана для тыднёвіка «ЛіМ», аднак на свет так і не з'явілася, прадмова Л. Галубовіча да кнігі «Жоўты колер белага снегу» і пасляслоўе да яе Л. Дранько-Майсюка (якія выдавецтва «Мастацкая літаратура» так і не асмелілася надрукаваць).

«Думаецца, гэтыя тэксты скажуць цяперашняму чытачу не менш, чым сказалі б тыя, якія мы з Леанідам Дранько-Майсюком напісалі б сёння», — слушна адзначыў, рыхтуючы гэтую публікацыю, Леанід Галубовіч.



Алесь Асташонак з Жужай у Кіеве

### Віншавальная паштоўка

*Пісьменніку Алесю Асташонку з нагоды яго пяцідзесяціфоддзя*

***«Зараз дазваляюць пісаць толькі аб рэчах прыемных для начальства, але кароткі век гэтых твораў. Можна пісаць і аб непрыемных з'явах у жыцці, але тады — вельмі кароткі век аўтара. Выбар, можна сказаць, багаты.» (Максім ТАНК, «Лісткі календара», 1939 г.)***

Дарагі мой сябра, калега па пяры, кум, у рэшце рэшт!

Віншую цябе з юбілеем, што прыпадае на пачатак чэрвеня! Нарадзіцца чалавеку на самым зачыне лета, як паўстаць перад гарачым пеклам, яшчэ не ўчуніўшы граху, хоць і гэты варыянт, напэўна ж, лепшы за халоднае лета пяцьдзясят трэцяга...

Зрэшты, галоўнае, што ты ўсё яшчэ жывы і здаровы, у адрозненне ад прататыпа галоўнага героя твайго апавяду «Пасведчанне», былога мінскага завакзальнага суседа, светла-таленавітага паэта Алеся Пісьмянкова... Ён ужо на Кальварыі. Туды адыходзіць цяпер пераважная большасць нашых людзей — бліжэй да аўтара першай нашай вершаванай кніжачкі Янкі Лучыны... І каталікі, і праваслаўныя, і уніяты, і нават няверуючыя — у адну беларускую вязанку. Каб паразумецца...

Беларушчына ж і літаратура сталі справай прыватнай: хочаш гавары, хочаш пішы — не чуюць і не чытаюць. Бо ўсе, хто гаворыць і піша, пішуць і гавораць для сябе. Народ труднуе (як піша М. Вайцяшонак) і глядзіць серыялы. Ёсць у яго «Беларусь сегодня» і «Лад», а заўтра — Бог-бацька...

«Любіць ноч — права пацукоў», «Ордэн Белай Мышы», «Літоўскі воўк» — во якая гідка-драпежная заалогія нашай сучаснай літаратуры. А між іншым, чацвёрты поруч з імі свой «Дом» збудаваў. І ці не з гэтай прычыны малодшаму з пяці заюдзела наладзіць тут сваю «Рэвізію»...

Распавядаю табе гэта, таму што ты не ведаеш нас цяперашніх. Ды і я, напэўна, застыў бы саляным слупам, абярнуўшыся неспадзеўкі на твой закардонны голас. Так далёка ты, што нават не пачуеш тваёй скрухі. Прабач. Напершапачатку можна было патэлефанаваць, дык не было чым дзяліцца, а сёння, калі столькі адчаю, — няма як выказаць...

Ды і ты адтуль па-беларуску адно толькі лісты сюды пішаш... мроіш-думаеш ды сны сніш... А ўсё астатняе па іхняму патрапіць стараешся, каб дзень свой пражыць. Але ўжо не пішаш ты дзеля сябе самога. Бо выгарэй ўсе фарбы душы тваёй. А крывёй яшчэ рана... Дзякаваць Богу.

П'яная кніга твая па ўсіх нас рассыпаная. І калі яе аднойчы збяруць-такі — кожны адчуе тваю творчую страту... Ды будзе позна.

А наконт балючай для цябе тэмы: хто вялікі, а хто малы — то яно і так відно. Тым больш, што пасля дваццаці пяці людзі ўжо не растуць. Нам жа за пяцьдзясят. А пасля пяцідзесяці не растуць нават пісьменнікі...

Таму — задаволімся тым, што маем. А чаго не маем, тое не наша. Перад намі і пасля нас — словы, словы і словы...

Віншую цябе, сябра, з нажытым юбілеем! Няхай яго коўзкі ялей адсуне ад цябе гарызонты нежыцці. А нашы калегі і мажлівыя чытачы, спадзяюся, далучацца да маіх зычанняў табе ўдачы і творчага плёну.

**ЛеГАЛ**

### Чалавек без нумара

*(прадмова да кнігі)*

Алесь Асташонак памёр праз дзесяць гадоў пасля напісання гэтай кніжкі — 7 верасня 2004 года. У старажытным, не такім далёкім, але не родным Кіеве. Гэтак сталася. Такім быў яго вырак. Так распарадзіўся Гасподзь. Дачка, якую ён любіў, адплаціла любоўю, забрала яго прах дадому — і пахавала ў калумбарыі на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

Пры жыцці ён быў аўтарам адзінай кніжкі («Фарбы душы», 1989), прадмоўку да якой напісаў жывы класік перабудовы Алесь Адамовіч. І вось нарэшце выходзіць і гэтая, другая, пакутная кніжка яго кароткага драматычнага жыцця, якая павінна была пабачыць свет яшчэ ў 1995 годзе. Але ў такі няпэўны ва ўсіх адносінах час, што на нейкім не да канца вывераным дзяржаўным зруху рассыпаўся і набор яго «П'янай кнігі» (гэтак мелася яна быць названай). А лёс ужо гнаў яе аўтара апальным шляхам... Ні ў чым па сутнасці і ні перад кім не вінаваты, раптам, ён стаў вінаватым ва ўсім і перад усімі. Адзінокі, пакінуты сярод адчужанага свету са сваёй любімай, але бязмоўнай сучкай Жужай...

Усяго не раскажаш, бо не зразумеюць. Ды ён і сам не ўсё разумеў. Інтэлектуал і франт з сярмяжнай беларускай натурай. Я любіў яго. Мы разам смяяліся і плакалі над тым, што мелі. Цяпер я смуткую адзін. Там — без Айчыны, мовы і сяброў — ён не мог вытрываць даўжэй, чым вытрываў. Магчыма нешта яшчэ ён напісаў бы, але — не... Не напісаў, бо было немагчыма.

Тое, паасобнае, не даведзенае да ладу, што не ўвайшло ў кніжку, будзе таксама чакаць свайго часу. А гэтая кніжка — помнік гадам перабудовы, чарговаму беларускаму Адраджэнню і станаўленню незалежнасці, помнік ЯМУ самому, яе аўтару. Шчыраму, цудоўнаму чалавеку, таленавітаму пісьменніку, драматургу і перакладчыку, які сканаў ад таго, што яго жаданні не супалі з магчымасцямі. У чалавечым жыцці надараюцца таямніцы і загадкі, якія так і застаюцца нераскрытымі і неразгаданымі. Жыццё і творчасць аўтара гэтай кніжкі якраз з такога выключнага шэрагу. Прачытай гэты тайнапіс, шаноўны чытач, і, мажліва, ты наблізішся да разумення ісціны. Не болей за тое, і ўсё ж... Магчыма, з яго слоў ты ўразумееш і сваю паднебную значнасць і зямную нікчэмнасць. Жыццё кароткае...

Не асуджайце асуджаных. Паспрабуйце зразумець чалавека такім, які ён быў, а калі ўдасца, то і такім, якім ён хацеў быць...

**Леанід Галубовіч**

**І каталікі, і праваслаўныя, і уніяты, і нават няверуючыя — у адну беларускую вязанку. Каб паразумецца... Беларушчына ж і літаратура сталі справай прыватнай: хочаш гавары, хочаш пішы — не чуюць і не чытаюць. Бо ўсе, хто гаворыць і піша, пішуць і гавораць для сябе. Народ труднуе (як піша М. Вайцяшонак) і глядзіць серыялы. Ёсць у яго «Беларусь сегодня» і «Лад», а заўтра — Бог-бацька...**

### Пасляслоўе

Проза Алеся Асташонка пераважна малаўсмешлівая, сумная. Яна нагадвае прыгарады лес, адстойвае першазначнасць чалавечае цеплыні і прыгажосці ўнутры ўсеагульнай нашай неўладкаванасці і адсутнасці жаданага ўтулля. Галоўныя вобразы яе навеяны занядбанасцю драўлянае гарадское ўскраіны, людзі якой увесь час чакаюць «наступу» бетонных кварталаў, спадзеючыся памяняць свае несамавітыя хаціны на добраўпарадкаваныя кватэры, і ў гэтым сваім паўсонным чаканні бавяць часам паўжыцця...

На крапіўных вулках Менска, у наваколлі Чэрвеньскага рынку, будучы празаік і драматург Алесь Асташонак дыхаў напаўчысцявым паветрам хуткаплыннага маленства і поўнага пякучых спакусаў юнацтва, пра многае рамантычна думаў, але яшчэ больш рэалістычна заўважаў, таму, вядома, яшчэ да напісання сваіх першых п'ес і апавяданняў ужо досыць выразна ўяўляў усю драматычную непаўнату шчасця, на якую асуджаны чалавек.

Агульнажыццёвае дый, бадай, агульналітаратурнае пытанне: ці шчаслівы чалавек? — у апавяданнях А. Асташонка набыло даволі пэўную тэматычную дамінанту. Пісьменнік не імкнецца знайсці якісьці адказ, мабыць, разумеючы, што адказу проста можа й не існаваць, тым больш канкрэтнага, але ён дэталёва даследуе само гэта пытанне, якое гэтак ірве душу: ці шчаслівы чалавек? — прычым пазбягае, што асабліва важна, павярхоўнага філасофствавання і аднастайнасці ў пісьме.

У цыкле апавяданняў «Пясок і попел» — зноў-такі «прыхаваная» размова аб шчасці, нейкі разгорнуты сумны эцюд без якіхсьці высноваў і адказаў. Галоўнае — у запытальна-паэтычнай інтанацыі, што суседнічае часам з жорсткімі тайнамі, — інтанацыі шчымлівага гучання. Новая проза А. Асташонка скіроўвае нашую ўвагу не ў ілюзорную будучыню, а ў рэальную мінуўшчыну, стварае вобразную гісторыю яшчэ аднаго дзяцінства, юнацтва, сталасці.

Дасведчаны чытач уловіць у гэтай запытальнай, крыху настальгічнай гісторыі водгукі бурштынавай прозы Міхася Стральцова. Што ж, усё таленавітае пазнавальнае, як пазнавальнае перастворанае шчырым словам жыццё, — у кожнага было сваё дзяцінства, дзедава хата, ці падабенства яе, і ў кожнага былі сваё дзед, ці хоць бы сямейны пра яго ўспамін.

**Леанід Дранько-Майсюк**



Карціна Аляксея Марачкіна

# Бэтмэн вяртаецца



Анатоль ІВАШЧАНКА

## Апошні верш зімы

*ад словаў стаміўся*
*ад гэтай пустой валтузні*
*ад шэрай сталіцы*
*ад бесперапыннай грызні*
*мітусні...*
*ад няшчырай гульні...*

*стаміўся ад смецця*
*заспаны заспамлены голаў*
*і голы*
*выходзіш на лютаўскі холад*
*у горад*
*дзе кожны бязрытмава б'ецца*
*ва ўласнай адчыненай клетцы*
*да смерці*

*адно застаецца*
*сэрцу даверыцца*

## Па-над

*і толькі лянівы*
*шчэ не зрыфмаваў: какаін — гераін*
*і толькі лянівы шчэ не лекаваў сябе тым,*
*што застаўся адзін*
*і самы маўклівы*
*насамрэч найболей шчаслівы*
*і толькі праўдзівы*
*у стане знайсці ў сабе дзіва*
*упарты, нібыта Сідхартха*
*празрысты, нібы Дхаммапада*
*увішны, бы Вішну ў байцы*
*Каўраваў з нашчадкамі Панду*
*у стане не па-за*
*а па-над*

***

*Гарант*
*захацеў вучыць грамату —*
*пабудаваў дыямант.*
*Кінуць*
*у дыямант гранату б,*
*толькі хто б даў*
*пад гэтае грант?*

***

***Усеваладу Сцебураку,***
***з нагоды выхаду кнігі***
***«Бег па самаадчуванні»***

*Няхай наўкол суцэльны POST і LAST,*
*не пераймайся дужа, дружа.*
*Хай будзе так, не склеім ласт,*
*пакуль ёсць рыфмы*
*ў нашых паэтычных ружжах.*

## Бэтмэн вяртаецца

*Голаў працуе хутчэй, прапарцыйна*
*павелічэнню голаду.*
*Хуткасць сто сорак. За бортам зоры.*
*Колькі шчэ трэкаў да гораду?*
*Колькі шчэ трэкаў, — пытаецца слых, —*
*ліпава-рэпавых, новых і злых?..*

*Лісце з бязвыйсця пад колы кідаецца*
*клёны з праклёнамі ў шыбу ўзасмок.*
*Шчоўкае горад сталёвымі сківіцамі,*
*фары ўгрызаюцца ў чэзлы паўзмрок.*

*Бэтмэн вяртаецца з рэйду пад раніцу*
*ў свой запляваны цёмны пад'езд.*
*Слізгае ў фортку дзеўчына-котка,*
*зрэшты, цяпер крыху не да яе.*

*Ўсё у парадку. Айфон — на зарадку.*
*Піва ў лядоўню, крылы ў кут.*
*Выхапіць поўня надпіс няроўны*
*маркерам чорным:*
*«LU.. НА МУКУ».*

*Бэтмэн кладзецца ў ложак астылы*
*з веданнем пэўным: хутка гамон*
*прыйдзе ржыму, й ні Джокер з Пінгвінам*
*не ўратуюць, ні НКУС, ні АМОН.*

*Спіце ж спакойна й вы, гараджане.*
*Волі світанне не за гарой.*
*Цемра растане. Паспі й ты, кажане.*
*Хутка на працу,*
*супергерой.*

## Белая багіня

*строфы выкрочваюцца нагамі*
*словы закручваюцца ў арыгамі*
*новы хаўрус са старымі багамі*
*белая гіне багіня*
*пад намі*
*багна,*
*засцеленая ведзьмакамі*
*выспа,*
*заспамленая слімакамі*
*марная марнасць*
*мары пра мора*
*хіба гэта хіба*
*га?*

## ...

*закаркаваныя*
*ў ранішніх трафіках*
*замардаваныя*
*працоўнымі графікамі*
*раней мы пісалі нарысы*
*цяперака — зводзім каштарысы*
*раней мы пісалі вершы*
*раней мы хадзілі пешшу...*
*паголеныя пачуцці*
*агаленыя праўды*
*хоць слоўца хачу пачуць ці*
*паўслоўца хоць —*
*праўды*

## Сын

*сунуць у фортку нос*
*нюхаць подых вясны*
*ведаць: за сценкай спіць*
*сын*

*добрае слова: сын*
*ў сына растуць валасы*
*ведаць: цяпер глядзіць*
*сны*

*сын гэта я сам*
*ў сына забіты нос*
*бачыць за сценкай сын*
*сон*

*нюхаць подых вясны*
*ведаць: за сценкай сон*
*ведаць: забіты нос*
*лёс*

## Чорная сутра

*той хто змог убачыць сябе па-за сабой*
*наўрад ці павядзецца на танныя коміксы*
*пра планету як вязніцу*
*і канвой з анёла-ахоўніка за спінай*

*той хто меў патрыманую «бэху»*
*ужо не перасядзе нават у новую «жыгу»*
*вытворчасці тальяцінскага аўтазавода*

*той хто кахаў каралеўну*
*ніколі не будзе жыць у законным шлюбе*
*з надзіманай гумовай лялькай*

## Былы-лепшы-сябар

*я не ведаю калі страціў яго*
*але напэўна раней за тое*
*тэлефоннае тлумачэнне*
*калі мы абодва так шмат*
*даведаліся пра сябе...*
*мне цікавы й дасюль не зразумелы*
*механізм нашага разрыву*
*як не да канца зразумелыя*
*яго сапраўдныя прычыны*

*нейкі час я ўпарта спрабаваў*
*высветліць тое*
*але ён паставіў на мяне бан*
*унёс ва ўсе чорныя спісы*
*змяніў сімку мэйлы*
*(а мо й горад ці планету?)*

*першы час бывала*
*я мог па некалькі разоў на дзень*
*бачыць яго на вуліцы*
*(і не дзіва бо мы ж жывем у суседніх*
*дамах*
*што калісьці было зроблена адмыслова*
*дзеля зручнасці сустрэчаў ля нейтраль-*
*нага пад'езда*
*дзе пад піва вырашаліся лёсы чала-*
*вецтва...)*

*аднойчы нават*
*ён прайшоў зусім блізка*
*але не ўзняў вачэй —*
*ці тое сапраўды не заўважыў*
*ці тое...*
*а так напраўду*
*што б я сказаў яму?*
*«Здароў, былы-лепшы-сябар»?..*

*пасля ён знік*
*і мяне мала займае*
*што з ім*
*і дзе ён цяпер*
*разам са сваім*
*дэпрэсіўна-маніякальным псіхозам*
*паўтаруся*
*мне цікавы сам механізм...*

*цяпер я шпацырую*
*з нашым старым вазком*
*але новым дзіцёнкам у ім*
*вык[д]рочваю гэтыя радкі*
*і бачу*
*як ён пралятае на роварах*
*міма мяне*
*(дарэчы не факт*
*што ён ізноў мяне заўважыў*
*бо і ў гады сяброўства*
*ён мог гэтак праляцець міма*
*і не заўважыць)*

*я азіраюся*
*я праводжу яго позіркам*
*і дасылаю яму ў спіну*
*даўно прыгатаваную*
*вынашаную*
*і ўжо цалкам спакойную*
*кропку.*

## Яна варыць суп

*Кідаем бульбу ў рондаль —*
*буль! —*
*булькае бульба ўсё роўна,*
*быццам маленькая бомба.*
*Кіпень бурчыць і вуркоча,*
*вымкнуць з-пад накрыўкі хоча.*

*Зробім паменей агеньчык —*
*чык! —*
*солькі крыху дададзім.*
*Роўненька столькі*
*кінема солькі,*
*каб было досыць усім.*

*Мама, дачысці цыбульку!*
*Вочкі баляць у дачулькі.*
*Хуценька, мама, інакш*
*вочка ў дачулькі заплача!*

*Дзякуй, матуля! Цяпер жа*
*дробна цыбульку парэжам,*
*сальцам патэльню змажам.*
*Будзем цыбулечку смажыць!*

*Кінем у рондаль цыбульку —*
*булькне не горай за бульбу.*
*Ўсыпем грыбкоў, зеляніну...*
*Супчык мяшае Яніна.*

*Хай пракіпіцца крыху.*
*Скажам у бок цыху-цыху-цыху,*
*выключым, хай настаіцца.*
*Праўда ж, мы — чараўніцы?!.*

# Мікалай Ігнатавіч



Анатоль САНАЦЕНКА

**Павольна наладжваецца фокус памяці, павольна рухаюцца лінзы ўспамінаў у пошуках патрэбнай кропкі. Вось знайшлі, спыніліся — і адраджаецца мінулае, павялічваюцца, растуць дэталі. Цяпер можна казаць...**

Мікалай Ігнатавіч быў захавальнікам выставачнай залы. Пазнаёміліся мы з ім так: я на ўсялякі выпадак — рэпарцёрская прадбачлівасць — перапісваў у нататнік імёны мастакоў, чые працы былі на выставе, ён прывідна з'явіўся перада мной на некалькі імгненняў і ласкавым, прыязным тонам прапанаваў сваю дапамогу.

«Звяртайцеся, калі вам што-небудзь трэба, пытайцеся», — ціха сказаў Мікалай Ігнатавіч і, дачакаўшыся майго адказу: «Дзякую. Пакуль я толькі знаёмлюся», — гэтак жа прывідна, ціха пайшоў. (Гэтак жа прывідна і ціха, як і ў той восенькі дзень, які паклаў канец яго зямному існаванню.)

Пасада захавальніка выставачнай залы як нельга лепш падыходзіла да яго аблічча, характару, ладу жыцця. Вось недакладны партрэт Мікалая Ігнатавіча, намаляваны акварэллю памяці: сярэдні рост, густыя цёмныя валасы, такія ж бровы, славянскія, мяккія рысы твару. Рухі яго былі павольныя і асэнсаваныя; ён меў выдатную «дарэвалюцыйную» выправу. Насіў звычайны касцюм-«тройку», але, пры поглядзе на яго, чамусьці ўвесь час здавалася, што на ім строгі смокінг.

Размаўляў Мікалай Ігнатавіч на бездакорнай мове. Праўда, некалькі старамодлай. Яго гаворку расквечвалі афарызмы, і, памятаю, як мне было прыемна яе слухаць — вобразную, прыгожа пабудаваную, павольную, — асабліва ў час чарговага майго душэўнага землятрусу, балаў гэтак шэсць паводле Рыхтэра.

Апавядальнік ён быў насамрэч цудоўны. А з яго жыццёвым і культурным вопытам (служыў афіцэрам, кіраваў гарнізонным Домам культуры, шмат падарожнічаў...) яму было пра што распавесці. Мог, напрыклад, вельмі дарэчы, успомніць які-небудзь «выпадак з жыцця», прачытаць яркую лекцыю пра творчасць таго ці іншага мастака, які выстаўляўся ў зале, распавесці гісторыю стварэння палотнаў; умеў прасачыць звілісты ход якой-небудзь ідэі або тэмы, асвятляючы факелам свайго інтэлекту самыя аддаленыя куткі падсвядомасці мастака.

Шануючы яго разуменне, жывапісцы ставіліся да яго з вялікай любоўю і павагай, шмат дарылі яму сваіх палотнаў, казалі: «выставіцца ў Ігнатавіча, галерэя Ігнатавіча...»

Дарэчы, дырэктарам залы была яго адзіная дачка Наталля, Наталі, а яе малодшай сяброўкай — мастачка Вольга.

Такім чынам, Мікалай Ігнатавіч мімаволі стаў пасярэднікам лёсу, што звёў мяне праз некаторы час з Оляй. А паколькі ў лёс я веру, то лічу гэта не выпадковым плёнам хаосу, а абдуманай, асэнсаванай падзеяй... Мабыць, пра той перыяд варта распавесці падрабязней...

Гэта быў самы цяжкі ў маім жыцці час. Я знаходзіўся ў хісткім, пакутлівым стане пераходу ад падлетка да маладога мужчыны, прычым вызначана затрымаўся ў малалецтве, у сваю чаргу зусім завязнуў у праклятых пытаннях быцця, якія да таго часу і сам праклаў. Штосекундная рэфлексія, якая стала шостым, самым няправільным маім пачуццём, зусім загнала маю душу, змучыла розум, зрабіла мяне занадта асцярожным, занадта ранімым.

Свет праходзіў скрозь мяне. Я стараўся радзей сутыкацца з рэчаіснасцю і людзьмі, што жылі ў ёй.

Я закрываўся ў сваім пакоі, які, на шчасце, у мяне быў, і заміраў у здранцвенні.

Мае бедныя добрыя бацькі глядзелі на ўсё, што адбывалася са мной, спалоханымі вачыма, але мудра не ўмешваліся.

Гэта сапраўды было разумна з іх боку, паколькі па той дарозе, на якой я апынуўся, мне трэба было прайсці самому, у поўнай адзіноце.

І толькі прайшоўшы яе, я быў бы выратаваны, супакоены на ўсё наступнае жыццё.

Больш за ўсё, вядома, маіх бацькоў палохалі тыя развілкі, што непазбежна сустракаюцца на любым (фізічным або метафізічным) шляху. Трывожыліся яны нездарма: сустрэтыя мной павароты, якія спачатку маглі здацца абходнымі, лёгкімі дарожкамі, на самай справе вялі, у лепшым выпадку, у вар'яцтва, у горшым — у самагубства. На шчасце, я своечасова гэта адчуў, у чым мне дапамагла не зусім яшчэ задушаная рэфлексіяй інтуіцыя, якая пазней, калі я заняўся журналісцкай працай, стала маім галоўным прафесійным інструментам.

У пошуках апорнага пункта для свайго духу, для створанай мною сістэмы каштоўнасцяў, я разабраў свет да каркаса, унутрана скаланаючыся ад тых знаходак, што былі зробленыя мной у выніку такой вось духоўнай археалогіі. Да дзевятнаццаці гадоў (да часу сустрэчы з Оляй) я ўяўляў сабой даволі жахлівае відовішча: закутае ў браню комплексаў і фобій істота з трывожнымі вачыма самазабойцы, якая баіцца кожнага новага дня.

Але Оля змагла стаць той шуканай кропкай у маёй сістэме каардынатаў, дзякуючы якой свет зноў з цягам часу здабыў сэнс і значэнне. Калі мы сышліся з ёю, гэта зрынула ў жах маіх добрых бацькоў, якія бачылі мой лёс зусім іншым, зусім іншым. Яны лічылі Олю эксцэнтрычнай, дрэнна выхаванай



асобай, уплыву якой, маўляў, паддаўся іх хлопчык.

Яны, вядома, мелі рацыю, мае бедныя бацькі: Оля сапраўды была хуліганкай. Але менавіта гэта мне ў ёй і падабалася. Дзіця свайго часу, яна ўвабрала ў сябе ўсё — пачынаючы ад моднай эмансіпацыі да гэтак жа модных адносінаў да кахання, як — аднаго з відаў спорту, карыснага для здароўя.

Гэтак жа легкадумна яна ставілася да алкаголю і цыгарэт, апынуўшыся прама-ткі вундэркіндам у засваенні «імпартнага», як казалі мае бацькі, ладу жыцця.

Мне ж, непітушчаму маралісту ў дзясятым калене, зусім абыякаваму да ўсяго дымна-тытунёвага (акрамя не зусім зразумелай для мяне самога апрыёрнай павагі да гаванскіх цыгар), — мне, зразумела, спачатку ўсё гэта было дзіка.

Але нездарма ж кажуць, што супрацьлегласці сыходзяцца. Відаць, гэтым і тлумачацца нашыя, незразумелыя для іншых, адносіны. Менавіта Оля зняла чары майго ўзросту, вызваліла з штосекунднай турмы майго ўнутранага чалавека. Гэта яна пазбавіла мяне ад страху перад полавым пытаннем (прывітанне венскай школе псіхааналізу), калі аднойчы ўвечары ад жартаўлівай бойкі за яблык мы перайшлі да ўзаемнага распранання.

Так паўтарылася біблейская гісторыя...

Калі ж я абвясціў маім любым бацькам, якія так за мяне непакоіліся, аб рашэнні стварыць сям'ю, і не з кім-небудзь, а з Оляй, яны дружна пацягнуліся па валідол.

Катэгарычнае «не!» бацькі спрыялі яшчэ большаму збліжэнню з Мікалаем Ігнатавічам.

Даведаўшыся ў прыватнай гутарцы са мной, што нам з Оляй тэрмінова трэба знайсці якое-небудзь жыллё, ён адразу прапанаваў сваю дапамогу (у выглядзе кватэры, якая засталася яму ў спадчыну ад памерлай сваячкі). Прычым кватэра была прапанавана нам у бясплатнае карыстанне — з умовай аплаты толькі камунальных паслуг. Мы з Оляй тады перабіваліся выпадковымі заробкамі, і толькі такія ўмовы і былі нам прыдатнымі.

Але на гэтым дабрачыннасць Мікалая Ігнатавіча не скончылася: ён знайшоў для Олі выгадныя заказы на афармленне офісных інтэр'ераў тагачаснага фінансавага панства, а мне — пастаянную журналісцкую працу (па дамове з адной з буйных газет з добрым фінансавым самаадчуваннем).

Цяпер цалкам зразумела, што Мікалай Ігнатавіч быў нашым добрым анёлам-ратавальнікам. Оля — таемна, за вочы — нават намалявала яго партрэт, на якім так яго і адлюстравала: шасціскрылы Серафім з пячаткай веды, або — мудрасці, на чале.

На маю думку, яна была недалёка ад ісціны. Мне і самому часам здавалася, што ён знаходзіцца паміж намі, людзьмі, з таемнай місіяй дабра і гармоніі, умела хаваючы ў тагасветным сваё цудоўныя палявыя крылы і залацісты німб. Уяўлялася таксама, што яго сям'я — ціхая, маўклівая жонка і не пазбаўленая мастацкага дару дачка — своеасаблівае прыкрыццё, так бы мовіць, кампраміс з зямным жыццём.

Мы з Оляй цягнуліся да Мікалая Ігнатавіча ўсёй душой, — ён ураўнаважваў наша бурнае быццё сваім спакоем і жыццёвай мудрасцю. Я часта забягаў да яго «на каву» — падзяліцца навінамі, адвесці душу або проста пагутарыць «ні пра што». Ён забяспечваў мяне кнігамі з сваёй з густам падабранай бібліятэкі, чым вельмі дапамагаў мне ў журналісцкай працы. Нярэдка, у цёплы час года, мы ўсе разам выязджалі на прыроду — у сасновы лес, дзе асабліва лёгка дыхаецца, або да рэчкі, на які-небудзь маляўнічы бераг. І гэтыя нашыя ўцёкі з урбаністычнай цывілізацыі дарылі відавочнае задавальненне Мікалаю Ігнатавічу — вялікаму аматару прыроды.

Па цэльнасці сваёй натуры ён, безумоўна, быў чалавекам не гэтага стагоддзя. Такой цэльнасці цяпер ужо не сустрэнеш. З ім было вельмі ўтульна і спакойна. Душэўны, мяккі тон гутаркі Мікалая Ігнатавіча аказвалі на яго слухачоў-суразмоўцаў сапраўды гаючае ўздзеянне — не горш мэтанакіраванай псіхатэрапіі. Да яго звярталіся па дапамогу і параду, нібы да свецкага святара. І ён дапамагаў, усім дапамагаў, чым мог.

Менавіта да яго і пайшоў я ў душэўнай тузе, калі ў нас з Оляй здарылася буйная, але дробязная па сваёй прычыне сварка — і Оля, сабраўшы рэчы, пайшла да сябе. Мы абодва былі вельмі маладыя, ганарлівыя, амбіцыйныя і наўмысна не тэлефанавалі адзін аднаму каля двух тыдняў, хоць, па меншай меры, мне вельмі хацелася гэта зрабіць.

Мікалай Ігнатавіч з'ездзіў да Олі, пагутарыў з ёй — і пamірыў нас. Ці былі ў яго нейкія недахопы? — задумваюся я цяпер. Прыгадваецца толькі яго нелюбоў да газет і тэлебачання; бясплатны пропуск у выставачную залу сваіх шматлікіх сяброў і знаёмых, а таксама — дзецей, якія зазірнулі да яго з-за цікаўнасці...

Так прайшлі два гады. Што я яшчэ памятаю? Памятаю выдатныя літаратурна-музычныя вечары, якія ён ладзіў у сваім зале. Таксама — усе гэтыя размовы пра літаратурныя навінкі, якіх тады было вельмі шмат, пра філасофію, пра жыццё — наогул...

А як ён спяваў рамансы Грыга і Рахманінава! Пад акампанемент піяністкі — нашай агульнай знаёмай, настаўніцы музыкі, — яго глыбокі, аксамітны барытон расплываўся па ўсіх пакоях выставачнай залы, напаўняў сабой усю прастору, усю душу...

Памёр ён гэтак жа, як і жыў — лёгка і спакойна.

На пачатку верасня стаяла цёплае надвор'е, і мы адважыліся на яшчэ адну, як затым аказалася, апошнюю, паездку ў лес.

Нябёсы былі чыстыя і блакітныя па-вясноваму. Мы зачараваныя гаманілі, радаваліся такому дню і магчымасці пагутарыць адзін з адным. Мікалай Ігнатавіч усё жартаваў са сваёй дачкі — з яе недарэчнага ў лесе макіяжа і высокіх абцасаў.

«Ты, радасць мая, нібы на баль восені сабралася», — казаў ён і весела падміргваў нам з Оляй. Калі мы, нарэшце, дабраліся да нашага ўлюбёнага месца — ціхай, утульнай паляны ў сасновым бары, — ён раптам аддаўся меланхоліі і неўзабаве кудысьці знік.

Праз некаторы час мы спахапіліся, весела, гулліва закрычалі трыма маладымі галасамі на ўвесь лес: «Мікалай Ігнатавіч, дзе вы?» — ніхто не адгукнуўся.

Затым убачылі: ляжыць на краі паляны, спіной да нас... Думаючы, што гэта нейкі розыгрыш, мы, ціхенька хіхікаючы, прыкладваючы палец да вуснаў і жартаўліва пагражаючы адзін аднаму кулакамі, падкраліся да яго. Калі пасля іранічных слоў ды заклікаў мы нарэшце занепакоіліся, кранулі яго за плячо, — лёгка перавярнуўшыся на спіну, ён у апошні раз зірнуў на нас застылымі вачыма...

Пасля яго смерці свет нядоўга ўтрымліваўся ў сваёй ранейшай раўнавазе. Неўзабаве ён зноў рушыў на мяне — усім сваім невыносным цяжарам.

Нашы адносіны з Оляй неяк самі сабой сапсаваліся, і мы разышліся — ужо назаўсёды. І хоць потым у нашым жыцці адбываліся і станоўчыя метамарфозы: яна, напрыклад, удала выйшла замуж за камерцыйнага дзялка, я зрабіў журналісцкую кар'еру, — усё гэта ўжо было нязначным і не мела ніякага дачынення да душы.

Важным было іншае: неба больш нікога да нас не прыставіла; я зноў пагрузіўся ў метафізічную, непазбыўную, невыносную адзіноту.

# Пяць шчаслівых аблокаў



Роберт
ВАН ГУЛІК

**Гэтая гісторыя адбываецца ў 663 г.н.э., калі суддзя Дзі толькі тыдзень праслужыў на сваёй першай незалежнай пасадзе — судзе ў Пэнлаі, аддаленай акрузе на паўночнай ускраіне Кітайскай імперыі. Адразу пасля прыбыцця на месца ён сутыкнуўся з трыма загадкавымі злачынствамі, апісанымі ў аповесці «Суддзя Дзі і золата Будды», дзе згадваецца пра росквіт суднабудаўнічай галіны ў Пэнлаі і пра пана І Пэна, багатага суднаўласніка. Апавяданне «Пяць шчаслівых аблокаў» пачынаецца ў кабінеце суддзі Дзі, дзе чыноўнік разам з І Пэнам і іншымі толькі што скончыў доўгія спрэчкі вакол прапановы ўсталяваць над суднабудаўніцтвам дзяржаўны кантроль.**

— Што ж, панове, — з задаволенай усмешкай сказаў тром сваім гасцям суддзя Дзі, — думаю, пытанне вырашанае.

Абмеркаванне пачалося ў яго кабінеце каля другой, а цяпер закончылася пятая. Суддзя тым не менш думаў, што час прайшоў не дарэмна.

— Накіданыя намі правілы ахопліваюць, здаецца, усе магчымыя абставіны, — выразным голасам зазначыў пан Хо. Гэты сціпла апрануты мужчына сярэдніх гадоў быў сакратарам міністра юстыцыі ў адстаўцы. Зірнуўшы на Хуа Міня, багатага суднаўладальніка, які сядзеў ад яго справа, ён дадаў: — Пане Хуа, вы згодныя, што наш праект дазваляе справядліва ўлагодзіць усе непаразуменні паміж вамі і прысутным тут вашым таварышам панам І Пэнам?

Хуа Мінь скрывіўся.

— Справядлівасць — добрае слова, — суха сказаў ён, — але як гандляр я аддаю перавагу слову «выгада»! Калі б мне далі магчымасць свабодна канкураваць з маім сябрам панам І, вынік справядлівым вы б, можа, і не назвалі, не... Але ён мог бы зрабіцца надзвычай выгадным — для мяне!

— Ад будаўніцтва суднаў залежыць нашая берагавая абарона, — строга сказаў суддзя Дзі, — а таму ўлады нашае Імперыі манаполіі тут не дазволяць. Мы ўвесь дзень прасядзелі над гэтай праблемай і дзякуючы каштоўным парадам пана Хо выпрацавалі ўрэшце гэты дакумент, дакладна вызначыўшы ў ім правілы, якімі мусяць кіравацца суднаўладальнікі. Цяпер я чакаю, што вы абодва будзеце іх прытрымлівацца.

Пан І Пэн марудна кіўнуў. Суддзю падабаўся гэты кемны, але шчыры дзялок. Да пана Хуа ён ставіўся горш, бо ведаў, што той не цураецца сумнеўных здзелак і часта трапляе ў непрыемныя гісторыі з жанчынамі. Суддзя Дзі падаў службоўцу знак напоўніць кубкі гарбатай і адкінуўся ў крэсле. Дзень быў гарачы, але цяпер з мора падзьмуў прахалодны брыз, які прынёс у маленькі пакой водар расквітнелай пад акном магноліі.

Пан І паставіў кубак і запытальным поглядам абвёў Хо і Хуа Міня. Самы час разыходзіцца.

Раптам дзверы адчыніліся і ўвайшоў радца Хун, даўняя давераная асоба суддзі Дзі. Ён наблізіўся да стала і сказаў:

— Пана суддзю чакаюць з тэрміновай навіной.

Суддзя Дзі злавіў яго погляд.

— Прашу мне на хвілінку прабачыць, — сказаў ён тром гасцям і разам з радцам пакінуў пакой.

Калі яны апынуліся ў калідоры, Хун ціхім голасам сказаў:

— Прыйшоў аканом пана Хо, каб паведаміць гаспадару, што пані Хо здзейсніла самагубства.

— Усёмагутныя нябёсы! — усклікнуў суддзя. — Скажы, хай пачакае. Будзе лепш, калі я сам перадам пану Хо гэтую кепскую навіну. Як яна гэта зрабіла?

— Павесілася, пане суддзя. У садовай альтанцы, падчас паабедзеннага адпачынку. Аканом адразу ж прыбег сюды.

— Якая бяда для пана Хо! Ён мне падабаецца. Трохі сухаваты, але вельмі добрасумленны. І таленавіты законнік.

Ён сумна пахітаў галавой і вярнуўся ў кабінет. Сеўшы за свой стол, ён з журбой у голасе звярнуўся да Хо:

— Прыйшоў ваш аканом, пане Хо. Ён прынёс жахлівую навіну пра пані Хо.

Хо схапіўся за ручкі крэсла:

— Пра маю жонку?

— Відаць, яна скончыла жыццё самагубствам, пане Хо.

Пан Хо напалову падняўся, але потым зноў зваліўся ў крэсла. Бясколерным голасам ён сказаў:

— Вось мае страхі і спраўдзіліся... Апошнія тыдні яна... яна была вельмі прыгнечаная, — ён правёў рукамі па вачах і спытаў: — Як... як гэта адбылося, пане суддзя?..

— Ваш аканом паведаміў, што яна павесілася. Ён чакае ўнізе, каб забраць вас дадому, пане Хо. Я адпраўлю разам з вамі судовага лекара выпісаць пасведчанне пра смерць. Вы, канечне ж, хочаце як мага хутчэй разабрацца з фармальнасцямі...

Здавалася, што пан Хо яго нават не чуе.

— Памерла! — мармытаў ён. — Усяго праз некалькі гадзінаў, як я сышоў! Што мне рабіць?

— Безумоўна, мы дапаможам вам, пане Хо, — паспрабаваў падтрымаць яго Хуа Мінь і дадаў некалькі спачувальных словаў, да якіх далучыўся І Пэн. Але здавалася, што Хо іх нават не чуе. З перакрыўленым тварам ён углядаўся ў пустату. Раптам ён паглядзеў на суддзю і пасля нядоўгага вагання сказаў:

— Пане суддзя, мне трэба трохі часу... Я не хачу злоўжываць дабрынёй пана, але... Ці можа хтосьці выканаць фармальнасці ад майго імя? Тады я вярнуся дадому пасля... пасля ўскрыцця, калі мёртвае цела ўжо...

Голас Хо абарваўся, і законнік з мальбой у вачах зірнуў на суддзю.

— Канечне, пане Хо! — імгненна адазваўся суддзя Дзі. — Вы застаняцеся тут і выпіце яшчэ кубак гарбаты. Я сам адпраўлюся з судовым лекарам у ваш дом і загадаю падрыхтаваць часовую труну. Гэта найменшае, што я магу для вас зрабіць. Вы ніколі не адмаўлялі мне ў сваёй каштоўнай парадзе і прысвяцілі сёння ўвесь час паабедзеннага адпачынку справам нашага суду. Не, пане Хо, я настойваю! Вы ж, панове, прыглядзьце за нашым сябрам. Я вярнуся праз паўгадзінкі ці каля таго.

На двары ўжо чакаў радца Хун. Побач з ім стаяў поўны чалавечак з казлінай барodkай, якога Хун прадставіў як аканома пана Хо.

— Я ўсё ўжо паведаміў пану Хо, — звярнуўся да аканома суддзя. — А цяпер вяртайся дадому. Хутка я далучуся.

Потым суддзя павярнуўся да радцы Хуна:

— Табе лепш вярнуцца ў суд, Хун, і разабрацца з паперамі, якія прыйшлі. Потым мы яшчэ раз прагледзім іх разам. Дзе мае памочнікі?

— Ма Чжун і Цяо Тай, пане, муштруюць на галоўным двары вартаўнікоў.

— Добра. У дом пана Хо я вазьму з сабой толькі начальніка варты і двух яго людзей. Яны пакладуць мёртвае цела ў труну. Калі Ма Чжун і Цяо Тай скончаць з муштроўкай, то могуць ісці адпачываць — вечарам яны мне не спатрэбяцца. Давай сюды лекара і загадай падрыхтаваць судовы паланкін!

Тоўсты аканом чакаў суддзю ў маленькім дворыку перад сціплым домам пана Хо. Ля вартоўні тапталіся дзве служанкі з пачырванелымі вачыма. Начальнік варты дапамог суддзю Дзі выйсці з паланкіна. Суддзя загадаў яму застацца з двума вартаўнікамі ў двары і потым папрасіў аканома адвесці іх з лекарам у альтанку.

Адкрытай галерэяй, якая атачала ўвесь дом, таўсцяк вывеў іх у велізарны сад, вакол якога ўзвышаліся высокія муры. Прайшоўшы дагледжанай сцяжынкай, што вілася сярод расквечаных кустоў, яны апынуліся ў самай зацішнай частцы сада, дзе ў цяню двух высокіх дубоў стаяла васьмікутная альтанка, пабудаваная на круглай цаглянай аснове. Выкладзены зялёнай дахоўкай спічасты дах заканчваўся пазалочанай сферай, а калоны і мудрагелістыя кра́ты на вокнах былі пакрытыя ярка-чырвоным лакам. Суддзя падняўся па чатырох мармуровых прыступках і расчыніў дзверы.

У маленькім, але высокім пакойчыку было горача, і ў застаялым паветры вісеў рэзкі дзіўны водар. Вочы суддзі Дзі адразу ж спыніліся на бамбукавай канапцы, якая стаяла ля правай сцяны. На канапцы ляжала нерухомая жаночая фігура. Яе твар быў павернуты да сцяны, і суддзя бачыў толькі густыя пасмы бліскучых валасоў, што рассыпаліся па мёртвых плячах. Жанчына была апранутая ў летняе ўбранне з белага ядвабу, на маленькіх ножках — белыя атласныя пантофлікі. Паварочваючыся да судовага лекара, суддзя сказаў:

— Што ж, бярыся за справу і агледзь цела, пакуль я падрыхтую пасведчанне пра смерць. Аканом, адчыні вокны, тут надта душна.

Чыноўнік дастаў з рукава афіцыйны бланк, паклаў яго на стале ля дзвярэй і потым лянотна агледзеў пакой. У цэнтры разнога стала, зробленага з ружовага дрэва, стаяў гарбатны паднос і два кубачкі. Вялікі гарбатнік перавярнуўся і ляжаў у пляскатай латуннай скрынцы. Побач з ім ляжала чырвоная аксамітная вяроўка. Ля стала мясціліся два крэслы з высокімі спінкамі. Апроч дзвюх бамбукавых паліцаў з кнігамі і некалькімі прыгожымі дробязямі мэблі ў пакоі больш не было. Верхнюю частку сцен аў пакрывалі драўляныя дошкі з вершамі знакамітых паэтаў. Усё ў ціхім пакоі сведчыла пра вытанчаны густ.

Калі аканом расчыніў апошняе акно, ён падышоў да суддзі і паказаў на тоўстыя, пафарбаваныя чырвоным лакам бэлькі, якія перасякалі купалападобную столь. На цэнтральнай бэльцы вісеў абрывак чырвонай вяроўкі.

— Калі мы са служанкай увайшлі, пане, яна вісела тут.

Суддзя Дзі кіўнуў.

— Сёння раніцай пані Хо была расстроеная?

— Не, пане, падчас абеду настрой у яе быў цудоўны. Аднак калі да гаспадара зазірнуў пан Хуа Мінь, яна...

— Ты сказаў: Хуа Мінь? Навошта ён сюды прыходзіў? Сёння ў два ён мусіў сустрэцца з панам Хо ў маім кабінеце!

Аканом збянтэжыўся. Трохі павагаўшыся, ён адказаў:

— Калі ў гасцёўні я падаваў двум панам гарбату, я не мог не пачуць урывак з іх размовы. Як я зразумеў, пан Хуа хацеў, каб мой гаспадар даў сёння пану суддзю выгадную для яго параду. Ён нават прапанаваў гаспадару прыстойную э-э-э... узнагароду. Безумоўна, мой гаспадар абурана адмовіўся...

Тут да суддзі падышоў лекар:

— Я хацеў бы паказаць пану нешта вельмі дзіўнае!

Адчуўшы ў голасе лекара трывожную інтанацыю, суддзя коратка загадаў аканому:

— Прывядзі сюды служанку пані Хо!

Пасля ён падышоў да канапы. Лекар павярнуў твар мёртвай жанчыны: нягледзячы на жахлівую агонію, якая сказіла яе твар, было бачна, што пані Хо была прыгажуняй. Суддзя даў ёй каля трыццаці гадоў. Судовы лекар адкінуў убок яе валасы і паказаў чыноўніку на левай скроні вялізны сіняк.

— Гэта першае, што мяне турбуе, пане суддзя, — ціха сказаў ён. — І другое — жанчына памерла ад удушэння, але ніводзін з шыйных пазванкоў не ссунуўся. Я памераў даўжыню вяроўкі, што звісае з бэлькі, пятлі, якая ляжыць на стале, і рост самой памерлай. Лёгка зразумець, як яна гэта зрабіла. Яна стала на гэтае крэсла, з яго — на стол. Потым перакінула праз бэльку вяроўку, зрабіла зашмаргу і замацавала сваю прыладу смерці. Потым завязала на другім канцы вяроўкі пятлю, надзела яе на шыю і скочыла са стала, перавярнуўшы гарбатнік. Калі яна павісла, ступакі апынуліся ўсяго ў некалькіх цалях ад падлогі. Пятля марудна душыла жанчыну, але шыя не зламалася. І вось я дзіўлюся, чаму яна не паставіла на стол другое крэсла, каб скочыць з большай вышыні. У такім выпадку яна зламала б шыю і памерла б імгненна. Калі дадаць сюды сіняк на скроні...

Не скончыўшы сказ, лекар шматзначна зірнуў на суддзю.

— Маеш рацыю, — пагадзіўся суддзя Дзі.

Ён узяў са стала бланк і паклаў яго назад у рукаў. Адны нябёсы ведаюць, калі ён зможа падпісаць гэтае пасведчанне пра смерць! Чыноўнік уздыхнуў і спытаў:

— Што наконт часу смерці?

— Цяжка сказаць, пане суддзя. Цела ўсё яшчэ цёплае і канцавіны не пачалі дранцвець. Але ў такой гарачыні ды ў зачыненым пакоі...

Суддзя безуважліва кіўнуў. Ён глядзеў на латунную скрыню, зробленую ў форме пяцівугольніка з закругленымі вугламі, дыяметрам трохі большым за адзін чы і ў адну цалю вышынёй. Латуннае вечка прарэзваў узор, які ўяўляў сабой пяць звязаных паміж сабой спіраляў. Праз яго было добра бачна, што скрыня да верху запоўненая нейкім карычневым парашком.

Лекар таксама зірнуў на скрыню.

— Гэта гадзіннік-курыльніца, — зазначыў ён.

— Так, гэта менавіта ён. Прарэзаны на вечку ўзор — гэта пяць шчаслівых аблокаў, кожнае з якіх выяўленае ў выглядзе спіралі. Калі запаліць духмянае рэчыва ў пачатку ўзору, яно будзе марудна гарэць, рухаючыся спіралямі, якія выконваюць тут ролю кнота. Глядзі, вадкасць з носіка перавернутага гарбатніка пралілася ў цэнтр трэцяй спіралі, пагасіўшы духмянасць акурат на сярэдзіне яе шляху. Калі мы дакладна даведаемся, калі запалілі курыльніцу і колькі часу патрэбна для таго, каб агонь дайшоў да сярэдзіны трэцяй спіралі, мы зможам вызначыць прыблізны час самагубства. Ці прынамсі...

Тут суддзя замаўчаў, бо ў пакой увайшоў аканом, якога суправаджала мажная жанчына гадоў пяцідзесяці ў ахайнай карычневай сукенцы. На яе круглым твары ўсё яшчэ віднеліся сляды слёз. Убачыўшы на канапе застылую фігуру, яна зноў расплакалася.

— Колькі яна праслужыла пані Хо? — спытаў суддзя Дзі ў аканома.

— Больш за дваццаць гадоў, пане суддзя. Яна належала сям'і пані Хо, і калі тры гады таму пан Хо ажаніўся, пераехала да яго разам з ёй. Яна не надта разумная, але вельмі добрая жанчына. Гаспадыня вельмі яе любіла.

— Супакойся! — звярнуўся суддзя да служанкі. — Я разумею, што для цябе гэта страшнае няшчасце, але чым хутчэй ты адкажаш на некалькі пытанняў, тым хутчэй мы зможам годным чынам пакласці цела ў труну. Скажы, ты бачыла гэтую курыльніцу раней?

Служанка выцерла твар рукавом і абыякава адказала:

Працяг на стар. 20 (12)

# Пяць шчаслівых аблокаў

**Працяг.**
**Пачатак на стр. 19 (11)**

— Безумоўна, пане. Яна гарыць роўна пяць гадзінаў, па гадзіне на кожную спіраль. Калі я пакідала пакой, гаспадыня паскардзілася на затхлае паветра, і я запаліла духмянасць.

— Колькі тады было часу?

— Амаль дзве гадзіны, пане.

— Гэта быў апошні раз, калі ты бачыла сваю гаспадыню жывой?

— Так, пане. Калі пан Хуа размаўляў з гаспадаром у гасцёўні, я прывяла гаспадыню сюды. Хутка пасля гэтага ў альтанку зазірнуў гаспадар, каб праверыць, ці добра пані ўладкавалася для паабедзеннага адпачынку. Яна папрасіла мяне наліць два кубкі гарбаты і дадала, што да пяці гадзінаў я ёй не патрэбная і магу таксама трошкі паспаць. Яна заўсёды была такой уважлівай! Я вярнулася ў дом і сказала аканому падрыхтаваць у галоўнай спальні новае шэрае ўбранне гаспадара для сустрэчы ў судзе. Потым прыйшоў і сам гаспадар. Калі аканом дапамог яму пераапрануцца, гаспадар сказаў мне паклікаць пана Хуа, і яны разам пакінулі дом.

— Дзе быў пан Хуа?

— Я знайшла яго ў садзе, пане, дзе ён захапляўся кветкамі.

— Усё правільна, — сказаў аканом. — Пасля размовы ў гасцёўні, пра якую я пану суддзю ўжо расказаў, гаспадар папрасіў пана Хуа на хвілінку яму прабачыць і пайшоў развітацца з пані Хо ў альтанцы і пераапрануцца. Пан Хуа, відаць, у гасцёўні засумаваў, а таму выйшаў на двор, каб зірнуць на сад.

— Зразумела. Хто першы знайшоў цела, ты ці служанка?

— Я, пане, — адказала служанка. — Я прыйшла сюды трошкі раней за пяць і тут... і ўбачыла, што яна вісіць... на той бэльцы. Я выбегла на двор і паклікала аканома.

— Я адразу ж стаў на крэсла, — працягнуў аканом, — і абрэзаў вяроўку, а служанка ў гэты час абхапіла цела рукамі. Я зняў з яе шыі пятлю, і мы перанеслі гаспадыню на канапу. Пані не дыхала, і яе сэрца не білася. Мы спрабавалі вярнуць яе да жыцця, з усяе моцы расціраючы цела, але было запозна. Я паспяшаўся ў суд, каб паведаміць гаспадару пра бяду. Калі б толькі я знайшоў яе раней...

— Ты зрабіў усё, што мог, аканом. А цяпер глядзі — ты сказаў мне, што за абедам пані Хо была ў добрым настроі, пакуль не прыйшоў пан Хуа, правільна?

— Так, пане. Калі пані Хо пачула, як я паведамляю гаспадару пра візіт пана Хуа, яна адразу ж пабялела і сышла ў бакавы пакой. Я бачыў, што яна...

— Ты, відаць, памыліўся! — злосна перарвала яго служанка. — Я суправаджала яе з бакавога пакоя ў альтанку і зусім не заўважыла, што яна знiякавела.

Аканом збіраўся ўжо гнеўна ёй запярэчыць, але суддзя Дзі даў яму знак маўчаць і коратка сказаў:

— Ідзі да вартоўні і распытай брамніка, хто і з якой мэтай прыходзіў сюды пасля выхаду гаспадара і пана Хуа, а таксама як доўга тут заставаўся. І паспяшайся!



Аканом тут жа знік з вачэй, і суддзя Дзі прысеў на крэсла. Марудна і маўкліва пагладжваючы бакенбарды, ён разглядаў жанчыну, якая з апушчанымі вачыма стаяла перад ім. Урэшце сказаў:

— Твая гаспадыня памерла, і цяпер твой абавязак расказаць усё, што можа дапамагчы знайсці чалавека, які наўпрост ці ўскосна спрычыніўся да яе смерці. Расказвай, чаму яе знерваваў прыход пана Хуа?

Служанка кінула на яго спалоханы погляд. Зусім іншым голасам яна адказала:

— Я праўда не ведаю, пане! Я ведаю толькі тое, што за два апошнія тыдні яна двойчы наведвала пана Хуа, нічога не кажучы гаспадару. Я хацела пайсці разам з ёй, але пан Фан сказаў... — раптам яна замаўчала, пачырванеўшы і сярдзіта закусіўшы губу.

— Хто такі пан Фан? — рэзка спытаў суддзя Дзі.

Служанка хвілінку вагалася, і яе лоб перарэзала глыбокая зморшчына. Потым яна пацiснула плячыма і сказала:

— Што ж, праўда ўсё адно выйдзе вонкі, ды яны нічога кепскага і не рабілі! Пан Фан — гэта мастак, пане, бедны і вельмі хворы. Ён жыў у хацінцы непадалёк ад нашага дому. Шэсць гадоў таму бацька мае гаспадыні, прэфект у адстаўцы, наняў пана Фана вучыць маю гаспадыню маляваць кветкі. Тады ёй было толькі дваццаць два, а ён быў такі прыгожы малады мужчына... Няма нічога дзіўнага, што яны закахаліся адно ў аднаго. Пане суддзя, пан Фан — такі цудоўны чалавек, і яго бацька быў вядомым навукоўцам. Але ён страціў усе свае грошы і...

— Гэта не мае значэння! Яны былі каханкамі?

Служанка энергічна захітала галавой і хутка адказала:

— Не, пане, ніколі! Пан Фан збіраўся папрасіць каго-небудзь пагаварыць са старым прэфектам наконт вяселля. Ён і праўда быў адчайна бедны, але паходзіў з такой слаўнай сям'і, што мог спадзявацца на згоду. Аднак раптам здароўе пана Фана рэзка пагоршала. Ён параіўся з лекарам, які сказаў, што пан Фан пакутуе на невылечную хваробу лёгкіх і памрэ маладым... Пан Фан сказаў маёй гаспадыні, што яны ніколі не ажэняцца і што іх каханне — гэта мімалётны вясновы сон. Ён хацеў з'ехаць ад яе як мага далей. Але яна маліла яго застацца з ёй, кажучы, што яны могуць проста сябраваць і яна хоча быць побач, калі здароўе яго зусім пагоршыцца...

— Яны працягвалі сустракацца, калі пан Хо ажаніўся з тваёй гаспадыняй?

— Так, пане. Яны сустракаліся тут, у альтанцы, але толькі ўдзень, і я заўсёды была з імі. Клянуся, пане, што ён ніколі да яе нават не дакрануўся!

— Ці ведаў пра гэтыя візіты пан Хо?

— Безумоўна, не! Мы чакалі, калі гаспадар з'едзе на цэлы дзень, і тады я перадавала пану Фану цыдулку ад мае гаспадыні. Праз веснічкі ён праслізгваў у сад і ў гэтай альтанцы выпіваў з гаспадыняй кубачак гарбаты. Я ведаю, што апошнія тры гады, калі мая гаспадыня выйшла замуж, пан Фан толькі гэтымі выпадковымі сустрэчамі і жыў. Яе гэтыя размовы так радавалі! А я заўсёды была побач...

— Ты патурала яе таемным спатканням, — жорстка сказаў суддзя Дзі, — а можа, нават забойству! Бо твая гаспадыня не скончыла жыццё самагубствам — яе забілі! А палове пятай, калі быць дакладным.

— Але пане суддзя, пры чым тут пан Фан? — застагнала служанка.

— Гэта я і збіраюся высветліць, — сурова сказаў суддзя і павярнуўся да лекара. — А цяпер хадзем да вартоўні!

Начальнік варты і двое яго людзей сядзелі на каменнай лаўцы ў двары перад домам. Калі яны ўбачылі суддзю, то тут жа ўскочылі, і начальнік, аддаўшы суддзю знакі пашаны, спытаў:

— Магу я, пане, загадаць сваім людзям прынесці часовую труну?

— Не, пакуль яшчэ не, — панура адказаў суддзя і пайшоў далей.

У вартоўні нізенькі аканом кляў сухарлявага дзядка ў доўгім белым убранні так, што вяла трава. Праз акно за імі назіралі два кулі — насільшчыкі паланкіна — і ўхмыляліся, відавочна радуючыся забаве.

— Пане суддзя, гэты чалавек сцвярджае, што ў дом ніхто не заходзіў, — гнеўна сказаў аканом. — Але стары дурань прызнаўся, што паміж трыма і чатырма ён трохі задрамаў. Якая ганьба!

Не зважаючы на яго абурэнне, суддзя раптам спытаў:

— Ты ведаеш мастака Фана?

Здзіўлены аканом пахітаў галавой, аднак тут адгукнуўся старэйшы кулі:

— Вашая правялебнасць, я ведаю пана Фана! Ён часта купляе ў майго бацькі місу локшыны, тут, у латку за рогам. Ён здымае гарышча над бакалейнай крамкай за гэтым домам. Я бачыў, як ён стаяў ля нашай садовай брамы каля гадзіну таму.

Суддзя Дзі павярнуўся да лекара і сказаў:

— Хай гэты кулі праводзіць цябе да жытла пана Фана. Прывядзі яго сюды. Але ніякім чынам не згадвай пра смерць пані Хо!

Потым суддзя павярнуўся да аканома і загадаў:

— Адвядзі мяне ў гасцёўню. Там я сустрэнуся з панам Фанам.

Гасцёўня падалася зусім маленькай, аднак сціплая мэбля ў ёй была найвышэйшай якасці. Аканом прапанаваў суддзю зручны фатэль ля стала, наліў кубачак гарбаты і асцярожна знік.

Марудна пацягваючы гарбату, суддзя Дзі задаволена падумаў пра тое, што след забойцы знойдзены. Ён спадзяваўся, што лекар застане мастака дома, і яго можна будзе адразу ж дапытаць.

Судовы лекар вярнуўся нават раней, чым суддзя яго чакаў, і прывёў з сабой высокага худога мужчыну гадоў трыццаці, апранутага ў зношаную, але чыстую сінюю кашулю, падперазаную чорным баваўняным пасам. У новапрыбылага быў вытанчаны твар з кароткімі чорнымі вусікамі. Некалькі пасмаў выбівалася з-пад чорнай выцвілай шапачкі. Суддзя зірнуў на яго вялікія, занадта бліскучыя вочы і на запалыя шчокі з чырвонымі плямамі. Потым запрасіў сесці на крэсла з другога боку стала. Лекар наліў госцю гарбаты і застаўся стаяць за яго спінай.

— Я чуў пра вашыя працы, пане Фан, — прыязна пачаў суддзя, — і даўно хацеў з вамі пазнаёміцца.

Мастак доўгай пачуццёвай далонню паправіў кашулю і голасам, які выдаваў адукаванага чалавека, адказаў:

— Цікавасць пана вельмі мяне цешыць. Тым не менш цяжка паверыць, што пан суддзя тэрмінова запрасіў мяне сюды, у дом пана Хо, толькі дзеля прыемнае размовы пра мастацтва.

— Безумоўна, не ў першую чаргу. У гэтым садзе, пане Фан, здарылася няшчасце, і я шукаю сведак.

Фан выпрастаўся на крэсле і ўстрывожана спытаў:

— Якое няшчасце? Спадзяюся, не з пані Хо?

— Менавіта з ёй, пане Фан. Гэта адбылося ў альтанцы паміж чатырма і пяццю. У гэты час вы да яе заходзілі.

— Што з ёй здарылася? — выкрыкнуў мастак.

— Адказ вы павінныя ведаць самі! — халадна адказаў суддзя Дзі. — Бо гэта вы яе забілі!

— Яна памерла! — і Фан схаваў далонямі твар. Вузкія плечы мастака затрэсліся. Аднак праз некаторы час ён зноў узяў сябе ў рукі, зірнуў на суддзю і стрыманым голасам спытаў:

— Ці можа пан ласкава патлумачыць, навошта мне забіваць жанчыну, якую я кахаў больш за ўсё ў жыцці?

— Вы баяліся выкрыцця. Пасля вяселля вы працягвалі навязваць ёй сваю ўвагу, яна ад вас стамілася і сказала, што калі вы не скончыце свае візіты, яна паскардзіцца мужу. Сёння вы горача паспрачаліся, і вы яе забілі.

Мастак марудна кіўнуў.

— Усё правільна, — пакорліва сказаў ён, — такое тлумачэнне, мабыць, вельмі праўдападобнае. Бо ў згаданы панам час я і праўда быў у гэтым садзе.

— Яна ведала, што вы прыйдзеце?

— Ведала. Сёння ранкам вулічны хлопчык прынёс мне ад яе цыдулку. У ёй было напісана, што нам тэрмінова трэба сустрэцца. Я мусіў прыйсці да садовай брамы каля паловы пятай і, як заўсёды, пастукаць чатыры разы, каб служанка мяне ўпусціла.

— Што было пасля таго, як вы ўвайшлі ў сад?

— Я туды не ўвайшоў. Я грукаў некалькі разоў, але ніхто не адчыніў. Тады я трошкі пабадзяўся, зрабіў яшчэ некалькі марных спробаў трапіць у сад і ўрэшце адправіўся дадому.

— Пакажыце мне цыдулку!

— Не магу, бо я яе знішчыў. Гэта была яе просьба.

— Дык вы адмаўляеце, што забілі яе?

— Калі пан суддзя ўпэўнены, што сапраўднага злачынцу знайсці не атрымаецца, — пацiснуў плячыма Фан, — то я ахвотна прызнаюся ў забойстве, каб дапамагчы пану закрыць справу. Я ў любым разе хутка памру — а адбудзецца гэта ў ложку ці на эшафоце, мне ўсё адно. Яе смерць пазбавіла маё вартае жалю жыццё апошняга сэнсу, бо другое маё каханне — мастацтва — даўным-даўно мне здрадзіла. Відаць, мае творчыя сілы падарвала працяглая хвароба. Аднак калі ў пана ёсць магчымасць высачыць сапраўднага забойцу, які перарваў жыццё гэтай нявіннай жанчыны, то я не бачу ніякіх прычынаў збіваць пана з панталыку і прызнавацца ў злачынстве, якога я не здзяйсняў.

Суддзя Дзі зірнуў на мастака і задумена тузануў свой вус.

— Пані Хо заўсёды перадавала вам цыдулкі праз вулічных хлопчыкаў?

— Не, пане. Звычайна іх прыносіла яе служанка. Сёння мяне першы раз папрасілі знішчыць пасланне, аднак я ўпэўнены, што

напісала яго яна, бо добра ведаю яе стыль і почырк, — тут яго словы перарваліся страшэнным прыступам кашлю. Мастак выцер вусны папяровай насоўкай, абыякава зірнуў на крывавыя плямы і працягнуў. — Не ўяўляю, якое тэрміновае пытанне яна хацела абмеркаваць. І хто мог жадаць ёй смерці? Я ведаю і яе, і яе сям'ю больш, чым дзесяць гадоў, і магу пана ўпэўніць, што ў іх ніколі не было ніводнага ворага! — пакруціўшы свой вус, ён дадаў: — Яе замужжа аказалася досыць шчаслівым. Хо трошкі нуднаваты, але ён шчыра яе любіў і ставіўся з усёй дабрыняй і павагай. Ніколі не загаворваў пра наложніцу, хаця яна не магла нарадзіць яму дзіця. Яна таксама любіла яго і паважала…

— Аднак гэта не перашкодзіла ёй сустракацца з вамі за яго спінай! — суха абарваў яго суддзя. — Надзвычай нязвычайныя паводзіны для замужняй, не кажучы ўжо пра вас!

Мастак ганарліва зірнуў на суддзю.

— Пан гэтага не зразумее, — холадна сказаў ён. — Пан аблытаны сеткай пустых правілаў і бессэнсоўных традыцыяў. Але магу пана ўпэўніць, што ў нашым сяброўстве не было нічога заганнага. Свае сустрэчы мы трымалі ў сакрэце толькі таму, што Хо — чалавек досыць старамодны і мог няправільна нас зразумець, зрэшты, як і пан суддзя. Мы не хацелі, каб яму было балюча.

— Якая далікатнасць! Калі вы ўжо так добра ведалі пані Хо, вы, несумненна, патлумачыце, чаму яна апошнім часам была такая прыгнечаная.

— Безумоўна. Справа ў яе бацьку, старым прэфекце, які не ўмеў добра ўпраўляцца са сваімі фінансамі і быў павінен багатаму суднаўладальніку Хуа Міню вялікую суму грошай. Прыкладна месяц таму гэты бязлітасны ліхвяр пачаў прымушаць старога перадаць яму ў кошт доўга зямлю, аднак прэфект хацеў яе захаваць. Зямля вось ужо невядома колькі пакаленняў належала яго сям'і, да таго ж ён адчуваў адказнасць за дабрабыт сваіх арандатараў. Хуа выціснуў бы з гэты бедных людзей іх апошнія грошы! Стары ўгаворваў Хуа пачакаць хаця б да жніва, калі ён зможа заплаціць прынамсі вялізарныя працэнты. Аднак Хуа настойваў на неадкладнай перадачы яму зямлі — тады яна абышлася б яму зусім танна. Пані Хо вельмі з гэтай нагоды хвалявалася і нават двойчы прасіла мяне адвесці яе да Хуа. Яна рабіла ўсё магчымае, каб угаварыць яго адтэрмінаваць выплату, але гэтая брудная свіння пагаджалася на ўсё, толькі калі пані Хо з ім пераспіць!

— Пан Хо пра гэтыя візіты ведаў?

— Не. Мы разумелі, як агаломшыць яго навіна пра фінансавыя праблемы яго цесця, якому ён нічым не можа дапамагчы. Вы ж ведаеце, што сваіх сродкаў у пана Хо няма, ён жыве на адну сціплую пенсію.

— Якая незвычайная дабрыня ў дачыненні да пана Хо!

— Ён заслужыў яе, бо ён прыстойны чалавек. Адзінае, чаго ён не мог даць сваёй жонцы — гэта інтэлектуальныя размовы, і таму ёй патрэбны быў я.

— Ніколі не сустракаў такой поўнай адсутнасці хоць нейкай маральнасці! — з агідай усклікнуў суддзя Дзі. Ён падняўся і загадаў лекару: — Перадай начальніку варты, каб замкнуў яго ў турме як падазраванага ў злачынстве. Пасля адпраў разам з двума вартаўнікамі цела пані Хо ў суд і правядзі ўважлівае ўскрыццё. Як толькі зробіш — да мяне. Я буду ў сваім кабінеце.

І ён выйшаў, гнеўна трасучы сваімі доўгімі рукавамі.

У кабінеце суддзю Дзі чакалі пан Хо і два суднаўладальнікі; разам з імі заставаўся адзін са службоўцаў суду. Калі суддзя ўвайшоў, яны хацелі ўстаць, але суддзя жэстам супакоіў іх. Ён прысеў ля стала і загадаў службоўцу напоўніць кубкі гарбатай.

— Усе фармальнасці зробленыя, пане суддзя? — скрушным голасам спытаў пан Хо.

Суддзя Дзі выпіў гарбату, потым паклаў рукі на стол і марудна адказаў:

— Не зусім, пане Хо. У мяне для вас кепскія навіны. Я высветліў, што вашая жонка самагубства не здзяйсняла. Яе забілі.

Пан Хо не змог стрымаць адчайны стогн. Пан Хуа і пан І абмяняліся здзіўленымі поглядамі. Тут пан Хо выдыхнуў:

— Забілі? Хто? Святыя нябёсы, за што?

— Усё паказвае на мастака, якога завуць Фан.

— Фан? Мастак? Ніколі пра такога не чуў!

— Я папярэджваў вас, што навіны кепскія, пан Хо. Вельмі кепскія. Перад тым, як вы пабраліся з вашай жонкай шлюбам, яна сябравала з гэтым мастаком. Пасля вяселля яны таемна сустракаліся ў садовай альтанцы. Магчыма, ён яе стаміў, і яна вырашыла з ім развітацца. Ведаючы, што ўдзень вы будзеце ў мяне, яна магла адправіць Фану цыдулку і запрасіць яго ў альтанку. І калі яна сказала яму пра разрыў, ён і мог яе забіць.

Хо сядзеў, утаропіўшыся ў адну кропку і шчыльна сціснуўшы вусны. Хуа і І зусім збянтэжыліся. Яны сабраліся паднясцца і пакінуць суддзю і Хо саміх, але чыноўнік уладным жэстам загадаў ім заставацца на месцы. Урэшце пан Хо зірнуў на суддзю і спытаў:

— Як гэты нягоднік яе забіў?

— Яе ўдарылі ў скронь і, калі яна страціла прытомнасць, павесілі за шыю на бэльцы. Яна задыхнулася. Але злачынца перавярнуў гарбатнік, і гарбата патушыла агонь у гадзінніку-курыльніцы, дзякуючы чаму мы даведаліся пра час жахлівага ўчынку — палова пятай ці каля таго. Магу яшчэ дадаць, што адзін са сведак бачыў мастака Фана, які прыкладна тады ж сноўдаўся ля вашай садовай брамы.

Тут у дзверы пагрукалі. Увайшоў судовы лекар і перадаў суддзю справаздачу пра ўскрыццё. Хутка яе прагледзеўшы, чыноўнік пацвердзіў, што прычынай смерці сапраўды было марудНае ўдушэнне. Ніякіх слядоў гвалту, апроч сіняка на скроні, на целе не знойдзена. Жанчына была на трэцім месяцы цяжарнасці.

Суддзя Дзі марудна скруціў паперу і паклаў яе ў рукаў. Потым звярнуўся да лекара:

— Загадай начальніку варты вызваліць падазраванага. Хай ён пачакае ў вартавым памяшканні. Пазней я хачу яго яшчэ раз дапытаць.

Як лекар пайшоў, пан Хо падняўся. Хрыплым голасам ён сказаў:

— Калі пан суддзя дазволіць, я хацеў бы сысці. Я мушу…



— Пакуль яшчэ не, пане Хо, — перарваў яго суддзя. — Перш я хачу задаць вам пытанне. Тут, пры пане Хуа і пане І.

Хо з разгубленым выглядам сеў.

— Пане Хо, вы пакінулі сваю жонку ў альтанцы каля дзвюх гадзінаў дня, — пачаў суддзя Дзі. — У маім кабінеце вы праседзелі да пяці, пакуль аканом не прыйшоў з навіной пра смерць вашае жонкі. Хаця мы ведаем, што яна магла памерці ў любы час паміж дзвюма і пяццю, вы, калі даведаліся пра самагубства, сказалі: «Усяго праз некалькі гадзінаў, як я сышоў». Пан Хуа і пан І могуць гэта засведчыць. Адкуль вы даведаліся, што яна памерла каля паловы пятай?

Хо маўчаў. Ён вялікімі вачыма з недаверам глядзеў на суддзю. Нечакана суровым голасам чыноўнік працягнуў:

— А я скажу вам, адкуль! Калі вы забілі сваю жонку а другой, адразу пасля таго, як служанка пакінула яе альтанку, вы спецыяльна залілі гадзіннік-курыльніцу гарбатай. Вы, відаць, палічылі мяне нядрэнным следчым — вельмі вам за гэта ўдзячны. Вы ведалі: калі я прыйду на месца злачынства, то зразумею, што вашую жонку забілі і з дапамогай гадзінніка-курыльніцы вылічу, што гэта адбылося каля паловы пятай. Таксама вы не сумняваліся, што рана ці позна я даведаюся пра Фана, які акурат у гэты час быў ля садовай брамы — яго прывяла дасланая вамі падробленая цыдулка. Гэта быў хітры план, Хо, варты добрага законніка. Але так цудоўна прадуманы ход з гадзіннікам вас і падвёў. Вы ўвесь час казалі сабе: мяне ніколі не западозраць, бо ўсё сведчыць пра тое, што забойства здзейснілі а палове пятай — і выпадкова прагаварыліся наконт некалькіх гадзінаў пасля вашага зыходу. Тады вашая заўвага дзіўнай мне не падалася. Але як толькі я зразумеў, што калі пані Хо забіў не Фан, то гэта мусілі зрабіць вы, і я ўспомніў вашыя словы — і яны канчаткова даказалі вашую віну. Пяць шчаслівых аблокаў апынуліся для вас, пане Хо, не такімі ўжо і шчаслівымі!

Тут Хо выпрастаўся і холадна пацікавіўся:

— І навошта мне забіваць сваю жонку?

— А я скажу вам, навошта! Вы даведаліся пра яе таемныя сустрэчы з Фанам, і калі яна паведаміла вам пра цяжарнасць, вырашылі адным ударам знішчыць іх. Вы ўпэўнілі сябе, што бацька ненароджанага дзіцяці — Фан, і…

— Ніякі ён не бацька! — раптам закрычаў Хо. — Няўжо пан думае, што гэты нікчэмны нягоднік увогуле можа… Не, гэта было маё дзіця, чуеце? Тыя двое былі здольныя хіба што на агідную слязлівую балбатню! А што яны казалі пра мяне!.. Што я прыстойны, але нудны муж, які атрымаў яе цела, чуеце, але які ніколі не зразумее яе высокую душу. Я мог бы, мог… — знясілены лютасцю, ён пачаў запінацца, але потым сабраўся і больш спакойным тонам працягнуў: — Я не хацеў дзіця ад жанчыны з розумам распусніцы, ад жанчыны…

— Хопіць! — рэзка спыніў яго суддзя Дзі. Ён пляснуў у далоні і, калі з'явіўся начальнік варты, загадаў яму: — Надзень на яго кайданы і адвядзі ў турму. Заўтра на паседжанні я выслухаю поўнае яго прызнанне.

Калі начальнік варты вывеў Хо, суддзя звярнуўся да І Пэна:

— Службовец вас праводзіць, пане І.

Потым павярнуўся да другога суднаўладальніка і сказаў:

— А вы, пане Хуа, яшчэ на некалькі хвілін затрымайцеся: мне трэба пагаварыць з вамі сам-насам.

Калі яны засталіся адны, Хуа ліслíва сказаў:

— Пан суддзя так хутка расследаваў справу! Гэта ж падумаць толькі, пан Хо… — і сумна пахітаў галавой.

Чыноўнік змрочна зірнуў на яго.

— Фан як падазраваны мяне не надта задавальняў, — суха адзначыў ён. — Усё занадта выразна ўказвала на яго, аднак само забойства зусім не адпавядала ягонай натуры. Я загадаў насільшчыкам несці мяне ў суд кружным шляхам, каб мець трохі часу на развагі. Я падумаў, што забойства мог падрыхтаваць толькі нехта свой, а значыць, гэта Хо — ён меў відавочны матыў, бо, як любы падмануты муж, хацеў адпомсціць адначасова нявернай жонцы і яе каханку. Але чаму ён так доўга чакаў? Пра пасланні, якія пані Хо адпраўляла Фану, ён ведаў і даўно раскрыў таямніцу іх сустрэч. Але калі я прачытаў у справаздачы пра цяжарнасць пані Хо, то падумаў, што менавіта навіна пра дзіця паўплывала на рашэнне яе мужа. І я меў рацыю, хаця, як мы толькі што даведаліся, Хо кіраваўся не тымі пачуццямі, якія я яму прыпісваў, — тут суддзя спыніў свой змрочны погляд на суднаўладальніку і дадаў: — Падрыхтаваць фальшывыя доказы мог толькі нехта з дому Хо, знаёмы з прынцыпамі працы гадзінніка-курыльніцы і з почыркам пані Хо. Гэта і ўратавала вас, пане Хуа, ад абвінавачання!

— Мяне, пане?! — ускрыкнуў агаломшаны Хуа.

— Безумоўна. Я даведаўся пра тое, што пані Хо да вас прыходзіла і што вашую ганебную прапанову яна адхіліла. Муж яе нічога не падазраваў, але Фан ведаў. Вось вам і матыў для таго, каб прыбраць яе і Фана. Магчымасць у вас таксама была: а другой гадзіне, калі пані Хо адпачывала ў альтанцы адна, вы прагульваліся ў садзе. Вы невінаватыя ў забойстве, пане Хуа, але вінаватыя ў спробе спакушэння замужняй жанчыны, якую пацвердзіць пан Фан, і ў спробе даць хабар, што засведчыць аканом, які чуў вашую з Хо паабедзенную размову. Я абвінавачу вас заўтра ў двух гэтых злачынствах на паседжанні і прысуджу вам турэмны тэрмін. На гэтым вашая кар'ера ў Пэнлаі скончыцца, пане Хуа.

Хуа падскочыў з крэсла і сабраўся ўжо ўкленчыць і прасіць у чыноўніка літасці, але суддзя Дзі тут жа працягнуў:

— Я не буду караць вас за дзве гэтыя правіны, калі вы пагодзіцеся заплаціць два спагнанні. Па-першае, гэтым жа вечарам вы напішаце бацьку пані Хо афіцыйны ліст з належным подпісам і пячаткай, у якім паведаміце, што пазычаныя ім грошы ён можа вярнуць у любы зручны для яго час і што вы адмаўляецеся ад усіх працэнтаў. Па-другое, вы замовіце пану Фану карціны з усімі караблямі на вашай верфі і за кожны малюнак заплаціце яму адзін срэбны злітак, — тут ён падняў руку, спыняючы выяўленні ўдзячнасці пана Хуа, і дадаў. — Безумоўна, гэты штраф дасць вам толькі адтэрміноўку. Калі раптам я пачую, што вы зноў назаляеце прыстойным жанчынам, вас адразу ж асудзяць на апісанае мной пакаранне. А цяпер ідзіце ў вартавое памяшканне. Там вы знойдзеце пана Фана, зробіце замову і заплаціце яму на месцы пяць срэбных зліткаў у якасці задатку. Да пабачэння!

Калі перапалоханы суднаўладальнік паспешліва выйшаў, суддзя ўстаў і наблізіўся да адчыненага акна. Ён з асалодай удыхнуў тонкі водар магнолiевых кветак і прамармытаў: «Асуджэнне чыіхсьці маральных прынцыпаў — не нагода даць яму памерці ў нястачы».

Тут ён рэзка павярнуўся і накіраваўся ў суд.

**Пераклад з ангельскай мовы Ганны Янкута**

# Прайсці праз рыфы, або Жыццё працягваецца

**Заканчэнне.**
**Пачатак на стр. 9 (1)**

Таму пра дэбют можна казаць толькі адносна некалькіх чалавек. (Зрэшты, а чаму было не даць кароткія біяграфічныя даведкі пра аўтараў, — фотак жа вунь колькі нашлёпалі.)

Не асабліва расплёскваючыся думкамі, паспрабую суб'ектыўна праклеймаваць кожнага аўтара. Пачну, бадай, з цяжэйшага жанру, прынамсі, для пісання. Ці не таму яе (прыстойнай прозы, зразумела) так няшмат у нашай літаратуры. А выбітная і ўвогуле рэдкасць. Пяць-шэсць празаікаў, якіх можна чытаць, наперад ведаючы, што не губляеш часу дарма. З гэтай прычыны такая пільная ўвага да маладых аўтараў і непадробная радасць і чытацкае задавальненне ад іх рэдкай удачы.

Першы аповед Дар'і Вашкевіч «Пялёсткі» напісаны ў стылі плыні свядомасці, а можна дапусціць, што і з пэўнай праявай метаметафорыкі, якая была распрацавана паэтамі яшчэ на пачатку 90-х мінулага стагоддзя. Такія тэксты чытача раздражняюць і стамляюць, калі ў іх аслаблены хоць які дзейны сюжэт. Да таго ж тэкст выдрукаваны, як пазначана, у аўтарскім правапісе. І вось першы сказ: «Калі я павярнулася позна ўначы дадому, то ўчула водар ягонае парфумы». Без каментарыяў. А вось другі аповед «Соня» мне спадабаўся. Гэта тонкі і цудоўны фрагмент мастацкай прозы. Своеасаблівае ўспрыманне навакольнага свету і людзей праз напластаванні ўласнага эга... Даволі адметная проза. Дар'і можна смела замахвацца на асобную ўласную кніжку.

Кірыл Дубоўскі расчараваў мяне сваім кароткім расійскамоўным тэкстам. Гэты лапідарны, як па сюжэце, так і па стылі (дарэчы, сухаватым і даўкім), аповед ні пра што асаблівае не кажа, хоць аўтарам задумваўся глыбока філасафічны падтэкст. Расчараванне павялічваецца, калі прыпамінаеш, што дзесяці ўжо даводзілася чытаць даволі ўхвальныя словы пра яго творчасць...

Алена Казлова нарэшце ўстыдалася сваіх юнацкіх прэтэнзій да песняра, перастала спатыкацца і падаць (маю на ўвазе яе псеўданім Анка Упала) і намерылася вярнуцца да сябе самой, або, што больш пэўней, спраўдзіць сябе самую... У аповедзе «Мінск два» пісьменніца спрабуе выявіць свой глыбокі ўнутраны свет, які ніяк не можа пераадолець цвёрдую абалонку знешняга свету (па тыпу яйка і птушаняці), таму агалошвае сябе знутры... Нешматслоўная, але ёмкая па сваёй сутнасці проза мастацкага жыцця пэўнага індывідуума, што намагаецца стаць асобай...

У Паўла Капанскага даволі адметны стыль пісьма, але зашмат штучнай вобразнасці. Часам гэта напамінае каментары ў сацыяльных сетках інтэрнэту ці выкладзеныя запісы ў Фэйсбуку. З прачытанага мной тэкста нічога істотнага не вынікае, апроч




ухвальнага жадання аўтара намацаць уласную пісьменніцкую арыгінальнасць.

Аповед Машы Лапо «War» займальны і прафесійны, напісаны ў такім скрыжаваным стылі Жванецкага-Даўлатава. Упершыню пашкадаваў, што аўтар расійскамоўная. Такога тыпу беларускамоўнага празаіка нам яўна бракуе. Карацей, аўтару рэспект!

А вось проза Насты Манцэвіч не тое што расчаравала, а проста не дала нагоды для шырокай і цэльнай гаворкі. Яшчэ раней яна зацікавіла мяне як паэт(-ка) сваім зборнікам «Птушкі», а тут атрымаўся нейкі псіхалагічны канспект, можна сказаць нават — чарнавыя накіды да задуманага (зрмрояна-будучага) твора. Ці не з гэтай прычыны тэкст пакуль так і не займеў назвы, а па вершаванай звычцы ўсё яшчэ пазначаны трыма зорачкамі.

Аповед «Сон рэальнасці» Кірылы Стасельвкі напісаны ў авангардным стылі — жыццё чалавека перад люстэркам яго свядомасці. Шкодзіць такому стылю вельмі шчыльная аднастайнасць усяго тэкста, але навідавоку аўтарская шчырая спроба мастацкага зразумення свайго часу...

Аповеды ж Наталлі Ярмольчык праставатыя, хоць і маюць нібыта глыбокія падтэксты; ім бракуе мастацкага развіцця, вобразы герояў прыкладваюцца да канкрэтных сітуацый і наадварот, сам аўтар застаецца як бы па-за тэкстам, адсюль не зусім жывое дзейства, трафарэтнасць і пэўны літаратурны схематызм. Мяркуючы па схільнасці да дыялогаў і па іх саміх, аўтар магла б паспрабаваць сябе ў драматургіі (прынамсі, як мне здаецца, кароткія п'есы ёй даваліся б). Адметна, што ўсе тры тэксты напісаныя ў розных матывацыях: псіхалогіі, фэнтэзі і гумару. Агулам, маючы адносна дабротныя літаратурныя здольнасці, іх неабходна развіваць.

Цяпер, што да паэзіі.

Вершы Рамана Абрамчука заўважна вучнёўскія, мова і рытміка ў іх кульгаюць. Аднак ёсць маладая і безаглядная эмоцыя, шчырасць пачуццяў, прага паэтычнай жарсці.

*Глытаю вецер,*
*што эскадру хмараў*
*Шалёна гоніць прэч кудысь на ўсход*
*І расчышчае шлях усім крылатым,*
*Каб здзейсніглі свой вылет, лёт*
*і веснавы прылёт.*

Шкада, што прывязка да алфавіта змусіла ўкладальнікаў і рэдакцыйную раду пачынаць кніжку менавіта нізкай гэтага аўтара.

Паэтычная публікацыя Марыны Варабей таксама пакуль яшчэ з адценнем пачаткоўства. Яна піша:

*сонца ўзыходзіць рана.*
*цьмяны асенні ранак...*

У аўтара не ўсё добра са звычайнай логікай: сонца восенню ў яе ўзыходзіць рана, а да таго ж — пры сонцы! — у яе цьмяны ранак... Трэба больш пільна адсочваць такую аўтарскую слепату і глухату, у тым ліку і рэдактарам. Шмат у тэкстах націску, пажаду і жарстлівасці, а майстэрства — вобмаль. Амаль кожны радок аўтара «гуляе сам па сабе». Бракуе адчування гармоніі ў стварэнні вобразаў і лірычнага свету.

Перакладзены Андрэем Былінскім вершаваны цыкл Ўільямса Карласа Ўільямса, створаны аўтарам паводле карцін Брэйгеля, можна было б палічыць даволі ўдалым, калі б, скажам, сяляне ў яго не «скокалі» ды «высока не задзіралі абцасы». Агулам жа атрымалася цэльная паэтычная нізка, да якой, спадзяюся, перакладчык яшчэ не раз добра прыгледзіцца.

Яшчэ гадоў восем таму Наста Грышчук прыносіла мне свае вершы ў «ЛіМ», і, як памятаецца, яны былі больш празрыстыя і цяплейшыя, нешта накшталт сблетнай ранняй вясны... Трэба, аднак, прызнаць, што цяпер пераважная большасць яе тэкстаў вызнаная знутры жыцця і іх дзіцячая непасрэднасць злагоджана сталым поглядам разважлівага чалавека. Як у гэтых двух строфах на зачыне падборкі:

*Мы развіталіся.*
*На памяць*
*Я падарыла крыжык свой,*
*Каб ты і ўноч, і ў дождж, і ў замець*
*Не сустракаўся з доляй злой.*
*Няхай нас болей лёс не зніжа,*
*Я зноў убачу: ты стаіш.*
*На шыі — мой маленькі крыжык,*
*І на плячах — вялізны крыж.*

Андрэй Касцюкевіч пераклаў вершаваныя тэксты Фрыдрыха Ніцшэ з «маладой» кнігі знакамітага філосафа «Вясёлая навука» (1882). Вось што пісаў пра яе сам тады яшчэ не надта вядомы аўтар: «...амаль у кожным радку яе пяшчотна трымаюцца за рукі пранклівы роздум і гарэза. Вершы, якія выказваюць удзячнасць самаму цудоўнаму месяцу, студзеню, які я перажыў — уся кніга ёсць ягоны дарунак — у дастатковай ступені тлумачаць, з якой глыбіні «навука» тут стала вясёленькай». Здаецца, пераклад А. Касцюкевіча таксама атрымаўся — калі не вясёлы, то ўсё ж дастаткова гарэзлівы.

У расійскамоўнай Дашы Латышавай вершы жывыя, нярвовыя, але, на жаль, без дастаткова выразнай мастацкай абляможкі. Таму падчас выдаюцца залішне прасталінейнымі, як знешне (пры чытанні), так і знутры (пры суперажыванні). Ну і такіх вось перлаў трэба пазбягаць:

*у людзей няма лішніх касцей:*
*усе патрэбныя і карысныя.*

Гэта вульгарная проза па-за эстэтыкай паэтычнага красамоўства. Словам, скажу тут у тон аўтару: маладой вершатворцы трэба «абрастаць метафарычным мясам»...

А вось вершы Антона Рудака выдаюць на публікацыю ўжо сталага прафесійнага (калі крыўдна, няхай застаецца аматарам) паэта. Чытаючы, сам сабе падумаў, што яго выдрукавалі ў гэтым зборніку толькі дзеля таго, каб падвысіць цэнз (мастацкі ўзровень) самога выдання.

*бо я і не думаў, нібы аб цудзе*
*спяваць утрапёна, звонка й высока*
*аб той, што ніколі нідзе не будзе,*
*не бачачы той, што са мной*
*навокал.*

Рудак пакуль яшчэ шматгалосы, ён акумуляваў вялікі паэтычны свет у сабе, каб, у рэшце рэшт, вылучыць высока напружаную энергію ўласнага голасу. Дай Бог.

Аня Рудак са сваімі вершамі выглядае на яго фоне «беднай родзічкай» (што канкрэтна да апошняга, то, шчыра кажучы, не ведаю, можа яно і так). Надрыўныя рытмы нечым блізкія да народных (цяпер ужо фальклорных) замоў і плачаў. Гармонія сумуе па гэтым хаасе...

На адметных вершах Юлі Цімафеевай заўважна адбіўся літаратурны вопыт яе перакладчыцкай творчасці. Але ў іх ёсць водбліскі сапраўднай паэзіі, якую выклала з сусветнага эфіру яе пажадная да прыгажосці душа.

*Я з гэтым светам*
*дзялю тэрыторыю.*
*Гэты кавалак табе,*
*гэты кавалак мне...*

*Тое, чаго ты не ведаеш,*
*табе не належыць,*
*— кажа мне свет.*
*— І ў табе тваё толькі тое,*
*што ты ўсвядоміла.*

Як крытык аматарскага кшталту, я не лічу Вольгу Чайкоўскую ў паэзіі «дзевачкай для біцця», на што яна намякае ў адным са сваіх вершаў. Наадварот, адношу яе да найбольш цікавых сучасных паэтак.

Філасофскі вектар яе творчасці, у нечым блізкі да стылю і напрацовак А. Разанава, нярэдка, апынуўшыся па-за самім гэтым стылем, становіцца бездапаможным, як нярэдка пачуваецца бездапаможным чалавечы розум перад боскім провідам:

*І толькі калі мы разам, свет*
*мае сэнс,*
*а Бог мае рацыю.*

Нездарма бальшыня творчых памкненняў Вольгі палягае ў прасторы духоўнага дыялогу:

*пуста без знакаў прыпынку*
*проста зашмат прасторы*
*думкі разгубіліся*
*і ўніклі задуманага сэнсу*
*паміж бязродных і адзінокіх*
*словаў*
*радкоў*
*гуляюць твая і мая думкі*
*і ніяк на агульны*
*клічнік ці кропку*
*натыкнуцца*
*не могуць*

Падводзячы вынікі гэтага агляднага крытычнага круізу на «Параходзіку сучаснасці», магу сказаць, што Школа маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў сваю місію выканала (сыходзячы з цяперашніх сваіх магчымасцяў) і, безумоўна, у далейшым мае быць працягнутай у тым ці іншым фармаце.

Заўважу яшчэ: пры чытанні зборніка склалася ўражанне, што сучасны працэс маладой беларускай літаратуры звернуты як бы вонкі — у акаляючы свет, і яго стваральнікам варта было б больш уважліва засяродзіцца на ўласным унутраным свеце. Пакуль жа выяўленыя імі мастацкія відзежы паўсядзённага жыцця, дзе пануе культ эгаістычнага прагматызму, пакідаюць за межамі сваіх сюжэтаў духоўны катарсіс зямнога смяротнага чалавека.

Аднак радуе тое, што ў нашых духоўных нацыянальных абсягах яшчэ дастаткова здольных і таленавітых маладых людзей. Што яны прагнуць дасканаласці і ім ёсць у каго гэтаму вучыцца і пераймаць мастацкі вопыт.

Літаратурнае жыццё працягваецца...

## «ДЗЕЯСЛОЎ» №69

ЛеГАЛ



# «Сэрцапіс»

**Ніколі не думалася, што за лёс іншай краіны буду перажываць і хваляваецца, не раўнуючы, як за лёс роднай. Але сёння гэта так. Украіна ўтрапёна б'ецца ў маім сэрцы...**

Успомніліся радкі з верша вядомага паэта братняй дзяржавы Паўло Гірныка, з якім давялося вучыцца на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве напрыканцы 1980-х... Тады ўжо «курсанты» мелі свае адметныя нацыянальныя групоўкі. Я, Гірнык і расійскамоўны немец з Казахстана Шмідт таварышавалі і заўсёды «тусаваліся» разам, і, ці паверыце, гаварылі кожны на сваёй мове, не маючы патрэбы ў перакладчыку, і нават як бы не прыдаючы таму значэння: маўляў, так і трэба... У Гірныка ў Мінску дачка, Шмідт даўно жыве ў Нямеччыне... Не бачыліся і не чуліся цэлую вечнасць... Зрэдзьчасу ецьць настальгія... І такая скруха агарнула душу, такая беспрасветная немачнасць, што можна кранууца розумам, калі не сагнаць гэты цень адчаю ды не ўспомніць пра чалавечую годнасць і мужчынскую мужнасць... Мы яшчэ пабачымся, Паўло! І я веру, што тая наша сустрэча будзе светлая і святочная...

Але, на жаль, пакуль так: ім — вайна, а нам — хакей...

Нейкім чынам заключная частка рамана Алеся Усені «Грэх», выдрукаваная ў 69 нумары часопіса «Дзеяслоў», звoддалі акрэслівае ўладкаванне і станаўленне чалавечага грамадства часоў вялікай Рымскай імперыі, накладваючы тое ў чытацкай падсвядомасці на праекцыю сучаснага вялікага «русского мира» (амаль без іроніі)... Распавядаючы пра пачатак хрысціянства, ганенні на яго і ахвяры, якія даводзіцца прыносіць у імя абранай веры, аўтар падводзіць чытача да роздуму над сутнасцю зямнога жыцця, якое мае сваімі духоўнымі складнікамі любоў, веру і надзею... За гэтыя Хрыстовыя імператывы людзі гатовыя ахвяраваць сваімі жыццямі і нават жыццямі сваіх малалетніх дзяцей, як маці Сафія, якая аддае на жорсткае катаванне сваіх дачок — Веру, Надзею і Любоў... Аўтар скрупулёзна выпісвае гэты (у розных месцах па рознаму ідэнтыфікаваны) гістарычны факт, не баючыся быць абвінавачаным у візуальных празмернасцях з жахлівымі малюнкамі крывавых сцэн... Вельмі добра выпісаны вобраз імператара Адрыяна, заканых Архелая і Вірсавіі, былога ваяра, сенатара Гнея...

Хоць самі некаторыя дзеі рамана падаюцца трохі ілюстрацыйнымі і сям-там зацягнутымі ў занадта правільных маналогах, асабліва ў палеміцы хрысціянкі Сафіі з імператарам Адрыянам наконт іх вераванняў.

І ўсё ж твор, як першы такога аб'ёмнага маштабу для аўтара, па-добраму ўражвае. Ён чытэльны і прэзентабельны для любой чытацкай аўдыторыі. Тым больш, што гэта рэдкі беларускі гістарычны раман на небеларускай аснове... Як для мяне, то з падтэксту твора высноўваецца для чытача наступная тэза: чалавек, абапіраючыся толькі на любоў, веру і надзею, і тым самым як бы спавядаючы «непротивление злу», ніколі не зможа пазбегнуць і адпрэчыць ні подлых намераў, ні самой подласці і прыгнёту, якія сыходзяць ад таталітарных рэжымаў, дзе б і ў якім выглядзе яны ні існавалі. Дух павінен апірацца на сілу. І тады сіла духу павінна змагчы сілу зла...

Далей. Сяргей Шапран прадстаўляе невядомыя (а некаторыя па недагляздзе ўкладальніка і вядомыя) вершы і паэтычныя накіды Рыгора Барадуліна. Народны паэт — жывы сваім словам насуперак смерці. Хоць,

*Што такое пакуты,*
*Ведае*
*Да слова прыкуты...*

Падобныя страфы ўкладваюцца ў памяць, як у заступы, выбітыя ў цвёрдай зямной пародзе, ступні альпініста, што ўпарта дамагаецца свайго Эверэста... Гэта як апраўданне перад чытачом (своеасаблівае замольванне багемнага граху) сваёй місіі паэта на гэтай зямлі...

Мастацкі нарыс, што змешчаны ў рубрыцы прозы, «Гослар» вядомага пісьменніка Анатоля Кудраўца — гэта літаратурна-пазнавальны экскурс ва ўсходнюю Германію, дзе ён пабываў, гасцюючы ў сваёй дачкі. Цікава, займальна, як і ўсё чужое па першым часе, але ўсё ж не сваё... У тэксце адсутнічае ў такіх звычайных беларускіх расповедах пра замежжа эфект параўнання і скрупулёзна-ўзнёслага альбо крытычнага аналізу, — тут проста літаратурна акрэслены нарысавы паказ нямецкага старадаўняга гарадка і яго ваколіц з ненавязлівай гістарычнай падсветкай. Вось так, маўляў, цывілізаваныя людзі жывуць... Чытайце і асэнсоўвайце, браткі-беларусы...

Вершы Валерыя Дубоўскага мне ўжо не чужыя і нават не незнаёмыя (не так даўно я пісаў пра яго першы вершаваны зборнік). Чалавечы вопыт паэта, які не засланяе і не спрашчае жыццё, а робіць надзённае мастацкай навізной гэтага свету, яшчэ ўсё выяўляецца ў яго вершах (назву яго падборкі я прысабечыў для гэтага агляда). Бо па словах паэта:

*Жыццё –*
*Найскладанейшы верш.*
*Да яго, як рыфму,*
*Падбіраеш ключы.*

Каб не чытаў Святлану Курс у Фэйсбуку, дык і не падумаў бы, што Ева Вежнавец (яна ж) можа пісаць такія фантасмагорыі (амаль у стылі Яна Баршчэўскага, толькі з сучасным ракурсам жыцця): духоўна і маральна спляжаная Беларусь, якую можна ўратаваць (адрадзіць) толькі старадаўнімі замовамі ці прываротным зеллем... Правінцыйны зрэз сённяшняй беларускай вёскі — як на далоні, сэрцы ж яе з твару зямлі можа і чарговы Хаўер, і нават маласвядомы віныны натоўп «прыніжаных і зняважаных»... Е. Вежнавец, безумоўна, адна з найбольш таленавітых нашых пісьменніц, якая вартая шырокай чытацкай і літаратурна-крытычнай увагі.

Паэтэса Людка Сільнова, дзякаваць Богу, усё тая ж: здзяцінелая, пазнавальная кожнай сваёй нечаканай метафарай, метрыкай, строфікай, знешняй атрыбутыкай вершаскладання найперш... Але і глыбіня ўнутраная — ад фізічных праяў да духоўнага ўздыху — таксама пры ёй. Таму ў чытача захоўваецца шчыры давер да яе верша. А як не даверыцца такім словам:

*Дачкі і ўнучкі партрэт настольны*
*Мне быццам кажа:*
*«Ты будзеш вольнай!*
*Ты будзеш вольнай і назавешся*
*Найціхім словам*
*у Божым тэксце...»*

Вінцэсь Мудроў — пісьменнік адметны і, што галоўнае, чытэльны, аднак, заўважна, што стылёва і тэматычна ён адкрыты... Але ж, во, жонка мая, згледзеўшы, што я прынёс новы нумар «Дзеяслова», прабегшы па яго змесце, абрадавана ўсклікнула: «О, Мудроў ёсць! Трэба абавязкова пачытаць...» Як бачым, не зважаючы на занудната Галубовіча, прыхільнікаў у наваполацкага пісьменніка хапае... Чаго вартая адна толькі назва аповеда — «Мутны Меконг»! Ну як ты прапусціш чытанне з такой заяўкай?!

Каторы раз чытаючы вытанчанае версіфікатарства Леаніда Дранько-Майсюка — вясёлае, забаўнае, не абцяжаранае штучнымі мудронасцямі — пра розныя прыгоды любімага сабакі Хомкі, я не страчваю спадзеву, што, як і ўсе ранейшыя свае паэтычныя цыклы, Леанід Васільевіч завершыць і гэтыя публікацыі на выверанай ноце. У гэтых, на першы погляд, не зусім сур'ёзных творах за россыпамі іроніі і сарказма шмат адсылаў і падтэкстаў да праяў нашага грамадскага і палітычнага ладу жыцця...

Вершы Эрнеста Савы даволі адметныя, хоць месцамі і цьмяныя... Паэзія ў іх адчуваецца. А вось уся старанна і па-мастацку прафесійна накручаная сітуацыя вакол вершаў і яго аўтара ў прадмове-эсэ Андрэя Стэфановіча асабіста ў мяне выклікае асацыяцыі з містыфікацыяй... ці, скажам, нейкі такі няпэўны давер...

*А што было ў паданні тым далей?*
*Кажу сабе: наступны крок здалей,*
*а там Сінай пабачыш ці пустэчу,*
*на конях паімчыш да вечных меж*
*ці па каменні вострым папаўзеш*
*з мінуўшчыны дасветнай на сустрэчу.*

Неяк так. Раю пачытаць.

Дзіўна, але ў Беларусі пабольела паэтаў жаночага роду, а мы гэтай прыгожай з'явы як бы не заўважаем... А на мой погляд паэтак сёння чытаць цікавей, і пішуць яны таленавіцей. Не ўсе, вядома. Вось і Валерыя Кустава... Памятаю, калісьці яе дэбютны зборнік я крытыкаваў за хаатычную экспрэсію, залішнюю экзальтаванасць ды эмацыйны сэнсавы хаас... Але ж вырасла дзяўчына з падлеткавых джынсаў. Гармоны ўнармавала і гармонію выверыла. І хоць свет яна ўспрымае ўсё яшчэ вельмі крытычна, аднак разам з тым адчуваецца, што і да ўласнай асобы паэтка стала праяўляць большую строгасць. Зрэшты, лепшыя вершы Валеры сёння вартыя самага пераборлівага чытача.

*У мяне з Краінай кантакт.*
*Мы рухаемся ў такт.*
*Я люблю яе,*
*а яна мяне — мае.*
*Дыхаю толькі я.*
*А яна — нямая.*
*Неяк так.*
*Хто такое стрымае?*

Ніколі не лічыў сябе меламанам, таму прачытаў тэксты расійскай рок-паэзіі па-беларуску без асаблівага трапятання... Па вялікім рахунку, найперш, сам гэты праект варты ўвагі, бо, скажам, а чаму не перакласці заходне-еўрапейскую рок-паэзію ды разам з айчыннай выдаць асобным зборнікам? Сярод аўтараў: А. Макарэвіч, Б. Грэбеншчыкоў, В. Цой, А. Башлачоў, Ю. Шаўчук ды іншыя. Сярод перакладчыкаў: А. Хадановіч, В. Гронская, М. Шчур, А. Івашчанка, С. Балахонаў, Ю. Несцярэнка ды іншыя. Чытаючы, ясна бачацца сімвалы і таго, іхняга, і нашага, цяперашняга, часу...

*Гады ляцелі, кожны з нас*
*Боль зведаў і трываў пакуты.*
*Але нарэшце выйшаў час —*
*Мы рукі вызвалім ад путаў.*
*..................................*
*Калі сканаў апошні вораг,*
*Труба зайграла перамогу –*
*Тады заўважыць кожны змог,*
*Як засталося нас нямнога.*

**(1978)**

Як бачым, у Расіі былі і яшчэ застаюцца людзі, у тым ліку і творчыя, з іншымі, адносна імперскай улады, ідэямі і меркаваннямі, вальнадумцы і пратэстанты.

У раздзеле «Спадчына» няўтомны Сяргей Шапран прапануе ліставанне Васіля Быкава (1963–1977) з калегамі-літаратарамі (беларускімі, расійскімі, украінскімі). Ёсць вельмі цікавыя фрагменты, якія тычыліся творчых праблем пісьменніка ў змаганні з партыйнай наменклатурай і выдавецкай цэнзурай. Вось урывак з ліста Нілу Гілевічу (1966): «У школах даводзяць, што Быкаў — гэта гродзенскі Сіняўскі, вораг. І хто? Ведама, кадравыя работнікі КГБ. Пайшлі на прадпрыемствы «с разъяснениями». З дня на дзень усё горш. Як воўка ў аблаву. Але — вытрымаем! І падтрымка сяброў абавязвае».

Яшчэ адна адметная публікацыя — даволі аб'ёмная гутарка таго ж Сяргея Шапрана з «правінцыйным» пісьменнікам Міколам Захаранкам, што жыве ў Швабах на Лагойшчыне. Гаваркі чалавек, трэба адзначыць, гэты Захаранка. Па ўсім відаць, дзякуючы сваёй неардынарнай біяграфіі, якая выснавала яму шмат горкага вопыту і шчымлівага жыццёвага досведу. Такія людзі больш уседлівыя за вясёлым гасцінным сталом, чым за пісьмовым. Гутарка «расцяклася мыслю па дрэву», але тым самым страціла пэўную глыбіню і засяроджанасць. Шмат цікавостак для калялітаратурных вушэй, аднак амаль не зачэплены праблемы, — ні грамадскія, ні літаратурныя, — што тычацца нашага часу. Хоць, што казаць, само чытво — гуллівае і шчырае — прыцягвае і выклікае душэўную прыхільнасць да абодвух аўтараў...

Друкуюцца раздзелы з дакументальнай кнігі Яўгена Лецкі «На чужыне палеглыя». Дарэчы, аўтару — 70 гадоў, віншуем! Таксама, следам, юбілейны артыкул Леаніда Галубовіча да 80-годдзя паэта, пісьменніка і выдаўца Кастуся Цвіркі. Ірына Клімковіч піша пра «міфічных першапродкаў беларусаў». Уладзімір Сіўчыкаў у водгуку-бурлеску адгукаецца на кніжку Пятра Васючэнкі «Дванаццаць подзвігаў Геракла». Алеся Лапіцкая рэцэнзуе раман «Сфагнум» Віктара Марціновіча. Падаецца анатацыя новых беларускіх кніжак у рубрыцы «Дзеяпіс».

Духоўнага вам здароўя і прыемнага чытання.

## ТОП-3 ЗБОРНІКАЎ СУЧАСНАЙ УКРАІНСКАЙ ПАЭЗІІ

**Падзеі ва Украіне — у эпіцэнтры сусветнай чытацкай увагі. Падзеі, на жаль, не літаратурныя. «ЛБ» вырашыла пазнаёміць з папулярнымі старонкамі сучаснай украінскай культуры. У прыватнасці — паэзіі.**

**Напачатку ХХ стагоддзя адным з найбольш вядомых украінскіх вершаў быў шэдэўр Уладзіміра Сасюры «Любіть Україну». У канцы стагоддзя нашыя суседзі па памяці цытавалі твор Аляксандра Ірванца «Любіть Аклахому». Якая ўкраінская паэзія папулярная цяпер?**



Фота buknews.com.ua

1 Першы па папулярнасці, паводле апытанкі prostokniga.com.ua, — **Юры Іздрык** (яго вершы «Літаратурная Беларусь» публікавала ў сакавіку (№3 (91)).

У сваім новым зборніку вершаў «Ю» Іздрык працягвае гуляць у гульню, правілы якой яго чытачы паспелі ўжо засвоіць. Адмысловую ўвагу ён, як заўсёды, надае афармленню і ілюстрацыям. Малюнкі ў яго таксама важныя, як і тэкст, яны не толькі яго дублююць, але і напаўняюць новым значэннем. Акрамя таго, перад тым, як выдаць кнігу, аўтар выклаў усе вершы ў сваім блогу «Мертвий щоденник» і на Фэйсбуку, пасля чаго ўважліва адсочваў лайкі і каменты, тым самым даючы больш магчымасці чытачам уплываць на сваю творчасць.

У адным з інтэрв'ю Ю. Іздрык адзначыў, што творчая дзейнасць для яго — гэта спосаб разабрацца ў сабе і з сабой. Вершы, якія ўвайшлі ў зборнік «Ю», — гэта плынь гаворкі чалавека, які застаўся сам-насам з вобразамі і рыфмамі, што мільгаюць у яго галаве. Дамінантнымі тэмамі кнігі сталі Каханне і Сакральнасць, галоўнай жа адзнакай — іранічная безуважлівасць, якая часам мяжуецца з сарказмам.



Фота informator.su

2 **Сяргей Жадан, «Агнястрэльныя і нажавыя»**

У сваім новым паэтычным зборніку С. Жадан як заўсёды абыгрывае поп-культурныя штампы. Ён вымае іх са звыклага кантэксту — масавай культуры — і ўзносіць да ўзроўня мастацтва, праз што яны набываюць новыя падтэксты і значэнні ды ўспрымаюцца па-іншаму. Акрамя таго, С. Жадан звяртаецца да сваіх любімых урбаністычных сцэн, малюе жыццё звычайных людзей з падваротняў, гопнікаў і злачынцаў. Крымінальных матываў тут асабліва шмат.

Здзіўляе і тое, што да ўсіх гэтых міфалагем аўтар дадае многія алюзіі на Біблію. З-за перанасычанасці зборніка хрысціянскімі вобразамі-знакамі крытыкі назвалі яго «евангеллем ад Жадана». Уся кніга пабудавана на своеасаблівым аксюмаране, злучэнні неспалучальнага: крымінальных і рэлігійных матываў. Ды і мова — грымучая сумесь. Побач з сухой дзелавой і палітычнай лексікай гучаць цёплыя і далікатныя словы кахання.

3 **Марыяна Кіяноўская, «Нешта штодзённае»**

Красамоўна пра лірыку М. Кіяноўскай гаворыць вокладка яе зборніка з намаляваным па цэнтры чалавечым вокам, пад якім



Фота chytomo.com

па-жаночы акуратна выведзена: «Нешта штодзённае» (у арыгінале — «Дещо щоденне»). У яе вершах ёсць пачуццёвасць, якая можа быць уласцівая толькі жаночай паэзіі. Аднак яе паэзія — гэта далёка не любоўная лірыка. У першую чаргу гэта перапляценні вобразаў і матываў, узятых з сусветнай класікі, Бібліі, апокрыфаў, стражытнагрэцкіх міфаў і г.д. Паэтка стварыла поліфанію галасоў з розных культур і эпох.

*Існую, мислю — грекою й латиною,*
*Садами йдучи, садами мов,*
*Бо sermiofacit. Троп триває тінню*
*Не проминань. В метафорі — любов.*

Аднак усе гэтыя галасы служаць толькі элементамі яе ўласнай міфатворчасці. Такія тэксты складана прааналізаваць і немагчыма інтэрпрэтаваць, іх трэба ўспрымаць не лагічна, а інтуітыўна, бо менавіта так яны і ствараліся.

## Пулітцэраўская прэмія

**У Нью-Ёрку абвешчаны пераможцы Пулітцэраўскай прэміі — адной з самых прэстыжных амерыканскіх узнагарод у галіне журналістыкі і літаратуры.**

Пулітцэраўская прэмія ўмоўна падзяляецца на два блокі: у адным узнагароджваюць за актуальныя дасягненні ў журналістыцы, у другім, гуманітарным, адзначаюць лепшы мастацкі твор (кнігу па гісторыі, п'есу, біяграфію ці мемуары, вершаваны твор і нон-фікшн). За дасягненні ў журналістыцы былі адзначаны газеты «Washington Post» і «New York Times» — за серыю матэрыялаў, заснаваных на звестках Эдварда Сноўдэна. У гуманітарным блоку галоўную прэмію — за раман — атрымала Донна Тарт і яе кніга «Шчыгол».

У ЗША гэты раман займаў першыя радкі ў рэйтынгу продажаў «Amazon». Стывен Кінг станоўча адгукнуўся пра гэты раман Д. Тарт, назваўшы яго «лоўкім творам, у якім злучыліся розум і сэрца». Да яго далучыліся галасы многіх літаратурных крытыкаў Амерыкі, якія нават параўналі «Шчыгла» з дзікенсаўскімі «Вялікімі надзеямі».

Дзеянне «Шчыгла» разгортваецца на двух кантынентах — у Амерыцы і Еўропе — вакол рэальнай карціны «Шчыгол» Карэла Фабрыцыуса.

У іншых намінацыях пулітцэраўскае журы адзначыла як заслужаных, так і маладых аўтараў. Лепшым у нон-фікшн прызналі даследаванне Дана Фагіна «Томс Рывер. Гісторыя навукі і рабства», якое, як адзначаецца ў паведамленні аргкамітэта прэміі, «спалучае следчы падыход з даследаваннем гісторыі ракавых захворванняў у дзяцей у прыморскім кластары Нью-Джэрсі».

З паэтаў «Пулітцэрам» сёлета ўзнагародзілі Віджая Сешадры — амерыканца індыйскага паходжання, прызнанага англамоўнага паэта, які раней працаваў у штаце часопіса «New Yorker».

Пулітцэраўская прэмія прысуджаецца ў ЗША з 1903 года. У розныя гады ёй ганараваліся такія пісьменнікі, як Эрнэст Хэмінгуэй, Сол Белоў, Маргарэт Мітчэл, Джон Стэйнбек, Уільям Фолкнер і іншыя. Перавагу журы Пулітцэраўскай прэміі аддае творам, прысвечаным праблемам амерыканскага жыцця.

## Ордэн Ганаровага Легіёна

**У Кіеве ўкраінскаму пісьменніку Андрэю Куркову была ўручана вышэйшая ўзнагарода Францыі — Ордэн Ганаровага Легіёна. Узнагароду ўручыў амбасадар Францыі ва Украіне.**

Дырэктар Французскага інстытута ва Украіне Рыкто Саці, выступаючы на адкрыцці фестывалю «Кніжны Арсенал», адзначыў, што А. Куркоў з'яўляецца самым вядомым украінскім пісьменнікам у свеце. Хоць свае кнігі ён піша па-руску, не выклікае сумневаў, што пісьменнік — украінскі патрыёт, які выступае за абнаўленне краіны і захаванне яе цэласнасці.

У наш час А. Куркоў піша кнігу пра падзеі Еўрамайдана, у якой плануе сумленна, без купюр і адстойвання таго ці іншага пункта гледжання, распавесці ўкраінскім, расійскім і еўрапейскім чытачам пра падзеі найноўшай гісторыі Украіны.

## Прэмія «Паэт»

**Лаўрэатам расійскай нацыянальнай прэміі «Паэт» стаў Генадзь Русакоў.**

Члены журы прэміі на працягу года па публікацыях адсочваюць творчае жыццё паэтаў і затым называюць імя лепшага. Пераможцу ўручаецца грашовы прыз у памеры 50 000 $.

Раней Г. Русакоў станавіўся лаўрэатам прэміі часопіса «Знамя» (1996), Малой прэміі Апалона Грыгор'ева (1999), прэміі «Венец» Саюза пісьменнікаў Масквы (2011).

## Антыпрэмія «Абзац»

**На выставе «Кнігі Расіі» ўручылі літаратурную антыпрэмію «Абзац». Ёй «узнагароджваюць» за самыя сумнўныя дасягненні ў расійскім кнігавыдавецкім бізнэсе.**

Антыпрэмію ў асноўнай намінацыі «Поўны абзац» атрымала «Аўтабіяграфія» Маргарэт Тэтчэр. Кнігу аб'ёмам каля 800 старонак, перакладзеную з ангельскай «канцылярскай» мовай, назвалі самай сур'ёзнай «ахвярай і карэктараў, і перакладчыкаў, і рэдактараў».

У намінацыі «Горшы пераклад» узнагароду ўручылі кнізе фэнтэзі для падлеткаў «Дом сакрэтаў» Крыса Каламбуса і Неда Візіні, перакладзенай Лідзіяй Садовай.

Адмысловая антыпрэмія «Ганаровая Не-грамата» дасталася Барысу Акуніну за кнігу «Гісторыя расійскай дзяржавы. Ад вытокаў да мангольскага нашэсця». Журы адзначыла, што ўзнагарода ўручана за «асабліва цынічныя злачынствы супраць расійскай славеснасці», а «канцэнтрацыя ляпаў, недакладнасцяў і здагадак у кнізе Б. Акуніна не ўкладваецца ў галаву».

## Конкурс імя Сяргея Міхалкова

**У Маскве прайшла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў IV Міжнароднага конкурса імя Сяргея Міхалкова на лепшы мастацкі твор для падлеткаў.**



Усяго на конкурс было даслана каля чатырохсот рукапісаў. Дасланыя творы не павінны былі раней нідзе выдавацца і не перадавацца ў выдавецтвы для публікацыі. У шорт-ліст конкурса ўвайшло 13 рукапісаў.

Пераможцам стала масквічка Ірына Дзегцярова. Яе кніга «Стэпавы вецер» распавядае пра перажыванні хлопчыка-падлетка і жыццё данскога казацтва. Лаўрэат другой прэміі — жыхарка Севастопаля Таццяна Карніенка з кнігай «Херсанесіты». Трэцяя прэмія ўручана Міхаілу Логінаву з Санкт-Пецярбурга за прыгодніцкую аповесць «Ключ ад горада Антонаўска».

## «Дзеясловіца»

**У Татарстане стартавала Рэспубліканская незалежная дзіцячая літаратурная прэмія «Дзеясловіца».**

Яе заснавальнікам выступіў дабрачынны фонд «Шчаслівыя гісторыі». Дзіцячая літаратурная прэмія «Дзеясловіца» праводзіцца ў Татарстане ўпершыню, але, па словах аўтараў праекта, стане штогадовай. У літаратурным конкурсе могуць прыняць удзел аўтары ад 10 да 17 гадоў.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў colta.ru, Washington Post, РИА Новости, vsiknygy.net, prostokniga.com.ua, lenta.ru, УНН.**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# TV

## 6 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Выпускныя іспыты па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на III ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.10** Ваенная драма «Снайперы. Каханне пад прыцэлам» (Расія). Заключныя серыі.
**11.05** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна). 2-я серыя.
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**16.20** Серыял «Сямейныя меладрамы».
**17.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.10** Таямніцы следства.
**19.20** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Рамантычная камедыя «Давай пацалуемся» (Украіна). 3-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** «Сімвал Перамогі». Тэлестужка АТН.
**22.15** Нашы.
**22.30** Крымінальны трылер «Транзіт» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Час абедаць!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**15.30** «Вучыцца жыць».
**16.15** Камедыя «Паліцыянты і злодзеі».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Чакай мяне Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.20** «Што? Дзе? Калі? у Беларусі».
**23.35** Мастацкі фільм «Памерці маладым».
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «У нас усе дома». Камедыйны серыял. Заключная серыя.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Аблудныя душы». ЗША, 2000г.
**15.40** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Маё вялікае грэчаскае лета». ЗША - Іспанія, 2009г.
**22.00, 23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.55** «Вялікая гульня». Покер.
**00.40** Фільм «Лавец сноў». ЗША - Аўстралія, 2003 г.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38» (Расія). Заключная серыя.
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Стыль-бюро.
**11.25** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**12.00** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў» (Расія).
**13.00** Серыял «Рэальныя мальцы».
**15.05** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**16.10** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў. Фінал. 1-я частка.
**17.15** Футбол. На шляху да чэмпіянату свету па футболе 2014.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38» (Расія). Заключная серыя.
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Легенда Зора» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.40** Рэпарцёр.
**23.30** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.

### Беларусь 3

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.00, 14.35, 16.20, 21.05, 01.05** «Калейдаскоп».
**08.10, 12.10, 14.45, 16.30, 01.15** «Сімвалы эпохі». Камуністычная партыя.
**08.20, 12.20, 14.55, 19.05, 01.30** «Галасы з мінулага». 110 год з дня нараджэння народнай артысткі СССР Тацццяны Іванаўны Пельтцар.
**08.30** Серыял. «Дастаеўскі». 8-я серыя.
**09.25** «Лёс гігантаў». Падводная лодка «Балаклава».
**09.55** Серыял. «Мегрэ».
**10.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Івана Рэя.
**11.10** «Размаўляем па-беларуску».
**12.30** «Едзем у Кітай». Далянь.
**12.50** «Душа мая з імем жаночым». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць пісьменніцы Элізы Ажэшкі.
**13.15** «Скарбніца Берасцейшчыны». Беларускі Версаль.
**13.40** «Аляксей Дудараў. Крыніца часу». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць драматурга. Частка 1-я.
**14.05** «Аляксей Дудараў. Рака часу». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць драматурга. Частка 2-я.
**15.00** «Граф Нулін». Тэлеспектакль паводле аднайменнай паэмы А.С.Пушкіна.
**15.25** «Цуды прыроды». Патагонія, Венгрыя. Беліз. Новая Зеландыя.
**15.55** «Драўляны народ». Дакументальны фільм пра разьбяра, народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка.
**16.20** «Калейдаскоп».
**16.45** «Руслан і Людміла». Мастацкі фільм паводле аднайменнай паэмы А.С.Пушкіна. 1-я і 2-я серыі.
**19.15** «Формула кахання». Мастацкі фільм па матывах аповесці Аляксея Талстога «Граф Каліёстра».
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.15** «Лёс гігантаў». Падводная лодка «Балаклава».
**22.40** «Па старонках Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі ў Маладзечне». Век ХХ.
**00.10** «АРТиШОК». Мастак Генадзь Хацкевіч.
**00.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Івана Рэя.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Серыял «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Ікорны барон».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Легавы».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Прэм'ера. Серыял «Дазнаўца-2».

### БЕЛСАТ

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.20** Два на два: Іна Соркіна і Ігар Кузьмініч: Рэпрэсіі супраць нязломных выкладчыкаў.
**08.55** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларускамоўнае гета.
**09.20** Гісторыя пад знакам Пагоні: Язэп Руцкі.
**09.30** Паляванне на дзівосы.
**09.50** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**10.00** «Глыбокая вада», серыял: 2 серыя.
**10.50** «Першая катастрофа», дак. фільм, рэж. Зоя Катовіч, 2009 г., Польшча.
**11.25** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял.
**17.00** Аўтастопам праз Еўропу: Варшава.
**17.15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Вера Бурлак.
**17.30** «Барбі», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.40** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**18.25** Моўнік: Як звярталіся прадзеды?
**18.35** Англійская для дзяцей.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.05** Назад у будучыню.
**19.15** Зоры не спяць: Адам Глобус – пра каханне.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Мацей Казімір Сарбеўскі.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.20** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.40** Агляд падзеяў культуры.
**20.50** Гарачы каментар.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Форум (ток-шоу): Заплацi за жыццё.
**22.10** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**23.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.50** Аб'ектыў.

## 7 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### Беларусь 1

**06.40** Існасць.
**07.05** Лірычная камедыя «Прыходзьце заўтра» (СССР).
**08.45** Выпускныя іспыты па беларускай і рускай мовах, па матэматыцы за перыяд навучання і выхавання на II ступені агульнай сярэдняй адукацыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.45** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**10.55** Уступны іспыт па беларускай мове ў V клас гімназій, гімназій- інтэрнатаў, гімназій-каледжаў мастацтваў.
**11.00** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.30** Дача.
**12.10** Давярай і правярай.
**12.50** Здароўе.
**13.30** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы Беларусі».
**14.10** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Давярай і правярай.
**16.00** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў.
**17.10** Меладрама «Каханне і трохі перцу» (Расія - Украіна).
**19.00** Меладрама «Сэрца без замка» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны баявік «Механік» (Расія).
**23.25** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** Смак.
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Анімацыйны фільм «Папялушка: Поўны наперад».
**14.05** Змова дыетолагаў.
**15.05** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**16.55** АНТ прадстаўляе «Адзін супраць усіх».
**17.40** Мастацкі фільм «Дом ля возера».
**19.25** Пачуццё гумару.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Якраз як».
**23.55** Што? Дзе? Калі? .
**01.05** Вайна ў Карэі.

### СТВ

**06.30** «Студэнты». Серыял.
**07.25** «Анфас».
**07.40** Фільм «Маё вялікае грэчаскае лета». ЗША - Іспанія, 2009г.
**09.30** «Чыстая праца».
**10.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Цешча». Беларусьфільм, 1973г.
**14.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.40** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Беавульф». ЗША, 2007г.
**22.20** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон».
**23.25** Фільм «Чаму мужчыны ніколі не слухаюць, а жанчыны не ўмеюць паркавацца». Германія, 2007г.
**01.10** «Глядзець усім!».

### Беларусь 2

**07.10** Казка «Канёк-Гарбунок» (СССР).
**08.20** Музычная казка «Пэпі-Доўгая Панчоха» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.35** Беларуская кухня.
**11.10** Тэлебарометр.
**11.15** «Два з паловай кухары». Кулінарная шоў-праграма (Расія).
**11.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**14.20** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**15.30** Вышэй за дах.
**16.05** Камедыйная меладрама «Генры Пул ужо тут» (ЗША).
**18.00** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў. Фінал. 2-я частка.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў» (Расія).
**21.00** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.35** Дэтэктыўная драма «У даліне Эла» (ЗША).

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Планетарый.
**08.25** «Таямніца душы». Хрысціянскія цэнтры краіны. Жыровічы.
**08.50** «АРТиШОК». Мастак Генадзь Хацкевіч.
**09.20** «Формула кахання». Мастацкі фільм па матывах аповесці Аляксея Талстога «Граф Каліёстра».
**10.50** «Наперад у мінулае».
**11.15** «Калейдаскоп».
**11.25** «Сімвалы эпохі». Планетарый.
**11.40** «Руслан і Людміла». Мастацкі фільм паводле аднайменнай паэмы А.С.Пушкіна. 1-я і 2-я серыі.
**14.00** «Размаўляем па-беларуску».
**14.10** «Падарожжа са смакам». Дардонь.
**14.40** «Калейдаскоп».
**14.50** «Сімвалы эпохі». Планетарый.
**15.00** «В барабан не бью без толку...» Дакументальны фільм пра гук у кіно.
**15.40** «Карані». Анатоль Разумаў, які 20 гадоў працуе над «Ленінградскім марціралогам».
**16.10** «Па старонках Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі ў Маладзечне». Век ХХ.
**17.40** «Калейдаскоп».
**17.50** «Сімвалы эпохі». Планетарый.
**18.05** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацка-дакументальны фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Калейдаскоп».
**21.10** Сусветнае кіно. «Золата Макены».
**23.15** «Ігар Лучанок. Мелодыя лёсу». Дакументальны фільм пра кампазітара, народнага артыста БССР і СССР.
**0.10 «Калейдаскоп».**
**0.20 «Сімвалы эпохі». Планетарый.**

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная». Гістарычны дэтэктыў.
**14.15** Вострасюжэтны серыял «Дзевяты аддзел».
**16.00** Сёння.
**16.15** «Выратавальнікі».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.55** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** Вострасюжэтны фільм «Дубля не будзе».
**23.40** Мастацкі фільм «Шлях самца».

### БЕЛСАТ

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.55** Аб'ектыў.
**08.20** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Прыгоды і паходы».
**08.50** «Сонечная дзіда», серыял: 3 серыя.
**09.20** Форум (ток-шоу): Заплацi за жыццё.
**10.10** Аўтастопам праз Еўропу: Варшава.
**10.25** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**11.25** 54%: Жонкі палітвязняў.
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Мацей Казімір Сарбеўскі.
**11.55** Казкі для дзетак: «Казкі з-за акна», «Прыгоды Ціўкі», «Прыгоды і паходы».
**12.30** «Сонечная дзіда», серыял: 3 серыя.
**12.55** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 1 серыя.
**13.45** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**15.25** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»: ч. 1.
**15.55** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: Вера Бурлак.
**16.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Польска-бальшавіцкая вайна 1920 г.».
**17.00** Хто ёсць кім?: «Барыс Кіт. Праз церні да зораў», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**17.20** Без рэтушы: «Хрушчоўкі» – гісторыя вялікага падману», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**17.35** Чаму дэмакраты? «Прашу галасаваць за мяне».
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.00** Аўтаспынам па Беларусі: Альтэрнатыўныя крыніцы энергіі ў практыцы ды экалагічнае мастацтва.
**19.20** «Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**20.20** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Да смерці трэба паспець», дэтэктыў, 2010 г., Канада.
**22.45** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 1 серыя.
**23.35** «Глыбокая вада», серыял: 1 серыя.
**00.20** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры «Буфо»: ч. 1.
**00.55** Аб'ектыў.

TV

## 8 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.00** Меладрама «Сэрца без замка» (Расія).
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.50** «Мастакі Парыжскай школы. Выхадцы Беларусі».
**14.25** Дыялогі пра цывілізацыю.
**15.15** Твой горад.
**15.30** «Славянскі базар у Віцебску-2014». Дзённік.
**15.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.15** Меладрама «Сонечнае зацьменне» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Дэтэктыўны трылер «Бункер» (Іспанія).
**00.00** Камедыйны серыял «Сваты 4» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Андрэй Міронаў. «Я баюся, што мяне разлюбяць».
**12.20** Камедыя «Тры плюс два».
**14.20** Прэм'ера. «Тры плюс два». Версія курортнага рамана.
**15.00** Гарады-героі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Стас Міхайлаў.
**17.20** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.20** Мастацкі фільм «Каханне і іншыя акалічнасці».
**20.00** Контуры.
**21.05** КВЗ. Вышэйшая ліга.
**23.20** Мастацкі фільм «Узыходнае сонца».

### СТВ

**06.15** «Студэнты». Серыял.
**07.55** Фільм «Беавульф». ЗША, 2007г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Дзікае паляванне караля Стаха». Беларусьфільм, 1979г.
**14.45** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Прышэльцы». Францыя, 1993г.
**22.40** Шоў «Арганізацыя Вызначаных Нацый».
**00.05** Фільм «Нябачная». Германія - Францыя, 2011г.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.25** Фільм-казка «Пра Чырвоны Капялюшык» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**09.45** Заўтра - гэта мы!
**10.10** Тэлебарометр.
**10.15** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**10.50** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.15** Аўтабатл.
**13.55** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў» (Расія).
**15.05** Стыль-бюро.
**15.40** Прыгодніцкі фільм «Легенда Зора» (ЗША).
**18.05** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** КЕНО.
**21.10** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**00.00** Камедыйная меладрама «Генры Пул ужо тут» (ЗША).

### БЕЛАРУСЬ 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Дзівосны новы свет Дарвіна». Мастацка-дакументальны фільм.
**10.50** «Ігар Лучанок. Мелодыя лёсу». Дакументальны фільм пра кампазітара, народнага артыста БССР і СССР.
**11.45** «Калейдаскоп».
**11.55** «Беларускі народны каляндар. Сёмуха». Дакументальны фільм.
**12.10** «Размаўляем па-беларуску».
**12.15** «Мост». Дакументальны фільм пра масты Пецярбурга.
**12.40** В.-А.Моцарт. Опера «Чароўная флейта». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**15.05** «Калейдаскоп».
**15.15** «Цуды прыроды». Арктыка. Канада.
**15.40** «Музей Янкі Купалы». Дакументальны фільм пра экспазіцыю музея і яго філіялы.
**16.00** «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання А.Кудраўца.
**16.30** «Наперад у мінулае».
**16.55** «Размаўляем па-беларуску».
**17.00** Дзіцячы фільм. «Што ў Сеньki было».
**18.15** «Культпрасвет».
**18.40** Сусветнае кіно. «Золата Макены».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Канцэрт аркестра нацыянальных інструментаў «Церема».
**23.20** «Культпрасвет».
**23.45** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Цуд тэхнікі».
**11.20** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Дачныя адказ».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Справа цёмная».
**14.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Час Сіндбада».
**16.00** Сёння.
**16.15** Прэм'ера. Серыял «Час Сіндбада».
**18.05** «І зноў добры дзень!».
**18.30** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Баявік «Мы абвяшчаем вам вайну».
**21.35** Вострасюжэтны фільм «Чалавек з ніадкуль».
**23.25** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ TV

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.50** Зона «Свабоды».
**08.30** Хто ёсць кім?: «Барыс Кіт. Праз церні да зораў», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**08.50** Беларусы ў Польшчы.
**09.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 1 серыя.
**10.25** Чаму дэмакратыя? «Прашу галасаваць за мяне».
**11.20** Аўтаспынам па Беларусі : Альтэрнатыўныя крыніцы энергіі ў практыцы ды экалагічнае мастацтва.
**11.35** Моўнік: Лісты з замежжа.
**11.45** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**12.25** «Таямніца Сагалі», серыял: 7 серыя.
**12.50** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**13.45** «Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**14.40** «Прыстань», прыгодніцкі серыял: 1 серыя.
**15.25** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Ляпіс Трубяцкі».
**16.35** «Да смерці трэба паспець», дэтэктыў, 2010 г., Канада.
**18.05** «Лебядовыя гады», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**18.40** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.00** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**19.15** «Расавая гігіена», дак. фільм, 2007 г., Францыя.
**20.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Лаўрэнцій Зізаній.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.00** Размовы эксперта.
**21.15** Фільматэка майстроў: «Вікі Крыстына Барселона», камедыя, 2008 г., ЗША.
**22.50** Лета з дэтэктывам: «Зграя», сенсацыйны серыял: 1 серыя.
**23.50** «Глыбокая вада», серыял: 2 серыя.
**00.35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Ляпіс Трубяцкі».

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 3012741108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА — ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 — Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# Спірытуальная атамная бомба

Алег НОВІКАЎ

**50 гадоў таму, у маі 1964-га, пабачыў свет цытатнік Маа Дзэдуна (Малая чырвоная кніжка Маа), які па накладу дасюль утрымлівае тытул другой пасля Бібліі кнігі ў гісторыі.**




Нягледзячы на тое, што Маа называў сябе марксістам-ленінцам, а значыць, быў паслядоўным матэрыялістам, яго цытатніку прыпісваліся метафізічныя якасці. У 1960–1970-я гады кітайцы ўсур'ёз лічылі, што цытаты Вялікага старшыні маюць чароўны эфект. На рацэ Янцзы знаходзіцца помнік у гонар гераічнага чыну мясцовых сялян. Неяк яны так начыталіся выразаў Маа Дзэдуна, што вырашылі абараніць ураджай ад кепскага надвор'я. Паводле надпісу на мануменце, на подзвіг аграрыяў натхніла наступная фраза Маа: «Прасякнутым рашучасцю, не баяцца ахвяр, ісці на пераадоленне любых цяжкасцяў для заваёвы перамогі!»

Кітайскі афіцыёз 1960–1970-х гадоў ахвотна пісаў пра падобныя цуды. Напрыклад, паведамлялася, што нейкі жаўнер, прачытаўшы кніжку Маа, зразумеў, як больш эфектыўна кастрыраваць парася.

Дарэчы, калі фрагмент кніжкі цытаваўся ў прэсе, то яго абавязкова было патрэбна выдзеліць тлустым шрыфтам. А псаванне кнігі адразу разглядалася як крымінальнае злачынства. Звычайна, за гэта саджалі ў турму.

Была распрацаваная цэлыя методыка правільнага вывучэння цытатаў Маа. Яго кнігу трэба было штудзіраваць у тым ліку падчас працы. Лічылася, што гэта не адцягвае працоўных ад працы, а наадварот, прымушае іх мабілізавацца і працаваць больш эфектыўна. На карцінах і плакатах таго часу практычна ўсе выяўленыя кітайцы (акрамя, натуральна, самога Маа) абавязкова трымаюць у руках яго цытатнік.

Кіраўніцтва Кампартыі паставіла перад адпаведнымі органамі заданне — кожны кітаец павінен мець экземпляр цытатніка. Паколькі на той час у краіне жыло 740 мільёнаў чалавек, пытанне пра тое, якім павінен быць наклад, было вырашана аўтаматычна. Каб надрукаваць такую колькасць кніжак, давялося нават ствараць новыя друкарні. Яшчэ паўтара мільёна экземпляраў надрукавалі на 12 мовах для замежных прыхільнікаў Маа. Нядзіўна, што хутка Маленькая чырвоная кніга прысутнічала ў кніжных крамах па ўсім свеце.

Увогуле, сама ідэя кнігі з'явілася ў структурах Мінабароны. У 1961 годзе тагачасны міністр абароны Лінь Бяа патрабаваў, каб ведамасная газета штодня друкавала адзін з выразаў правадыра. Для гэтага супрацоўнікам рэдакцыі прыйшлося перапалапіць тэксты шматлікіх выступаў, твораў, інтэрв'ю Маа. У выніку ў рэдакцыі адфільтравалі каля 200 выразаў. Памер цытатаў быў вельмі розны — ад аднаго сказу да разгорнутай развагі ў некалькі абзацаў. Іх сартавалі па 33 тэматычных рубрыках: вайна, камунізм, эканоміка, культура і г.д.

У 1964 годзе нарадзілася ідэя выдаць тыя цытаты асобным зборнікам. Адначасова былі прыдуманы славуты дызайн вокладкі глыбокага чырвонага колеру. Хутка кніга стала іконай для рэвалюцыянераў усяго свету.

Самае цікавае, што цытатнік ішоў на ўра не толькі ў трэцім свеце, аднак і на Захадзе. Лепшым прыкладам тут з'яўляецца культавая стужка славутага французскага рэжысёра Жана-Люка Гадара «Кітаянка», якая выйшла на экраны ў 1967 годзе і атрымала спецыяльную прэмію ў Венецыі. Карціна распавядае пра секту французскіх маладых мааістаў, якія вывучаюць працы Маа і марадзь забіць пасла СССР у Францыі за тое, што ён, на іх думку, аказаўся рэвізіяністам.

Тое, што Маленькая чырвоная кніжка Маа стала культавай сярод моладзі і інтэлектуалаў Захаду, здаецца нонсэнсам. Што цікавага сур'ёзны чалавек можа знайсці ў катэгарычных выразах накшталт: «Вінтоўка нараджае ўладу!» або «Нічога страшнага, што пасля атамнай вайны на зямлі застанецца жыць палова чалавецтва». Дасюль сацыякультурны феномен папулярнасці мааізму на Захадзе ў 1970-я гады цалкам не даследаваны. Напрыклад, вядомы французскі філосаф Ален Бадзьё піша пра тое, што літаратурныя выкрутасы Маа захаплялі маладых еўрапейцаў сваім гераічным абсурдам, катэгарычным адмаўленнем буржуазнага ладу жыцця. Так ці інакш, бум мааізму і інтарэсу да цытатніка Маа быў настолькі павальны, што адзін з тагачасных палітолагаў назваў той зборнік «Спірытуальная атамная бомба».

**Псаванне Маленькай чырвонай кнігі адразу разглядалася як крымінальнае злачынства. Звычайна, за гэта саджалі ў турму**

Пры гэтым заходнімі мааістамі абсалютна ігнараваўся адмоўны бок культурнай рэвалюцыі і эканамічных эксперыментаў Маа. Напрыклад, яны адмаўлялі факт галадамору ў Кітаі ў 1950-я гады, які забраў жыцці 40 мільёнаў чалавек.

Парадаксальна, аднак Маа захапляліся і яго ідэйныя праціўнікі — ультраправыя. У Італіі падчас моды на Маленькую кніжку Маа нарадзілася такая незвычайная з'ява, як маа-нацызм. Да яе можна аднесці групоўку «Lotto di Popolo». У працах Маа неанацыстам вельмі падабаліся пасажы супраць амерыканскай гегемоніі.

Асобны лёс мела Маленькая чырвоная кніжка ў Савецкім саюзе, які пры Хрушчове вельмі пасварыўся з Кітаем. У СССР кніга Маа лічылася такой жа крамолай, як Дэкларацыя праў чалавека. Прыхільнікі Сталіна (менавіта яны стваралі касцяк савецкіх мааістаў) канспектавалі цытаты Маа, тайна слухаючы трансляцыі Радыё Пекіна. У Маа ім больш за ўсё падабаліся тэзісы пра бюракратычнае перараджэнне Савецкага Саюзу.

Самае смешнае, што ў Кітаі кніжкі Маа хутка сталі таксама крамолай. Як азначалася вышэй, асноўным ініцыятарам росту накладаў «цытатнікаў» і яго распаўсюду быў паплечнік Маа маршал Лінь Бяа. Аднак у 1971 годзе ён трапіў у апалу. Пасля яго смерці распаўсюд кнігі прынініл. А пасля смерці Маа і суда над арганізатарамі культурнай рэвалюцыі (1976 год), і асабліва пры Дэн Сяапіне (канец 1970-х — 1980-я гады), арганізаванае вывучэнне цытат было цалкам спынена, а выкарыстанне цытатніку падчас аргументацыі стала лічыцца праявай левага ўхілу і падтрымкай культу асобы.

Зараз кнігі Маа ператварыліся ў кіч для турыстаў. У кітайскіх гарадах гандляры намагаюцца уцюхаць іх інтурыстам у адным флаконе з кепкай фасону, якую насіў Маа, або з майкай, на якой ён выяўлены. Праўда, як піша прэса, існуе іншы рынак Маленькіх чырвоных кніжак. Яго кліентамі з'яўляюцца тыя, хто настальгуе па Маа і гатовы аддаць любыя грошы за тое, каб стаць уладальнікам цытатніка першага накладу 1964 года.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Арганізацыя чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску атрымала высокія ацэнкі спартовых экспертаў. Нават палітычныя апаненты прэзідэнта Лукашэнка прызнаюць: рахунак 1:0 на яго карысць. Разам з тым ацэнка фінансавай эфектыўнасці чэмпіянату, перспектыў далейшага выкарыстання пабудаваных да гульняў спартовых аб'ектаў і гасцінічных комплексаў пагражае не адной лыжкай дзёгцю ў бочку цяперашняга параднага мёду.

**«BBC» (Вялікабрытанія)**

Пра магчымасць запазычання кітайскага досведу неаднаразова выказваўся прэзідэнт Лукашэнка. У прыватнасці, яго прыцягвала выдатнае спалучэнне камуністычных ідэй з «цвёрдым капіталістычным падыходам да арганізацыі вытворчасці». Праўда, у экспертным асяроддзі існуе нейкі скепсіс адносна таго, што «кітайцы ўгавораць» Лукашэнку на рэформы. Рэальна ён зможа на іх рашыцца ў тым выпадку, калі пазбавіцца падтрымкі Расіі, як было ў 2008–2010 гадах. Пакуль жа ў адносінах саюзніц усё добра. На позве дня стварэнне Еўразійскага саюзу, за ўдзел у якім Беларусь атрымае чарговыя расійскія крэдыты.

**«Независимая газета» (Расія)**

Эксперты сыходзяцца ў меркаванні – казаць пра тое, што даў ЧС Беларусі і які доўгатэрміновы эфект ад яго для краіны-гаспадыні, можна толькі праз пэўны час. Аднак ужо цяпер зразумела, што меркаванні і ацэнкі прыкметна разыходзяцца. Афіцыйныя СМІ сцвярджаюць, што атмасфера грандыёзнага свята пакіне Мінск яшчэ не хутка. Большасць незалежных аналітыкаў больш стрыманы ў ацэнках. Разам з тым адзначаецца, што міліцыя падчас чэмпіянату не затрымлівала людзей за скандаванне лозунгу: «Жыве Беларусь», што ў любой іншай сітуацыі амаль заўсёды было б нагодай для адміністрацыйнага арышту. А аналітыкі нагадваюць, што сумеснае заўзенне за сваіх спартоўцаў з'яўляецца будаўнічым для нацыі фактарам, што важна для Беларусі, дзе ёсць відавочныя праблемы з самаідэнтыфікацыяй.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Плацёжны баланс РБ аказаўся ў крытычным стане, асабліва пасля закрыцця «раствaральнага» бізнэсу. Дэфіцыт бягучага рахунку з улікам экспартных мыт на вывазныя нафтапрадукты і выдаткаў па абслугоўванні замежных крэдытаў дасягнуў 7,3 мільярда долараў, што толькі на мільярд менш, чым у 2010-м (8,3 мільярда), што папярэднічала дэвальвацыйнаму крызісу вясны 2011 года. Так што пацверджаны крэдыт Масквы і выгандляваная ў яе саступка па вывазных мытах на нафтапрадукты вельмі дарэчы, каб «дзень прастаяць і ноч пратрымацца».

**«ELITETRADER» (Расія)**

Пасля Крыму можна чакаць, што аднойчы сур'ёзныя людзі ў Крамлі задумаюцца пра канчатковае рашэнне беларускага пытання. Тым больш, што тэхнічна гэта магчыма: рэспубліка мае агульную мяжу з Расіяй (досыць працяглую і зусім умоўную) і наводненая расійскімі войскамі. Момант праўды можа наступіць у самы блізкі час. Увосень 2015 года адбудуцца выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Усе ўпэўнены, што ведаюць прозвішча пераможцы загадзя, а прынцыповымі апанентамі дзейснага прэзідэнта стануць празаходнія апазіцыянеры. Аднак жыццё штораз паказвае, што аперавацьштампамі бесперспектыўна і шкодна. У адзін цудоўны дзень супраць Лукашэнкі могуць падняцца не празаходнія лібералы-нацыяналісты «пад бел-чырвона-белым сцягам», а прарасійскія савецкія патрыёты, падперазаныя георгіеўскай стужачкай, з партрэтамі Пуціна і Леніна-Сталіна.

**«Sensus Novus» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Канец гісторыі, які не наступіў

Споўніла чвэрць стагоддзя з таго дня, калі ў маі 1989 года на старонках амерыканскага часопісу «The National Interest» пабачыла свет эсэ «Канец гісторыі» філосафа Фрэнсіса Фукуямы. Гэта эсэ зрабіла яго адным з самых вядомых мысляроў 1990-х гадоў. Напісанае на фоне трыумфальнага шэсця аксамітных рэвалюцый ва Усходняй Еўропе, эсэ абвяшчала прыход новай эры, якая пакладзе канец усім канфліктам і дазволіць народам жыць у гармоніі. Кансенсусам для новай эпохі аўтар лічыў універсальную ліберальную тэорыю як кульмінацыю ідэалагічнай эвалюцыі чалавецтва, якой на той момант, сапраўды, падавалася, што няма альтэрнатывы. Тэзісы Фукуямы былі прынятыя як компас лідарамі Захаду і не былі прадметамі рэвізіі роўна да трагічнай раніцы 11 верасня 2001-га, калі Аль-Каіда атакавала ЗША. Стала відавочна, што вялікая частка ісламскага свету адмаўляе ліберальныя каштоўнасці. Цяперашні эканамічны крызіс прадэманстраваў хібы капіталістычнай мадэлі развіцця і натхніў на пратэсты супраць тэорыі «Канца гісторыі» нават саміх амерыканцаў. Яшчэ раней, у 2006-м, пасля інтэрвенцыі ЗША у Ірак, Фукуяма публічна адмовіўся ад сваіх поглядаў. У любым выпадку, усе прызнаюць, што без эсэ Фукуямы цяжка зразумець святочную атмасферу, якая ахапіла людзей напрыканцы 1980-х гадоў, калі яны сапраўды верылі ў тое, што аўтарытарным рэжымам ва ўсім свеце прыйшоў канец.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Легалізавана якуцкае паганства

Мінюст РФ зарэгістраваў арганізацыю вернікаў «Аар Айыы», тым самым афіцыйна прызнаўшы старажытную рэлігію якуцкага народа, якая была шырока распаўсюджаная ў рэгіёне да канца XVII стагоддзя, калі якутаў пачалі масава пераводзіць у праваслаўе. «Колькі людзей цяпер верыць у айыы, нам невядома. Наша рэлігія вельмі старажытная, але з прыходам у Якуцію хрысціянства яна страціла многіх вернікаў, аднак у народзе заўсёды былі паслядоўнікі айыы. Раней у нас не было пісьменства, і ўсю інфармацыю людзі перадавалі з вуснаў у вусны. А да таго часу, як у Якуціі з'явілася пісьмо, сюды — у сярэдзіне XVII стагоддзя — прыйшло праваслаўе, — сказала кіраўнік арганізацыі «Рэлігія Аар Айыы» Аўгустына Якаўлева. — Цалкам наша рэлігія не адпавядае ні адной іншай. Мы молімся вышэйшым сілам пад адкрытым небам, у нас няма храмаў». Свет ва ўяўленні паслядоўнікаў айыы падзелены на тры часткі: падземны — Алараа Дайду, дзе жывуць злыя духі, сярэдні свет — Орта Дайду, дзе жывуць людзі, і верхні — Юхээ Дайду, месца знаходжання багоў. У якасці ахвярапрынашэнняў выкарыстоўваюцца малочныя прадукты і расліны. Цікава, што маскоўскія медыя заўсёды пужалі рускамоўнае насельніцтва Якуціі тым, што якуцкія нацыяналісты ў выпадку перамогі збіраюцца зрабіць Аар Айыы дзяржаўнай рэлігіяй у рэгіёне.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Ліхаманка Эбала дапаможа супраць іміграцыі

Такі радыкальны сродак прапанаваў Жан Мары Ле Пэн, былы кіраўнік Нацыянальнага Фронту. Выступаючы на мітынгу ў Марсэлі, Ле Пэн сказаў: «Спадар Эбала можа вырашыць праблему эміграцыі за тры месяцы». Заява проста шакавала французскае і сусветнае грамадства. Як вядома, ліхаманка Эбала — адна з самых смяротных хвароб, супраць якой дасюль



чалавецтва не знайшло сродкаў. У выпадку з'яўлення, ліхаманка можа забіць да 90 працэнтаў тых, хто мае кантакт з хворым. Выказванне Ле Пэна падаецца яшчэ больш шакуючым у кантэксце навінаў з Новай Гвінеі, дзе на днях зарэгістраваны выбух эпідэміі. На цяперашні момант 70 чалавек знаходзяцца ў шпіталях. У сувязі з гэтым арганізацыя Amnistia Internacional нават заклікала прэсу не цытаваць Ле Пена, паколькі яго словы парушаюць прынцыпы гуманізму. Дарэчы, Ле Пэн — яшчэ і аўтар шэрагу выказванняў, у якіх адмаўляўся Халакост.

**Паводле іспанскай прэсы**



# Плюсы і мінусы Пятра Парашэнкі

*Алег НОВІКАЎ*

**Міжнародная прэса дае самыя процілеглыя ацэнкі асобы Пятра Парашэнкі і перспектыў яго прэзідэнцтва.**

Так атрымалася, што ўкраінцы практычна не заўважылі важную падзею ў сваёй сучаснай гісторыі. На ўсіх папярэдніх выбарах украінскіх прэзідэнтаў перавагі выбаршчыкаў дзяліліся строга па геаграфічным прынцыпе — прарасійскія погляды дэманстравалі ўсход і паўднёвы ўсход краіны, нацыяналістычныя — заходняя і цэнтральная частка Украіны. І вось нарэшце ўся нацыя больш-менш аб'ядналася вакол аднаго палітыка. Тое, што ніхто асабліва не святкуе трыумф саборнасці, можна перш за ўсё патлумачыць вялізарным комплексам праблем, з якім сутыкнулася цяпер украінская дзяржава. Не дарма газета «The Wall Street Journal» (ЗША) піша, што перамога Парашэнкі стала «адлюстраваннем маштабу ўзроўню трывогі ўкраінскага электарату».

Ці здольны Пётр Парашэнка ўзяць на сябе місію выратавальніка нацыі? Тут адзінай думкі няма.

Песімісты звяртаюць увагу на не самыя лепшыя асабістыя якасці новага гаранта. Сайт азербайджанскай апазіцыі «Haqqin.az» узгадвае: «Пётр Парашэнка ніколі не быў на першых ролях. Ён ствараў палітычныя партыі, але яго адціскалі ў іх на другі план. Ён быў адным з самых актыўных прыхільнікаў Віктара Юшчанкі і разлічваў на прэм'ерства — але пасада прэм'ера дасталася Юліі Цімашэнка. Ён спрабаваў захаваць сваё месца ва ўладзе пасля перамогі Віктара Януковіча, але ў яго адабралі партфель міністра замежных спраў...»

Адсутнасць належнай палітычнай волі ў Парашэнкі дазваляе некаторым СМІ параўноўваць яго з Віктарам Юшчанкам. Тым больш, што Парашэнку, як і ў свой час Юшчанку, давядзецца працаваць ва ўмовах парламенцкай рэспублікі. Перш за ўсё, яму неабходна будзе знайсці вектар узаемадзеяння з Вярхоўнай радай, дзе тон будзе задаваць канфліктная Юлія Цімашэнка. Адначасова прыйдзецца ўлічваць нарастаючы ціск грамадства на ўладу, што непазбежна ва ўмовах эканамічнага крызісу. Манеўранасць Парашэнкі таксама можа аслабіць залежнасць ад замежных цэнтраў.

На думку заходняй прэсы, слабым бокам Парашэнкі з'яўляецца яго сувязь з алігархатам, што супярэчыць лозунгам Майдану. «Галоўныя фігуры, такія, як Пётр Парашэнка, Юлія Цімашэнка і Арсень Яцанюк, лічацца рэшткамі ранейшага рэжыму, паколькі добра вядома, што яны валодалі асабістым багаццем і прывілеямі, калі знаходзіліся ва ўладзе або не знаходзіліся ў ёй. Цяжка зразумець, якім чынам будучы ўрад у Кіеве, які складаецца з такіх фігур, зможа заваяваць давер ветэранаў Майдана або дамовіцца з паўднёва-ўсходнімі сепаратыстамі, якія адмаўляюць легітымнасць украінскай дзяржавы як такой. А ўжо тым больш, як яму ўдасца прымірыцца адначасова і з тымі, і з іншымі», — піша «The Washington Post».

«The Washington Post» у гэтай сувязі таксама адзначае парадокс, калі выратоўваць краіну ад алігархаў мабілізаваны алігарх. Выданне піша: «У немалой ступені дзякуючы расійскай агрэсіі алігархі, супраць якіх разам з прэзідэнтам-бандытам Віктарам Януковічам былі накіраваны пратэсты Майдана, пасля рэвалюцыі яшчэ больш умацавалі свае пазіцыі. Пётр Парашэнка ідзе да ўлады дзякуючы тым людзям, чыё драпежніцкае разрабаванне ўкраінскай дзяржавы і прывяло да стварэння таго эканамічнага хаосу, з якім павінен пакончыць новы ўрад».

Шмат хто прызнае, што Парашэнку будзе цяжка знайсці кампраміс у краіне, дзе вялікую ролю гуляюць экстрэмісцкія парамілітарныя фармаванні. «The National Interest» (ЗША) піша: «Выступаючы са сцэны і робячы заявы, Пётр Парашэнка і іншыя палітыкі абяцаюць знайсці баланс паміж прымірэннем з рускамоўным паўднёвым усходам і ўзмацненнем адзінай нацыянальнай ідэнтычнасці Украіны. Але ні актывісты Майдана, ні сілы самаабароны, якія з часам вернуцца з Данбаса ў Кіеў, не вераць гэтым абяцанням».

Цяпер пра плюсы. Якія плюсы ёсць у Парашэнкі? Па-першае, гэта талент адміністратара і эканаміста. Кітайская прэса звяртае ўвагу на менеджарскія якасці палітыка: «У Пятра Парашэнкі за плячыма вопыт вялізнага камерцыйнага поспеху. Ва ўсялякім выпадку, ён адкажа на адно пытанне: што складаней, пабудаваць гандлёвую імперыю ці кіраваць дзяржавай? Калі яму ўдасца вывесці Украіну з крызісу, павага да яго з боку сусветнай грамадскасці вырасце шматкроць».

Па-другое, у Парашэнкі ёсць статус выразніка інтарэсаў усёй Украіны. «Пётр Парашэнка атрымаў незвычайную перавагу ў першым раўндзе выбараў, перамог па ўсёй краіне, уключаючы ўсходнія рускамоўныя рэгіёны, якія змаглі прыняць удзел у галасаванні», — нагадвае французская газета «Le Monde». Гэты факт, на думку выдання, дазваляе Парашэнку пабудаваць сабе імідж нацыянальнага лідара і актыўна выкарыстоўваць яго як аргумент у палеміцы з апанентамі.

Нарэшце, Парашэнка, хаця і кажа, што не дапусціць Самалі на Данбасе, выказвае гатоўнасць на мірныя перамовы з сепаратыстамі. Такі падыход спадабаўся нават часткі маскоўскай публікі. На думку «Московского Комсомольца», галоўнае, што павінен зрабіць Парашэнка, — «вярнуць украінскай палітыцы здаровы сэнс, спыніць падзенне ў багну і паступова пачаць зваротны працэс». «Новы лідар краіны павінен вярнуцца да класічных каштоўнасцяў украінскай палітыкі — каштоўнасцяў кампрамісу, — адзначаецца ў артыкуле. — Калі Парашэнка наладзіць перамоўны працэс, то з'явіцца шанец рэалізаваць галоўную цяперашнюю мару ўкраінскага выбаршчыка — далучыць Украіну да Захаду, пры гэтым мірна існуючы побач з Расіяй».

У якасці рэзюмэ можна сказаць, што ўсе адзначаныя вышэй плюсы і мінусы — прадукт суб'ектыўнай думкі экспертаў. Якім сапраўды будзе пяты прэзідэнт Украіны і яго палітыка, залежыць яшчэ і ад самога Пятра Парашэнкі.

# Рэгіёны рвуцца да ўлады

Алег НОВІКАЎ

**Партыя Індыйскі нацыянальны кангрэс (INC), сімвалам якой з'яўляецца палітычная дынастыя Гандзі, катастрафічна прайграла выбары. На авансцэну індыйскай палітыкі выйшлі новыя сілы ў выглядзе рэгіянальных партый.**



За час існавання Індыйскага нацыянальнага кангрэсу, які быў створаны аж у 1885 годзе, было шмат і добрага і кепскага. У тым ліку мелі месца і правалы на выбарах. Аднак такой катастрофы партыя дакладна яшчэ не ведала. На майскіх выбарах у парламент INC атрымаў толькі 19 працэнтаў галасоў. Нагадаем, што перамогу святкавала «Бхара́ція джа́ната па́рці» (BJP) — Індыйская народная партыя. Як вынік — у ніжняй палаце індыйскага парламента будзе засядаць усяго 42 прадстаўнікі INC.

З моманту здабыцця Індыяй незалежнасці прыкладна да сярэдзіны 1960-х гадоў у партыйна-палітычнай сістэме краіны INC быў вядучай партыяй, прычым на ўсіх дзяржаўных узроўнях. З дзейнасцю INC звязаны цэлы шэраг важных пераўтварэнняў у сацыяльна-эканамічным жыцці краіны. Са з'яўленнем партыі BJP (пераемніца партыі «Бхарація джана сангх») паўсталі перадумовы да ператварэння індыйскай партыйнай сістэмы ў двухпартыйную, хаця яна яшчэ некаторы час заставалася шматпартыйнай з адной дамінуючай партыяй. Тэндэнцыя да двухпартыйнасці выразна выявілася ў 1977 годзе, калі апазіцыя ўпершыню перамагла на парламенцкіх выбарах INC і сфармавала свой урад.

З таго часу INC і BJP некалькі разоў мяняліся каля руля кіравання краінай. Пры гэтым прыкладна з сярэдзіны 1990-х гадоў склалася сітуацыя, пры якой ні адна агульнанацыянальная партыя не магла самастойна забяспечыць сабе трывалую большасць у парламенце і стварыць стабільны аднапартыйны ўрад. Такім чынам, узнікла формула, паводле якой буйная нацыянальная партыя можа сфармаваць урад толькі ў кааліцыі з шэрагам рэгіянальных партый.

Індыйскія рэгіянальныя партыі — дастаткова цікавая з'ява. Рэгіянальныя партыі пачалі стварацца ў Індыі яшчэ да абвяшчэння незалежнасці. Напрыклад, у часы брытанскага каланіялізму існавала партыя тамілаў, якая заклікала да стварэння тамільскай незалежнай дзяржавы ў выпадку дэкаланізацыі Індыі. Была свая партыя ў сікхаў, якія патрабавалі стварыць для сікхаў асобную адміністратыўную адзінку.

Што тычыцца іншых рэгіёнаў, то тут рэгіяналісты паўсталі ў рамках пратэстаў пачатку 1950-х гадоў на хвалі кампаніі супраць надання хіндзі статусу афіцыйнай мовы. На месцах баяліся, што наступствам такога моўнага закону будзе татальная культурная асіміляцыя нацыянальных меншасцяў. У выніку рэгіёны перамаглі. У цяперашняй рэдакцыі індыйскай канстытуцыі дзяржаўны статус маюць 18 моваў. Акрамя таго, штатам далі поўную аўтаномію ў гэтай сферы. Не дзіўна, што некаторыя індыйскія штаты маюць некалькі афіцыйных моваў. Рэкорд трымае штат Сікім, што на паўночным усходзе краіны, у Гімалаях. Тут дзяржаўнымі прызнаны чатыры мовы.

**З моманту здабыцця Індыяй незалежнасці прыкладна да сярэдзіны 1960-х гадоў у партыйна-палітычнай сістэме краіны INC быў вядучай партыяй, прычым на ўсіх дзяржаўных узроўнях**

Працэс стварэння новых партый у рэгіёнах па сутнасці працягваецца дасюль. Ёсць шмат рэзонаў, каб ствараць рэгіяналісцкія партыі. Напрыклад, супярэчлівыя межы паміж штатамі. У штаце Асам даўно патрабуюць адміністратыўна-тэрытарыяльнай рэформы, што стала прычынай стварэння рэгіянальнай партыі. Вельмі часта лакальныя партыі ўзнікаюць на базе расколаў філіялаў нацыянальных партый. Так узнікла, напрыклад, партыя All India Trinamool Congress у Заходняй Бенгаліі. Лакальная радыкальная індуісцкая партыя Shiv Sena ў Бамбеі ўзнікла падчас кампаніі супраць таго, каб мясцовыя прадпрыемствы бралі на працу гастарбайтэраў з іншых штатаў.

Сярод лакальных партый, якія з'явіліся ў 1950-я гады, сустракаліся вельмі радыкальныя. Так, у праграме вядучай тагачаснай тамільскай партыі DMK пункт аб неабходнасці стварэння незалежнай дзяржавы знік толькі напрыканцы 1970-х гадоў. У дадатак некаторыя партыя ледзь не адкрыта падтрымлівалі вайсковае нацыяналістычнае падполле. Тая ж DMK сімпатызавала тэрарыстычнай арганізацыі «Тыгры вызвалення Таміл-Ілама», якая дзейнічае на Шры Ланцы. Блізкай ды ісламскіх тэрарыстаў нейкі час была партыя Akali Dal — арганізацыя сікхаў з Пенджабу.

Аднак паступова рэгіянальныя партыі перайшлі на больш рэфармісцкія пазіцыі і адмовіліся ад ідэі выхаду са складу індыйскай федэрацыі. Аналіз іх цяперашніх праграмных пастулатаў дазваляе запісаць рэгіяналістаў у падвід сацыял-дэмакратаў або сацыял-папулістаў. Пачынаючы з 1990-х гадоў, дайшло да таго, што некаторыя з рэгіяналістаў падчас нацыянальных выбараў сталі заключаць тактычныя саюзы з тымі ж індуісцкімі нацыяналістамі, якія, па іх словах, быццам, намагаюцца цалкам зачысціць Індыю ад неіндуісцкага насельніцтва.

Аднак цяпер яны больш не задаволеныя роляй малодшага партнёра. Як паведамляе ўплывовая газета «The Hindu», некалькі рэгіяналісцкіх партый у парламенце вырашылі стварыць альянс, каб разам выступаць на нацыянальным узроўні. Галоўны нюанс у тым, што колькасна ў рэгіяналістаў больш мандатаў, чым у INC. Гэта значыць, што менавіта яны будуць выконваць функцыю апазіцыі ўраду BJP, а INC страціць гэту ролю.

У Індыі апазіцыю паважаюць, і ёй надаюць прывілеі. Па традыцыі, лідар самай вялікай апазіцыйнай фракцыі ў парламенце атрымлівае пасаду віцэ-спікера. Прадстаўніку апазіцыі таксама даюць пасаду кіраўніка рэвізійнай камісіі па фінансавых і бюджэтных пытаннях. Праўда, каб стаць галоўнай апазіцыйнай сілай, рэгіяналістам трэба яшчэ знайсці паміж сабой агульную мову. Усяго ў кааліцыі вырашылі ўдзельнічаць тры партыі — Біджу джаната дал, Усеіндыйская федэрацыя дравідскага прагрэсу імя Анадураі і All India Trinamool Congress. У выпадку пагаднення, фракцыя новага блоку будзе ўключаць 91 парламентарыя.

Калі паглядзець гісторыю згаданых партый, можна заўважыць, што ўсе яны маюць выразны персаналісцкі характар. Ці змогуць правадыры знайсці агульную мову, мы даведаемся вельмі хутка. Прынамсі, яны самі папрасілі на кансультацыі адзін тыдзень. Калі праект з аб'яднаннем у рэгіяналістаў атрымаецца, Індыйскаму нацыянальнаму кангрэсу, відавочна, пагражае маргіналізацыя. У глабальным вымярэнні гэта будзе значыць, што двухпартыйная сістэма ў Індыі можа стаць трохпартыйнай.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Артур Мас



Старшыня генералітэту Каталоніі (або, прасцей кажучы, прэм'ер-міністр рэгіёну) ад імя ўраду падаў заяву на ўступленне Каталоніі ў якасці назіральніка ў Міжнародную арганізацыю франкафоніі (OIF), якая займаецца прапагандай французскай мовы і культуры. У прынцыпе, жаданне лагічнае, асабліва з улікам таго, што гістарычна французская мова моцна паўплывала на каталонскую. Аднак у дадзеным выпадку гісторыя мае іншы прысмак. У Мадрыдзе заяву Барселоны на ўступленне ў шэрагі франкафонаў трактавалі як асцярожную спробу дабіцца прызнання Каталоніі на міжнародным узроўні ў якасці асобнага міжнароднага суб'екта. Тым больш, што Артур Мас не папярэдзіў іспанскі ўрад пра свой крок. У сваю чаргу, Барселона кажа, што ніякай палітыкі тут няма. Іншыя рэгіёны ў свеце, напрыклад, рэгіён Валонія (Бельгія) або Квебек (Канада) таксама ўдзельнічаюць у руху OIF без згоды цэнтральнага ўраду. Фармальна, рашэнне аб уступленні Каталоніі павінна быць прынятае ў лістападзе гэтага года. А ў кастрычніку ў Каталоніі пройдзе рэферэндум аб незалежнасці.

### Абдулазіз Камілаў



Міністр замежных спраў Узбекістану працягвае змагацца за вобраз узбекаў у замежных СМІ. Перш за ўсё, гаворка ідзе пра расійскі канал «Домашний». У сетцы праграм каналу ёсць сатырычнае шоў «Адна за ўсіх», персанажам якога ў тым ліку з'яўляецца Зарыда — узбекская сцюардэса. Камічная трактоўка ўзбекскай жанчыны не дае спакою Ташкенту, які лічыць вобраз Зарыды амаральным. Яшчэ год таму тэлеканал «Домашний» негалосна проста забаранілі ва Узбекістане. Аднак гэта не спыніла расійскіх шоўмэнаў. І вось канфлікт перайшоў на больш сур'ёзны ўзровень. Расійскаму МЗС накіраваная нота пратэсту. Тон вельмі жорсткі: «ствральнікі перайшлі тую тонкую мяжу, якая аддзяляе праставаты гумар ад грубасці. Яны надалі бяскрыўднаму скетчу характар адраснай абразы цэлага народа», — паведамляе МЗС. Увогуле, усё гэта падобна на жарт. Аднак ёсць адна праблема. Прыгоды Зарыды на экране адбываюцца на борце зарэгістраванай кампаніі «Узбекскія авіялініі». У МЗС Узбекістана ўжо далі зразумець, што наступствам працягу шоў можа стаць вялізарны іск дырэкцыі «Узбекскіх авіяліній» да стваральнікаў вобразу Зарыды. Нагадаем, што гэта не першы скандал такога кшталту. Раней таджыкскі МЗС патрабаваў ад стваральнікаў шоу «Наша Раша» прыпыніць здымкі эпізодаў пра таджыкскіх гастарбайтэраў Раўшана і Джамшута.

### Штэфан Эк



Старшыня нямецкай Партыі абарона жывёл (Tierschutzpartei) па выніках выбараў у Еўрапарламент атрымаў мандат дэпутата, чым, магчыма, адчыніў новую старонку ў еўрапейскай палітыцы. У прынцыпе, у Еўрапарламенце хапала і раней эколагаў, аднак Штэфан і яго аднапартыйцы — нешта асаблівае. Партыя абароны жывёл прапануе ўпісаць у канстытуцыю ФРГ пункт пра забарону антрапацэнтрысцкай тэорыі, паводле якой у цэнтры ўсяго знаходзіцца чалавек. На думку абаронцаў жывёл, апошнія маюць такія ж правы, як і людзі. Адсюль патрабаванне забароны здзекаў з жывёл, забарона эксперыментаў над імі, эксплуатацыя і г.д. Ідэальная дзяржава, на думку ідэолагаў Tierschutzpartei, таксама павінна займацца прапагандай веганізму (адмова ад спажывання прадуктаў жывёльнага паходжання) на афіцыйным узроўні. Як ні парадаксальна, незвычайная праграма абаронцаў жывёл карыстаецца заўважнай падтрымкай электарату, асабліва сярод жанчын, якія складаюць каля 70 працэнтаў прыхільнікаў партыі. Створаная ў 1993 годзе арганізацыя прыкладна з 2004-га збірае каля 1–2 працэнтаў на кожных выбарах. Дзякуючы адмене на гэтых еўравыбарах у ФРГ прахаднога бар'еру, партыя Штэфана Эка здолела трапіць у Брусэль. Не выключана, што па ходу крызісу старых партый інтарэс да абаронцаў жывёл будзе расці. Як вядома, людзі ўсё часцей разглядаюць хатніх жывёл як чальцоў сваіх сямей, што адлюстроўваецца і на электаральных сімпатыях.





Леснікі ў Заходняй Беларусі


Гаявыя ў Белавежскай пушчы

# Таямніца аднаго забойства

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**70 гадоў таму пад Валожынам быў забіты кіраўнік Дзяржаўнай дырэкцыі лясоў II Рэчы Паспалітай Адам Ларэт. Да сённяшняга дня мала хто ведае абставіны гэтага злачынства.**

## Лясы ратуюць польскую эканоміку

16 студзеня 1919 года быў прыняты дэкрэт Юзафа Пілсудскага аб арганізацыі ўстаноў па ахове лесу. Праз год былі створаны чатыры акругі Дзяржаўнай лясной гаспадаркі з цэнтрамі ў Варшаве, Радаме, Седлецах і Львове, якія курыравала Міністэрства сельскай гаспадаркі і дзяржаўнай маёмасці.

Аднак ужо ў 1924 годзе па распараджэнні прэзідэнта II Рэчы Паспалітай Станіслава Вайцехоўскага ствараецца прадпрыемства «Польскія дзяржаўныя лясы», якое павінна было стаць адным з галоўных флагманаў эканомікі Польшчы. У гэтым сэнсе вялікая ўвага надавалася менавіта тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзе меліся багатыя лясныя масівы.

У 1925 годзе Варшаўскую дырэкцыю ўзгаданай арганізацыі ўзначаліў Адам Ларэт, які ў 1933 годзе стаў генеральным дырэктарам «Польскіх дзяржаўных лясоў».

## Чыноўнік-рэфарматар

Адам Ларэт нарадзіўся ў 1884 годзе. Вучыўся ў Вышэйшай лясной акадэміі ў Львове, а таксама аналагічнай навучальнай установе ў Саксоніі. У перыяд з 1910 па 1920 гады працаваў тэхнікам у маёнтку князя Браніцкага. Пасля адраджэння незалежнасці польскай дзяржавы Адам Ларэт пайшоў на дзяржаўную службу.

Адам актыўна ўдзельнічаў у працы Прафсаюзу леснікоў і гаявых. Па яго ініцыятыве ў 1928 годзе была праведзена рэформа лясной гаспадаркі. Павышаліся


Адам Ларэт

заробкі службы лясной аховы, а «Польскія дзяржаўныя лясы» павінны былі стаць сапраўдным узорам для іншых еўрапейскіх краін. Усе лясныя масівы павінны былі мець дакладныя інвестыцыйныя планы, а таксама меліярацыйныя праекты. Апошняе датычылася, перш за ўсё, заходнебеларускіх ваяводстваў міжваеннай Польшчы.

Таксама прадпрыемства пад кіраўніцтвам Ларэта павінна было ўласнаручна арганізаваць апрацоўку лесу ў лесапілках і продаж кругляка і будаўнічых матэрыялаў як унутры краіны, так і за мяжу.

## Паспяховы менеджар

У перыяд, калі Адам Ларэт быў «галоўным леснікам» Польшчы, у краіне было пабудавана некалькі дзясяткаў новых лесапільных прадпрыемстваў, у тым ліку адно з буйных — у Гайнаўцы. Былі наладжаны лагістыка і транспарт лесаматэрыялаў у заходнееўрапейскія краіны праз польскую фірму «Paged», а таксама порт у Гдыні.

Па ініцыятыве дырэктара быў створаны Навукова-даследчы інстытут Дзяржаўных лясоў, а ў ім аддзел запаведнікаў. У жніўні 1932 годзе быў створаны Белавежскі нацыянальны парк (4693,24 гектара).

У 1923 годзе II Рэч Паспалітую накрыла хваля інфляцыі: кошт долара скокнуў з 18 тысяч польскіх марак да 2 мільёнаў. Гэта прывяло да павялічэння колькасці забастовак у розных сферах прамысловасці. Таксама адзначаўся і рост крымінальных злачынстваў. Новы прэм'ер-міністр Уладзіслаў Грабскі пачаў з грашовай рэформы і ўвядзення злотага, а затым звярнуўся да вырашэння праблемы развіцця экспарту з Польшчы. Тут галоўную ролю адыгрывала менавіта драўніна, даход ад продажу якога павінен быў складаць 1/3 бюджэту краіны.

Тады эканамічную сітуацыю ў Польшчы фактычна выратавалі лясы ў раёне Слоніма і Гродна, дзесяцігадовую канцэсію на высечку якіх атрымала брытанская фірма «The Century European Timber corporation». Аднак у 1929 годзе з падачы Адама Ларэта (ён быў супраць кантракту з замежнікамі, якія, па яго меркаванні, займаліся рабаўніцкай эксплуатацыяй лясоў, і асабліва Белавежскай пушчы) польскія ўлады разарвалі кантракт з заходнімі контрагентамі, за што вымушаны былі заплаціць няўстойку ў 525 тысяч фунтаў стэрлінгаў.

На працягу 1930-х гадоў Адам Ларэт са звычайнага дзяржаўнага служачага ператварыўся ў бізнэсмэна, а яго «Дзяржаўныя лясы» — у паспяховае прадпрыемства, якое фармавала значную частку бюджэту краіны. Акрамя прафсаюзных арганізацый леснікоў, у міжваенны час актыўна дзейнічалі і іншыя структуры гэтай арганізацыі.

Вялікую папулярнасць набылі атрады Грамадзянскай абароны, якія ствараліся з гаявых (PWL). Напярэдадні Другой сусветнай вайны была паменшана лічба дырэкцый Дзяржаўных лясоў, а колькасць надлясніцтваў склала 434. Усяго ў валоданні дзяржавы на тэрыторыі Польшчы было 3,3 мільёна гектараў лясных угоддзяў. Дарэчы, закладзеная Адамам Ларэтам сістэма арганізацыі дзяржаўнай лясной гаспадаркі з невялікімі зменамі захавалася да сённяшняга дня.

## Забытае забойства

Пасля нападу Германіі на Польшчу Адам Ларэт разам з іншымі супрацоўнікамі дырэкцыі, а таксама архівам арганізацыі выехаў на Віленшчыну, дзе размясціўся ў сядзібе Надлясніцтва Налібокі ў Навагрудскім ваяводстве. 16 верасня 1939 года чыноўніку прапанавалі выехаць за межы краіны, аднак ён адмовіўся.

На наступны дзень Чырвоная Армія перайшла «рыжскую мяжу». Галоўны ляснічы II Рэчы Паспалітай вырашыў рухацца на поўдзень, аднак на скрыжаванні дарогі Налібокі-Навагрудак у раёне Смалярні калона машын, у якой ехаў генеральны дырэктар, была затрымана чырвонаармейцамі.

Адзін з відавочцаў арышту Адама Ларэта так апісваў тыя падзеі: «17 верасня мы ехалі праз лес. Ля адной з палян спыніліся. З машыны выйшлі пан Ларэт, яго жонка і супрацоўнікі сакратарыяту. Хутка на дарозе з'явіліся жаўнеры з чырвонымі зоркамі на фуражках».

Ужо праз некалькі дзён на стол Лаўрэнція Берыі лягла справаздача, у якой адзначалася, што ў рукі НКУС трапіла «буйная рыба», кіраўнік «Дзяржаўных лясоў Польшчы» Адам Ларэт. Доўгі час лічылася, што польскі чыноўнік у рангу міністра трапіў у распараджэнне НКУС у Мінску і быў расстраляны савецкімі спецыяльнымі органамі ў Курапатах увесну 1940 года.

Аднак у 2003 годзе ў сямейным архіве сяброўкі сям'і Ларэтаў былі знойдзеныя надрукаваныя на машынцы ўспаміны былога гаявога Францішка Дубіцкага з Белага Берагу на Віленшчыне, якога арыштавалі і трымалі разам з кіраўніком лясной гаспадаркі міжваеннай Польшчы. У гэтым дакуменце апісваюцца абставіны гібелі польскага чыноўніка.

Пасля арышту Адама Ларэта накіравалі ў турму ў Валожын. У адзін з дзён кастрычніка, ці пачатку лістапада 1939 года, Дубіцкага разам з яго шэфам і яшчэ некалькімі арыштаванымі вывелі з камеры і павезлі на працу.

Звернемся да ўспамінаў лесніка Дубіцкага: «На двары турмы было яшчэ шэсць вязняў, сем вазоў з гаспадарамі і каля 15 нкусаўцаў. Вязням сказалі, што яны едуць у лес на працу па нарыхтоўцы лесу для турмы. Праз нейкі час арыштаваныя апынуліся на месцы працы ля ракі Свіслачы, у 10 кіламетрах ад Валожына. Гэта былі лясы маёнтку Пяршаі, якія да вайны належалі графу Бенедыкту Тышкевічу. Пасля таго, як вязні апынуліся ў лесе, канвой НКУС папярэдзіў, што пры спробе збегчы будзе распачаты агонь на паражэнне. Арыштаваныя пачалі разбіраць бярвёны і класці іх у вазы. Дырэктар Ларэт працаваў як і ўсе. У пэўны момант раздаўся стрэл. Пан Адам упаў на зямлю. Смерць наступіла імгненна. Пасля забойства нкусаўцы сцягнулі з цела пінжак і штаны, а таксама элегантныя туфлі. Яны абшукалі кішэні вопраткі і знайшлі схаваныя гадзіннік і заручальны пярсцёнак. Канвойныя ледзь не пабіліся з-за гэтых трафеяў. Вязні працягвалі працу. А калі вазы былі запоўненыя бярвёнамі, нехта запытаў: «А што з целам рабіць?» Адзін з канваіраў крыкнуў па-руску: «Пусть гниет». Тады адзін з найбольш смелых сялян звярнуўся да нкусаўцаў па-беларуску: «Таварышы, гэта толькі парэшткі. Трэба іх дзесьці па дарозе закапаць». Нкусаўцы загадалі пагрузіць цела ў адзін з вазоў. Калі калона заехала ў Валожын, на скрыжаванні вуліцы Віленскай і дарогі да станцыі Харудкі адзін з нкусаўцаў дастаў рыдлёўку і загадаў капаць магілу. Ля помніку Незалежнасці вязні выкапалі яму і пахавалі Адама Ларэта».

Гаявы Францішак Дубіцкі ўспамінаў таксама, што калі закопвалі, ён адарваў кавалак кашулі і накрыў ім твар нябожчыка.

Сёння на тым месцы, дзе ўвосень 1939 года быў пахаваны дырэктар Дзяржаўных лясоў II Рэчы Паспалітай, знаходзіцца аўтобусны прыпынак. Вядома таксама, што праз гэта месца праводзілася каналізацыя. Сучаснае кіраўніцтва Дзяржаўных лясоў Польшчы звярталася ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з просьбай перадаць архіўныя матэрыялы, якія датычацца арышту Адама Ларэта, аднак беларускі бок паінфармаваў, што ніякіх дакументаў у архівах не знойдзена. У 2008 годзе ля будынку пошты ў Белавежы былому галоўнаму ляснічаму Польшчы быў пастаўлены помнік.

# Паўстаць павінна была ўся Расія, ажно да Волгі

Алесь КІРКЕВІЧ

**Ці знішчалі паўстанцы Каліноўскага праваслаўных святароў? Чаму сяляне здавалі інсургентаў? Ці лічыў сябе Каліноўскі беларусам? Пра міфы і рэаліі паўстання 1863–1864 гадоў мы вырашылі пагутарыць з маладым гарадзенскім даследчыкам тэмы Васілём Герасімчыкам.**



## Міфы — неабходнае спрашчэнне

***— Міфы ў гісторыі — станоўчая ці адмоўная з'ява, нешта цалкам нармальнае альбо атавізм?***

— Міфы ў гісторыі былі, ёсць і будуць. На пэўным этапе ў развіцці любога народа міфы ў гісторыі дамінуюць. Скажам, Ластоўскі ды Ігнатоўскі займаліся гісторыяй Беларусі ад пачатку і да канца, фармавалі канцэпцыю яе развіцця, ідэалогію. У гэтым выпадку міфы — гэта неабходнае спрашчэнне для разумення шырокіх колаў.

У нашай навуцы саспеў момант, каб казаць пра рэчы, якія раней лічыліся табуяванымі тэмамі. Але варта памятаць, што пра гэта ўсё адно трэба казаць са сваіх беларускіх пазіцыяў, якія могуць не супадаць з пазіцыямі суседніх народаў. І гэта іх права, а ў нас — наша.

***— Яскравая беларуская афарбоўка паўстання 1863 года — гэта міф?***

— З паўстання 1863 года, на маю думку, пачынаецца гісторыя беларускай мадэрнай нацыі. З паўстанцаў выйшаў шэраг людзей, якія спрычыніліся да развіцця нашай мовы, культуры, ідэі незалежнасці. Самы яскравы прыклад — Францішак Багушэвіч, актыўны ўдзельнік баявых дзеянняў, які быў паранены падчас адной з бітваў.

Але варта памятаць, што нацыянальная ідэнтычнасць на той момант не мела вырашальнага значэння. Важна было месца твайго нараджэння, твой край, твая вера. Нацыянальныя панятцці толькі фармаваліся. Характэрна, аднак, што лозунг «Каго любіш? — Люблю Беларусь! — Дык узаемна!» паходзіць акурат з часоў паўстання. Яго не выдумаў Караткевіч, пароль паўстанцаў сапраўды фігуруе ў паказаннях Парфіяновіча, які, дарэчы, акурат здрадзіў Каліноўскаму.

## «Каго любіш?..»

***— Дык тэза пра тое, што паўстанцы не выкарыстоўвалі назвы «Беларусь» — міф?***

— Вось факты: 1 лютага 1863 года, праз дзесяць дзён пасля абвяшчэння пачатку паўстання, у Вільні выдаецца маніфест ад імя часовага ўрада ў Літве і на Беларусі. З'явіўся гэты маніфест фактычна высілкамі суполкі «чырвоных» на чале з Каліноўскім.

У выніку перавароту ў сакавіку 1863 года ўладу ў паўстанцкім урадзе захапілі «белыя», якія адстойвалі інтарэсы больш заможных варстваў насельніцтва. Аднак Каліноўскі не зрокся сваіх паўнамоцтваў, а напісаў ліст да Дзюларана і Гейштара, дзе было сказана, што ён «складае з сябе адказнасць перад нашчадкамі за далейшы лёс паўстання», але будзе працягваць прымаць у ім удзел. Калі б «чырвоныя» захавалі ўладу і ўплыў, беларуская тэма ў паўстанні, безумоўна, была б больш папулярнай і растыражаванай.

***— Але паўстанне незалежнай Беларусі пры перамозе інсургентаў — гэта ж міф? Ці не?***

— Я б не спяшаўся з такімі высновамі. Напрыклад, Васіль Ратч, афіцэр, якому Мураўёў даручыў напісаць гісторыю паўстання, адзначаў, што Каліноўскі ўспрымаў Беларусь і Літву як незалежную дзяржаву. Калі ўдзельнікамі паўстання былі такія людзі, як

> Міфы ў гісторыі
> былі, ёсць
> і будуць

Барзабагаты, Мінейка, Багушэвіч, Каліноўскі, яны цалкам маглі б у гэтай дзяржаве заняць належныя пасады ў выпадку перамогі. А была б яна ў федэрацыі з Польшчай ці свабоднай Расіяй — іншае пытанне. Нагадаю, што ідэя аўтаноміі альбо федэрацыі захоўвалася ў беларускіх колах ажно да часоў БНР.

***— А сам Каліноўскі лічыў сябе беларусам?***

— Часта даводзіцца чуць, маўляў, Каліноўскі не назваў сябе ні разу беларусам у дакументах. Прабачце, але ён не назваў сябе і палякам. І гэта, на маю думку, яшчэ больш яскравае сведчанне! Мінейка, напрыклад, лічыў сябе палякам, Гейштар — ліцвінам. Пра Каліноўскага такіх сведчанняў не захавалася. Ды і «паляк» тады не было тым, што зараз. Гэта была поліэтнічная азнака, як «рускі». Палітычна-рэлігійная ў нейкім сэнсе.

Каліноўскі быў, як кажуць, чалавекам не свайго часу, забягаў наперад. І ў сваіх сацыяльных поглядах, і ў нацыянальных. Таму менавіта ён са складанасцю ўпісваецца ў рэаліі свайго перыяду, які ён у нечым перарос. Дарэчы, у сваіх лістах з-пад шыбеніцы Каліноўскі звяртаецца менавіта да «беларускіх мужыкоў». Не літоўскіх, і не польскіх.

## «За нашу і вашу свабоду»

***— Наколькі крытычна варта ўспрымаць міф пра «антырасійскае» паўстанне 1863 года?***

— У тым жа варшаўскім маніфесце 23 студзеня гучыць заклік далучыцца да паўстання «маскоўскаму народу». Успрыманне расейцаў не было адназначна крытычным, прынамсі, існаваў падзел, мяжа. Шмат хто з паўстанцаў быў знаёмы па сібірскай ссылцы пасля паўстання 1830–1831 з «дзекабрыстамі», якія апынуліся там не нашмат раней.



Крыж праваслаўнага паўстанца

Не варта забываць, што на тэрыторыі Расіі існаваў шырокі рух па падрыхтоўцы свайго паўстання. Дзейнічаў, напрыклад «Союз русских офицеров Польшы», склад якога быў інтэрнацыянальны: туды ўваходзілі і расейцы, і палякі. Яны выхоўваліся ва ўмовах шматнацыянальнай імперыі і адчувалі адказнасць за яе лёс. Бачылі яны яе, канешне, па-рознаму — у выглядзе федэрацыі альбо ўнітарнай дзяржавы... Прынцыповым момантам было пазбыцца царызму. Дык і царская ўлада вешала і расстрэльвала яшчэ ў 1862 годзе сваіх жа, праваслаўных: І. Арнгольдта, В. Каплінскага, Ф. Растоўскага, Л. Шчура і інш.

Не дарма Звяждоўскі са сваім атрадам дзейнічаў на Магілёўшчыне і захапіў Горы-Горкі. Ягонай ідэяй было распаўсюдзіць паўстанне ажно да Волгі. Захапіць Смаленск і далей: вызваляць сялян, абвяшчаць маніфест... «Чырвоныя» ўспрымалі сялян як адзіны сацыяльны пласт, абаронцамі якога яны хацелі выступаць, а паўстаць павінна была ў выніку ўся Расія.

## «Сотнямі здзіралі скуры з праваслаўных бацюшак...»

***— Добра, а якія міфы альбо антыміфы існуюць з адваротнага, расійскага боку?***

— Найбольш яскравы, мабыць, тычыцца «генацыду» паўстанцамі праваслаўнага насельніцтва, і святароў у прыватнасці. Часцей за ўсё бяруцца цытаты з «Мужыцкай праўды» наконт «схізмы», ну а неяк зусім нядаўна я сам сустрэў у інтэрнэт-абмеркаванні пасаж пра тое, што «паўстанцы сотнямі здзіралі скуры з праваслаўных бацюшак». А дзе факты?

Фактам застаецца тое, што на беларускіх землях, з улікам Віленшчыны і Беласточчыны, былі забітыя цягам паўстання 4 праваслаўныя святары. Расейцы замардавалі каталіцкіх ксяндзоў — 8. Калі параўноўваць даты, бачым наступнае: Мураўёў прыязджае ў Вільню, па яго загадзе забіваюць ксяндза. Пагалосак ідзе ў народ, вынік: у наступную ноч вешаюць праваслаўнага святара. Потым зноў аналагічная сітуацыя... Атрымліваецца, што гэта рэакцыя абураных людзей на правакацыю, і бацюшка прапанаваў таму «кулю ў лоб»... Яшчэ адзін прыклад: чатыры праваслаўныя клірыкі з Жыровічаў, сярод іх памочнік архімандрыта Іван Шышко з вёскі Добрая Воля Ваўкавыскага ўезду. Дарэчы, амаль усё дарослае мужчынскае насельніцтва Жыровіцаў пайшло ў паўстанцы.



Паўстанцы - сучасная рэканструкцыя, Польшча

***— На баку інсургентаў праваслаўныя святары прымалі ўдзел у паўстанні?***

— Так, напрыклад, святар Мікалай Мароз, які служыў у царкве Лапніца пад Пінскам, заклікаў праваслаўную шляхту Піншчыны да ўдзелу ў паўстанні. Калі на сходзе нехта адмовіўся, бацюшка прапанаваў таму «кулю ў лоб»... Яшчэ адзін прыклад: чатыры праваслаўныя клірыкі з Жыровічаў, сярод іх памочнік архімандрыта Іван Шышко з вёскі Добрая Воля Ваўкавыскага ўезду. Дарэчы, амаль усё дарослае мужчынскае насельніцтва Жыровіцаў пайшло ў паўстанцы.

Цікавы момант: перад следчымі большасць паўстанцаў адмаўляла свой удзел альбо даводзілі, што «іх прымусілі». Але які гэта мог быць прымус, калі той жа Іван Шышко ўдзельнічаў у якасці касінера ў Мілавідскай бітве, а калі іх атрад адступаў, то далучыўся да падраздзялення Урублеўскага, замест таго, каб збегчы ці вярнуцца ў манастыр?

## Мёртвы — тры рублі, жывы — пяць...

***— А чаму паўстанцы часцяком казалі пра прымус, гэта баязлівасць альбо прадуманы ход?***

— Думаю, што была такая інструкцыя на выпадак палону. Справа ў тым, што турмы былі забітыя: у Беластоку ў пэўныя прамежкі часу сядзелі больш за 500 чалавек, у гарадзенскім астрозе — па 350–400. Таму, калі на табе не было канкрэтных «злачынстваў», казаў пра «прымус», быў селянінам, а можа яшчэ і праваслаўным, дык меў усе шансы пазбегнуць сумнага лёсу сваіх паплечнікаў.

***— Ці здавалі сяляне паўстанцаў уладам, як гэта часцяком можна прачытаць?***

— Пагалоўная падтрымка сялянамі царскіх уладаў — таксама міф. Так, сяляне здавалі паўстанцаў, ёсць такія факты. Бо за кожнага забітага атрымоўвалі па 3 рублі, за жывога — 5, чым дрэнна? Часам выходзіла камічна, бо сяляне здавалі таксама жандараў, бо лавілі ўсіх, каго раней не бачылі ў сваёй мясцовасці. Узровень страху, агульнай істэрыі і грашовай зацікаўленасці быў напрыканцы паўстання даведзены да такой ступені, што ў адной з віленскіх кавярняў затрымалі аднаго з кіраўнікоў жандармерыі, які прыехаў з Пецярбурга, бо задаваў падазроныя пытанні. Ну, і медаль можна было атрымаць: «За усмирение польского мятежа 1863–1864».

***— Наколькі пашыранымі былі гэтыя медалі?***

— Так, іх давалі, напрыклад, усім чыноўнікам, якія служылі на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю, усім святарам... Я сустракаў у дакументах нават такі выпадак: нейкі чыноўнік, які загадваў мінеральнымі водамі ў Друскеніках, звяртаецца ў Вільню, каб яму далі медаль, бо ён падчас паўстання... наўпрост знаходзіўся ў Друскеніках. А паколькі ў рэгіёне былі баявыя дзеянні, ён, маўляў, заслужыў. І яму, як не дзіўна, далі медаль. Медалі сталіся прапагандысцкім крокам імперыі, ідэалагічнай акцыяй, як пазней цэрквы-мураўёўкі.

***— Ці існуе, на тваю думку, у Беларусі падзел грамадства па прыкмеце стаўлення да паўстання Каліноўскага, як, напрыклад, ва Украіне па прыкмеце стаўлення да Бандэры і УПА?***

— На маю думку, паўстанне 1863 года для большасці беларусаў працягвае заставацца невядомым. Ёсць людзі, якія «ў тэме», якія цікавяцца гісторыяй ці палітыкай, і ў залежнасці ад сваіх палітычных поглядаў фармуюць стаўленне да паўстання: пазітыўнае альбо негатыўнае. Людзі на вуліцы недзе мо' і чулі пра Каліноўскага, але канкрэтных асацыяцыяў не маюць. Таму і патрэбныя міфы: праз іх закладаецца стэрэатыпнае ўспрыманне рэчаіснасці, базавыя асацыяцыі ў звычайнага абывацеля.

